УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)-44
Д11

Д11 Дыялог / Франц Сіўко ; Юры Станкевіч. – Мінск : Галіяфы, 2020. – 280 с.
ISBN 978-985-7209-34-7.

Гэтае выданне – своеасаблівая анталогія твораў, аб'яднаных сугучнасцю аўтарскіх поглядаў на з'явы грамадскага і культурнага жыцця Беларусі савецкага часу і так званага пераходнага перыяду. Аповесць Франца Сіўко "Удог" і раман Юрыя Станкевіча "Любіць ноч – права пацукоў" маюць як гарачых прыхільнікаў, так і непрыяцеляў, што з улікам надзённасці тэм і варыянтнасці іх інтэрпрэтацый цалкам зразумела. Творы, напісаныя на мяжы XX–XXI стст. і змешчаныя ў кнізе згодна з храналогіяй адлюстраваных у іх падзей, і праз дваццаць год пасля першага з'яўлення ў друку не страцілі актуальнасці і будуць цікавыя масаваму чытачу.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7209-34-7**



# АПАЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БЫЦЦЯ

Класічная мадэль літаратурнага заахвочвання беларушчынай звычайна грунтуецца на тэзісе абуджэння нацыянальнай самасвядомасці і яе эстэтызацыі ў вобразах людзей, апісаннях прыроды, у мастацкай інтэрпрэтацыі падзей гісторыі і з'яў культуры. Складзеная з гэтых элементаў мастацкая карціна твора традыцыйна ўтрымлівае сцверджанне аб прэстыжнасці свайго нацыянальнага свету, сакралізуе лучнасць з ім, а адарванасць ад яго тлумачыць парушэннем натуральных законаў быцця.

Дадзены патрыятычны наратыў, які стаў вызначальным для беларускай літаратуры, у працяглай традыцыі свайго мастацкага ўвасаблення нярэдка сутыкаўся з рызыкай пераўтварэння ў свое-

асаблівы творчы рытуал, напоўнены дыдактызмам і празмерным пафасам. Характэрны ж для нашага часу прагматызм, у сваю чаргу, змяншае эфектыўнасць уздзеяння на чытача традыцыйнай апеляцыі да пачуццяў годнасці, сумлення, справядлівасці. Для айчыннага прыгожага пісьменства з яго традыцыйным клопатам аб нацыянальных каштоўнасцях і першае, і другое — сур'ёзныя выпрабаванні на здольнасць заставацца актуальным для шырокай аудыторыі.

Прыклад змешчаных у дадзеным выданні аповесці Франца Сіўко "Удог" і рамана Юрыя Станкевіча "Любіць ноч — права пацукоў" ілюструе адзін з эфектыўных спосабаў вырашэння гэтай задачы на сучасным этапе. Абодва творы ўспрымаюцца як эпізоды хронікі беларускага быцця, аб'яднаныя адзінай сюжэтнай лініяй абароны *свайго* свету. Іх аўтары дасягаюць высокага ўзроўню актуалізацыі беларускага светаўспрымання тым, што, выкарыстоўваючы феномен адвечнага страху чалавека перад *чужым*, засцерагаюць чытача ад страты пачуцця нацыянальнага адзінства, выносяць папярэджанне, што такі сцэнарый будзе мець катастрафічныя наступствы для кожнага беларуса.

У мастацкай прасторы аповесці "Удог" Франца Сіўко структуры *свайго* і *іншага* вылучаюцца праз сканцэнтраванасць дзеяння на дзвюх геаграфічных назвах — Дубраўка і Крайна. Аўтарская прыхільнасць у дадзеным падзеле да беларускай вёскі Дубраўка і ў цэлым да свайго свету праяўляецца ў неназойлівым прызнанні за іх насельнікамі такіх станоўчых рыс, як гаспадарлівасць, працавітасць, маральнасць. Аднак гэтая перавага выяўляецца ў аповесці не ў пазіцыі прамой канфрантацыі, а праз своеасаблівы культурны абмен, які адбываецца на паўсядзённым узроўні.

На старонках твора неаднаразова паўтараецца сітуацыя, калі беларусы трапляюць у Крайну ў якасці будаўнікоў, ссыльных паўстанцаў ці дысідэнтаў, у той час як іх візаві аказваюцца замацаванымі на беларускай зямлі ў сферы адукацыі, культуры, бяспекі. Акрэсленыя статусы герояў дастаткова выразна ўказваюць і на пазіцыю аўтара, і на гістарычныя рэаліі, якія іх абумовілі. Разам з тым Франц Сіўко пазбягае дакладнага вызначэння месцазнаходжання Крайны, выкарыстоўваючы яе ў якасці абагульненага вобраза іншага свету, на адасабленні ад якога грунтуецца беларуская ідэнтычнасць.

У гэтых адносінах сімвалічна, што мяжа, якая звычайна выразна аддзяляе прастору *свайго* і *іншага*, у выпадку з Дубраўкай і Крайнай не адзна-

чаецца. Пераадоленне адлегласці паміж імі абумоўліваецца ў аповесці толькі залежнасцю ад часу, неабходнасць якога героі адчуваюць, калі перамяшчаюцца ў прасторы, і з бегам якога здзяйсняецца паступовае прыпадабненне Дубраўкі да паменшанае копіі Крайны.

Так традыцыйная для беларускай літаратуры праблема страты родных каранёў набывае ў аповесці Франца Сіўко новы аспект. Прычыны нацыянальнай трагедыі беларускага народа аўтар бачыць не ў адкрытай экспансіі знешніх варожых сіл, а ў той сітуацыі, калі адбываецца паступовая падмена ўнутранага зместу Радзімы. На прыкладзе перайменавання вёскі Дубраўкі, якая ў фінале твора, атрымаўшы новую назву — Падкрайна, губляе самастойны спрадвечны статус, пісьменнік папярэджвае чытача аб небяспецы перайначвання асноў нацыянальнага светаразумення.

Ахопліваючы сюжэтам твора значны адрэзак часу, Франц Сіўко спыняе ход апавядання на датах, за якімі стаяць важныя для сучаснай беларускай ідэнтычнасці падзеі. Паўстанне 1831 года, ускосна — польская акупацыя і Другая сусветная вайна, савецкі перыяд — гэтыя эпізоды служаць своеасаблівымі вяршынямі ва ўспрыманні беларускага часу. Падаючы хроніку гістарычнага быцця беларускага народа, аўтар звязвае яе трагічныя старонкі ў адно цэлае вобразам загадкавага і страшнага дрэва *ўдог*. У працягах аповесці яно мае і іншыя назвы — *угліс*, *году*, але адну і тую ж атрутную сутнасць, якая выкарыстоўваецца чужакамі для своеасаблівага "замбіравання" мясцовых людзей, пераўтварэння іх у бязвольных істот, пазбаўленых розуму, памяці і свядомасці. Непасрэдна ўздзеяннем пладоў гэтага дрэва тлумачыцца ў аповесці ўзнікненне ў менталітэце тутэйшага люду такіх адмоўных рыс, як апатыя, страх, невытлумачальнае памкненне да самазнішчэння.

З мастацкага пункту гледжання вобраз удога атрымаўся вельмі значным, ёмістым. Заўважаныя ў яго знешнім выглядзе дэталі (іголкі па краях лісця, моцныя галіны, роўны і слізкі ствол) і звышнатуральная прага жыцця перадаюць агрэсіўную ўнутраную сутнасць гэтага дрэва, што ўвасабляе ў творы крыніцу зла.

У прыродзе аналагам удога з'яўляюцца расліны інвазіўнага віду, якія запраграмаваны асвойваць новыя тэрыторыі і змяняюць мясцовую экасістэму пад свае патрэбы. Урэшце, і ўдог спраўляецца з гэтай захопніцкай місіяй, што адзначае ў канцы аповесці вясковая цётка Польця: "Тут во: уперад

адно было, а цяперака вун якія зараснікі. З насёна расцець. І ўсюдых так. Днямі сястры маёй Фэлі дачка з-пад Гродны прыязджала. І там ужэ поўна гэтых дзераваў. Як наўмысна хто сеець”.

Прапануючы арыгінальную інтэрпрэтацыю гістарычнага лёсу беларусаў, пабудаваную на своеасаблівай тэорыі змовы супраць беларушчыны, пісьменнік закладвае ў твор глыбокі падтэкст. Вобраз удога ў аповесці выступае сімвалам бяспамяцтва, бязвольнасці, якія пасьпяхова вырошчваліся на тутэйшай глебе, і пладамі якіх на працягу шматвяковай гісторыі карысталіся сілы, што варожа ставіліся да беларусаў. У аповесці акцэнтуецца ўвага на тым, што, падобна экалагічным нішам, якія займае ўдог, чужародная сутнасць запаўняе і духоўныя пустоты. У цэлым вобраз удога бачыцца вельмі нетыповым для нацыянальнай мастацкай традыцыі, у якой пад уплывам міфалагічнай спадчыны раслінны свет звычайна меў станоўчую семантыку, сімвалічна афармляўся ў знакавых вобразах (папараць-кветка, васількі, шыпшына і г. д.) і ніколі не надзяляўся агрэсіўнай, варожай сутнасцю.

Франц Сіўко парушае нацыянальны літаратурны канон: удог — чужаземная расліна, але асабліва небяспечная менавіта тым, што ўжо даўно расце на нашай зямлі і стала для многіх за гэты час яе неад’емнай часткай. Адурманеныя яе ягадамі мясцовыя жыхары страчваюць прыродны інстынкт самазахавання, актыўна губяць сябе і свой свет і разам з тым пачынаюць цаніць дрэва за яго такія-сякія выгоды: “Улетку ад слонца схавацца і паесць тэж. У вайну ягадамі ратаваліся. Расцець бо велькае і ягад многа”. Злавесна-жудасная сутнасць удога, так відавочная чытачу, не ўсведамляецца большасцю герояў аповесці.

Паказваючы, як буйнее гэтае дрэва на роднай зямлі, пісьменнік сімвалічна адлюстроўвае глыбіню крызісу нацыянальнай самасвядомасці, абсурднасць той сітуацыі, калі завезенае зло прызнаецца сваім, лічыцца неблагім набыткам, пра які варта клапаціцца. Тым самым статус роднага вызначаецца ў аповесці не фармальнай прыналежнасцю да тутэйшай зямлі, не гістарычным вымярэннем даўнасці прысутнасці на ёй, а толькі аўтэнтычным паходжаннем.

Відавочна, што жанравыя магчымасці аповесці не дазваляюць прэтэндаваць на эпічную распрацоўку аўтарскай міфалагемы нацыянальнай бяды, увасобленай у вобразе ўдога. Аднак у творы застаюцца адкрытымі і фінал, і сам сюжэт. Такая незавершаная канструкцыя аповесці Франца Сіўко

стварае дадатковую аснову для яе ўспрымання ў адзіным кантэксце з творам другога майстра айчыннае прозы — Юрыя Станкевіча.

Месца дзеяння рамана "Любіць ноч — права пацукоў" акрэсліваецца прасторай невялікага правінцыйнага горада, вобразам якога Юры Станкевіч задае тыя прасторавыя каардынаты мастацкага свету і які звязаны з асабістым жыццёвым досведам бадай што кожнага беларускага абывацеля. Але дэпрэсіўны стан, у які пагружае пісьменнік айчынную правінцыю, выяўляе ў рамане не гэтак праявы калектыўнай памяці, колькі калектыўныя страхі беларусаў перад беднасцю, безнадзейнасцю і безабароннасцю.

Для гераіні рамана Любы, у лёсе якой гэты шэраг трывог знаходзіць мастацкае ўвасабленне, іх назапашаны за жыццё негатыў з'яўляецца грунтам для яшчэ большай бяды, што прыходзіць у абліччы суседзяў-чужынцаў. Бездапаможнасць жанчыны, узведзеная аўтарам у абсалют, падкрэсленая і статусам удавы, і невылечнай хваробай сына, і безграшовай прафесіяй настаўніцы, прадвызначае трагічны вынік яе сутыкнення з тым абсалютным злом, якое ўвасабляецца ў вобразах прыхадняў. Смерць Любы ад іх рук — гэта своеасаблівая сакральная ахвяра, прынесеная



пісьменнікам дзеля таго, каб агаліць негатыўныя рысы беларускага менталітэту, вынесці на абмеркаванне праблемы раз'яднанасці, адсутнасці калектыўнай узаемадапамогі, што робяць беларусаў слабымі, цалкам неабароненымі перад знешняй пагрозай.

З выяўлення антанімічнай пары "бездапаможнасць — агрэсія" распачынаецца ў рамане Юрыя Станкевіча шэраг супрацьпастаўленняў, у аснове якіх ляжыць універсальнае размежаванне свету паводле прынцыпу "свой — чужы". Сюжэт твора, раскрываючы гісторыю змагання Данілы Прусака, брата Любы, з нашэсцем чужынцаў, дэманструе дзеянне найбольш катэгарычнага варыянта гэтага супрацьстаяння, калі *іншае* бачыцца цалкам варожым.

Падобнае ўспрыманне адлюстроўвае аўтарскую ўстаноўку на ўзрушэнне нацыянальнага як пачуцця самазахавання і ствараецца з дапамогай арсеналу эфектыўных сродкаў, запазычаных з міфалагічнай традыцыі. У мастацкіх апісаннях чужынцаў дамінуюць тыя рысы, якія адрозніваюць іх не проста ад мясцовага насельніцтва, але і ад людзей наогул. Безаблічны, мітуслівы, схільны да размнажэння натоўп, што гаворыць на незразумелай мове і вылуча-

ецца агрэсіўнымі паводзінамі і начным укладам жыцця, Юры Станкевіч адкрыта параўноўвае з пацучыным вывадкам, звяртаючыся тым самым да той ячэйкі генетычнай памяці, якая пачуццём страху нагадвае сучаснаму чалавеку аб часах, калі гэтыя грызуны прыносілі эпідэміі і голад.

Супрацьстаянне, што адбываецца ў рамках сюжэтнага дзеяння, знаходзіць выяўленне і ў будове мастацкіх вобразаў. Немудрагелістая фраза “чалавек па прозвішчы Даніла Прусак”, якой аўтар упершыню прадстаўляе героя, паступова набывае асаблівы сэнс, калі на фоне праяўлення звярынай сутнасці прышлых суседзяў становіцца відавочнай каштоўнасць чалавечнасці, а іх чужароднасць кантрастуе з аўтэнтычнасцю паходжання. Правядзенне пісьменнікам этымалагічнай сувязі паміж прозвішчам Прусак і назвай старажытнага балцкага племені, вядомага ў гісторыі трагедыяй свайго знікнення, выступае ў рамане дадатковым абгрунтаваннем першаснага права героя на гэтую зямлю. Тутэйшая супольнасць падаецца Юрыем Станкевічам унутрана аслабленай, няздольнай да кансалідацыі, уяўляецца той хісткай сістэмай, якая са з’яўленнем знешняй пагрозы лёгка пераўтвараецца ў хаос.



У процілегласць бязладдзю, “броўнаўскаму руху”, які зыходзіць ад прыхадняў, дзеянні Данілы Прусака вызначаюцца паказальнай лагічнасцю, нясуць выразны стваральны пачатак, падкрэслены нават яго месцам працы ў канструктарскім бюро. У кантэксце прадстаўленай у творы апазіцыі “хаос — парадак” дадзеная характарыстыка галоўнага героя дае падставы для вылучэння міфалагічнага падтэксту ў яго вобразе. Ускладаючы на Данілу місію па навядзенні парадку, вяртанні гармоніі ў разбалансаваны свет сваёй супольнасці, пісьменнік па сутнасці надзяляе гэты персанаж функцыяй, уласцівай архетыпу культурнага героя.

Трансфармацыя вобраза брата, які патрабуе справядлівага расследавання забойства сястры, у вобраз героя, надзеленага шырокімі паўнамоцтвамі па выратаванні і абароне суайчыннікаў, не набывае ў межах сюжэта твора канчатковага завяршэння. Аднак сам факт пераўтварэння вельмі значны для ідэйнай канцэпцыі і падкрэсліваецца ў агульнай плыні апавядання: Юры Станкевіч вылучае адмысловымі светлавымі і гукавымі эфектамі і адпаведным параўнаннем эпізод пабегу з турмы, паказваючы перараджэнне Данілы Прусака, які, пазбаўлены ранейшых ілюзій, пад бляск ма-

ланак і грукат грому вылазіць “са сцяны, як насякомае з кокана”.

Гэтым учынкам герой здзяйсняе вырашальны для свайго лёсу выбар паміж тым, каб застацца ў турме і загінуць духоўна ці фізічна, або вызваліцца з яе і набыць рашучасць, упэўненасць, гатоўнасць ахвяраваць сабой. Дзякуючы валявым якасцям Даніла ўрэшце здабывае перамогу, але яна носіць толькі лакальны характар: чужынцы, вымушаныя пакінуць горад, скіроўваюцца ў бок сталіцы. Пісьменнік падкрэслівае, што экспансія не спынілася, настройвае чытача на тое, што крыніца небяспекі стала нават яшчэ больш блізкай, — і такім адкрытым фіналам анансуе працяг таго супрацьстаяння, у якім герой кшталту Данілы Прусака будзе надзвычай запатрабаваным.

У творах Франца Сіўко і Юрыя Станкевіча адбілася тэндэнцыя сучаснай беларускай прозы на пераасэнсаванне падыходаў да выяўлення феномена беларушчыны. Аповесць “Удог” і раман “Любіць ноч — права пацукоў” уяўляюць стратэгію мастацкай актуалізацыі нацыянальнага, заснаваную на перамяшчэнні яе праблематыкі са сферы культурнага выбару асобы ў прастору пытанняў, звязаных з дзеяннем законаў прыроды.



Страта беларушчыны падаецца пісьменнікамі не толькі як іміджавы крызіс нацыянальнага праекта ці трагедыя вымірання аўтэнтычнай культуры, а як вынік своеасаблівага натуральнага адбору, у якім слабы арганізм саступае больш моцнаму і больш здольнаму да адаптацыі. Лагічнасць гэтай высновы, падмацаваная выкарыстаннем архетыповых уяўленняў, адрасуецца суайчыннікам, каб справакаваць у іх адпаведную абарончую рэакцыю, скіраваную на самазахаванне і кансалідацыю.

*Павел Кошман,*
*кандыдат філалагічных навук*

# 1

## *1831 • Пелагея*

На небе не было ні хмурынкі, а нязвыклы для гэтае пары года гром не сціхаў увесь надвячорак. Сіплаваты, як кашаль сухотніка, ён нечакана ўсчынаўся дзесьці ўдалечыні, адзываўся рэхам па наваколлі, павольна патанаў у знямелых ад пярэпалаху гаях і дубровах. Кожны раз зямля страхавіта ўздрыгвала пад ягонымі ўдарамі, а дрэвы глуха рыпелі патрывожаным голлем. Раптам невядома адкуль узлятаў вецер, разбэрсваў леташні сухастой на балацінах, з гучным самотным свістам кружыў над імшарамі. Птушкі спалохана сягалі па-над дрэвамі, кружылі ў паветры хвіліну-другую і, як толькі ён аціхаў, зноў



клаліся роем на голыя з зімы камлі. Зрэдку грымоцце суправаджала бліскавіца. Тады гром неяк адразу глушэў, рабіўся кароткі і рэзкі, бы пошчак пугі. Асветленае на  момант лясное закуцце весела ўспыхвала мірыядамі падталых лужынакльдзінак. Стомленыя доўгім чаканнем цяплейшых дзён людзі праводзілі паглядамі вузкі пасак святла, што імкліва знікаў у зямным прадонні, з надзеяй уздыхалі: “Можа, дасць Бог, нарэшце, дажджу”.

“Лінуў бы ўжо, ці што”, — падумала Пелагея і мацней, быццам баялася, каб саджанец не выпаў з рук на дол, прыхінула яго да грудзей, слізганула ў паўзмрок кухні.

Цеснае, з патрэсканых неабчасаных бёрнаў памяшканне сустрэла яе смуродам тытуню. Чатырнаццаць мужчын, якія дагэтуль аб нечым гучна гаманілі, дружна, бы па камандзе, сціхлі.

— Вучыцелька, — падняўся з-за стала гаспадар хаты Міхал Бабышка і з перасцярогаю зірнуў у кут, дзе стаялі прыслоненыя да сцяны чатырнаццаць жалязяк. — Па справе, ці як?

— Чула, адыходзіце, дык рашыла разлічыцца. — Жанчына дастала з торбы некалькі бутэлек. — За тое, што страху ў школцы адрамантавалі.

Касінеры заўсміхаліся, падміргваючы адзін аднаму, памкнуліся рукамі да парожніх кубкаў.

— Што разлічвацца, дзеці нашы, не чужыя, Пелагея Юр'еўна, — незадаволена азваўся чырванатвары маладзец, што сядзеў першы ад парога. Яго звалі Каятан Аўласевіч, ён, хадзілі чуткі, быў сярод тутэйшых касінераў за галоўнага. — Ды і піць нам няможна, заўтра ў дарогу.

Астатнія мужчыны сярдзіта зашыкалі на яго. Маўляў, падумаеш, прычына — у дарогу. Да мястэчка рукой падаць. А адтуль да гасцінца, дзе мяркуецца далучэнне мясцовых паўстанцаў да канфедэратаў, на падводах маюцца падвезці. Панінаму брату Тамашу гэтая справа даручана, а ён чалавек надзейны.

Каятан недаверліва зіркнуў на бутэлькі, падхапіўся з месца, штосьці шапнуў Бабышку на вуха.

— Кажаць пан Аўласевіч — нядобрае пітво, — прамовіў той і пачухаў патыліцу. — Бытта пані вучыцелька прывезлі з Крайны нейкую трасцу і збіраецеся нас усіх ёю патруціць.

— Няпраўда! — зайшлася абурэннем жанчына. — У Крайну я па паперу ды падручнікі ездзіла, а не па атруту.

— А ў істопцы што, зачыніўшыся ад усіх, два дні рабілі? — уступіў у размову Каятан.



— Дык... гнала гарэлку. — Пелагея рашуча пасунула да сябе адну з бутэлек. — Не верыце — сама першая вып'ю.

— Годзе ўжо, — прымірэнча сказаў гаспадар і дадаў, звяртаючыся да хаўруснікаў: — Што мы, звяры якія, што бабу будзем мучыць. — Сказаў так і ўзяўся адкаркоўваць бутэльку.

Пелагея счакала, пакуль разліюць гарэлку, затым выскачыла з хаты на двор, тулячыся да сцяны, падалася ўсцяж панадворкаў да пакояў. Грымоцце сціхла, але маланкі па-ранейшаму працягвалі секчы, таму было відна, як удзень.

Дапяўшы да першай курціны, яна спынілася. Разгрэбла рукамі цвердаватую, прыхопленую вечаровым холадам зямлю, дастала з-за пазухі расліну, уторкнула ў ямку. Усміхнулася сама сабе: справа зроблена. І толькі гэтак падумала, як моцны раскат грому скалануў наваколле.

Пелагея хуценька падхапілася, шырокім крокам папраставала назад, у вёску.

З Бабышкавай хаты ўжо даносіліся спевы. Спявалі “Ну жа, хлопцы...”[1].

Сэрца Пелагеіна зайшлося нянавісцю. Каб яны паздыхалі! Колькі ты іх ні вучы людскай мове,

[1] Словы з “Песні беларускіх касінераў”.

як аб сцяну гарох. Як ёй усё збрыдзела тут, у гэтым чужым, незразумелым краі! Але ж неяк будзе, нездарма кажуць: вада і камень точыць. Зараз галоўнае — пра ўцёкі падумаць. Пакуль не спахапіліся.

Канстанцыя выбегла следам за дзяўчатамі на двор і знерухомела ад нечаканасці. Сапраўды, усе чатырнаццаць мужчын, што надоечы збіраліся ў мястэчка, каб адтуль пад камандаю яе брата Тамаша рушыць насустрач асноўнаму войску паўстанцаў, сноўдалі па дзядзінцы, асцервянела дзяўблі косамі напалову адталую зямлю. Усе як адзін былі босыя, з расхрыстанымі на грудзях кашулямі. Змясіўшы дарэшты глебу на дзядзінцы, яны ўзяліся нішчыць кустоўе. Ледзьледзь набрынялыя пупырышкамі кусцікі ружаў, язміну, бэзу бездапаможна валіліся ніцма пад ударамі косаў, бязжаласна ўтоптваліся ў гразь.

Канстанцыя памкнулася туды, але дзяўчаты не пусцілі яе: “Няможна, панечка, здратуюць!”

І праўда, паўголыя касінеры з шалёнымі няўцямнымі вачыма нагадвалі гурт здзічэлага статку.

Канстанцыя паражагналася, адступіла назад, да ганка.



— Паклічце вучыцельку, Пелагею Юр’еўну, — загадала адной з чалядніц. — Яе пабойваюцца, дык, можа, дасць рады суняць.

— Вучыцелькі няма, — адказала дзеўка.

— Як няма? Дзе ж яна дзелася?

— Хто ведае... Кажуць, бачылі, як ляцела дасвеццем да гасцінца.

— Авохці мне! Уцякла, няйначай. Нездарма Тамаш ёй не давяраў. Як у ваду глядзеў.

Канстанцыя зноў спусцілася на дзядзінец, у разгубленасці стала пад дрэвам.

Што рабіць? Думкі, паганяючы адна адну, бязладным роем круціліся ў галаве.

— Ідзіце дахаты! — набраўшы ў лёгкія паболей паветра, выгукнула яна — хутчэй дзеля самазаспакаення, чым у спадзеве на нейкі станоўчы вынік.

Касінеры на хвіліну замерлі.

— Разыходзьцеся! — скамандавала яна зноў, ужо больш упэўнена. — Ану, каму кажу!

Мужчыны, пагрозліва махаючы косамі, падышлі бліжэй.

— Панечка, уцякайце! — закрычалі перапалоханыя дзеўкі і стрымгалоў кінуліся да пакояў.

— Я сказала — разыходзьцеся! — словы самі сабою выляталі з вуснаў Канстанцыі. Страху яна болей не адчувала. — Ідзіце дахаты! — крык-

нула яшчэ раз і пайшла насустрач раз'ятраным касінерам.

І — здарыўся цуд. Мужчыны спыніліся, драпаючы насамі косаў скалечаную зямлю, пачалі паціху разыходзіцца.

Канстанцыя перавяла дух, акінула паглядам дзядзінец. Ён нагадваў пляцоўку пасля віхуры. Толькі адна раслінка, нібы насуперак усяму, ацалела ў нялюдскай калатнечы. І нават, нягледзячы на сцюжу, паспела ўжо быццам выпусціць некалькі буравата-зялёных, з малюсенькімі іголачкамі на канцах, лісцікаў. Як яна называецца, Канстанцыя, хоць і была дасведчанай у батаніцы, не ведала. Але зараз ёй тое не абыходзіла. Куды больш непакоілі паводзіны касінераў. Што гэта з імі? Ці не павар'яцелі?

Яна паклікала фурмана, з перасцярогаю паглядаючы ўслед мужчынам, што сунуліся краем прысадаў у накірунку вёскі, распарадзілася запрагаць каня.

— У мястэчка да Тамаша паедзеш, — сказала звычным да загадаў голасам. — Раскажаш яму ўсё, як было. Лекара няхай прышлець.

Лекар, сур'ёзны негаваркі чалавек гадоў шасцідзесяці, прыехаў надвячоркам. Ягоны прысуд быў кароткі, бы ўдар бізуна:



— Патруціліся.

— Патруціліся? — Канстанцыя здзіўлена ўзняла бровы. — Чым?

— Гэта аднаму Богу ведама, — усміхнуўся стары. — Ды яшчэ, можа, самім мужыкам. Папытайцеся ў іх, як апрытомнеюць.

Касінеры апрытомнелі, аднак ніякія размовы з імі наконт прычын масавага ачмурэння вынікаў не далі. “Мусіць, вучыцелька гэная нешта падрабіла”, — сышліся на думцы, і на тым усё і скончылася.

## 2

### *1960 • Ромка*

Ромка шоргнуў запалкаю аб край карабка; яна ўспыхнула, але тут жа і пагасла. Рэзкі серны смурод разліўся па кухні. Ромка паклаў карабок на месца, упёрся пятамі ў дошку ўслона, дастаў з пяколка другі. З гэтага запалка загарэлася адразу. Хлопчык саскочыў з услона, жвава перабіраючы нагамі па падлозе, накіраваўся ў сені.

З-за хісткай рудой перабойкі, ад суседзяў, даносіліся п'яныя галасы і гукі прайгравальніка.

Ромка перабег вузкі, застаўлены рознымі гаспадарчымі прычындаламі калідор, выскачыў на панадворак.

Ля павеці дуракаваты Юзючок шчапаў дровы. Ён два дні таму прывалокся са сваёй вёскі ў заробкі і зараз так быў заняты справаю, што на Ромку і не зірнуў. І Ромка яго не зачапіў, хуценька, подбегам папраставаў да пуні.

З-за несупынных дажджоў сена сёлета было крыху ваглаватае, і матка, каб яно не папрэла ды не папсавалася, штодня адчыняла дзверыну пуні насцеж. Але сёння перад адыходам у краму чамусьці гэтага не зрабіла — мабыць, забылася.

Стромкая вузкаватая кладня на гэты раз здалася больш высокай, як звычайна. Але Ромку тое не збянтэжыла. Чапляючыся рукамі за доўгія, сціснутыя верхнімі пластамі сена канцы цімафееўкі, ён імкліва палез угору. І неўзабаве ўжо сядзеў на маціцы[2], якраз на тым месцы, дзе раней была столь, якую пару год таму знеслі, перарабляючы лямус[3] на пуню.

[2] Бэлька для мацавання дошак столі (дыял.).

[3] Старадаўняя гаспадарчая пабудова для захавання харчу, адзення, збожжа і інш. Улетку выкарыстоўвалася таксама ў якасці жылля.



Тут, у гэтым месцы, акурат усё звычайна і адбывалася. Стоячы на маціцы тварам да выемкі ў сене, запальвалі запалку, шпурлялі яе ўніз і, як толькі сена схоплівалася агнём, ніцма валіліся на яго. Полымя гасла, і гэта азначала выйгрыш, перамогу. Калі не ўдавалася даць яму рады адразу, збівалі адзеннем.

Забаву прыдумалі старэйшыя хлопцы. А ладзілі яе спачатку ў аборы, дзе, колькі памяталі сябе, валялася старое, паўстлелае калгаснае пакулле. Днямі тое пакулле кудысьці вывезлі, і старэйшы Ромкаў брат Толік прапанаваў гуляць у пуні. Так і зрабілі — вядома, употайкі ад бацькоў.

Учора выйграў брат. Яму тройчы ўдалося дарэшты накрыць сабою агонь. Сёння ўранку ён выправіўся з маці ў краму на той бок Дзвіны, і Ромку нічога не засталося, як бавіцца ў адзіноце.

У дальнім куце пад самым паддашкам спаў бацька. Калі ён паспеў прыйсці сюды ад суседзяў, Ромка не бачыў. Але па гучным, з падсвістам, храпе, імгненна вызначыў: п'яны добра і прачнецца не хутка.

Ён дастаў з кішэні пушку, балансуючы босымі нагамі на колкай маціцы, чыркнуў запалкаю па рудым шурпатым баку.

Сена загарэлася ўмомант. Ён не паспеў нават нахіліцца перад скачком, як усё наўкола аказалася ахоплена полымем. Агню было так шмат, што Ромка разгубіўся. Затым, не памятаючы сябе ад страху, кулем сігануў з кладні на дол, пужаючы курэй, выкаціўся на трасотнік[4]. Юзючок падбег да яго, бездапаможна ўзмахнуў у паветры паленам, адчайна заскуголіў.

Матчыну паставу ён пазнаў здалёк. Затым пачуў і Альбінін голас — перапалоханы, роспачлівы:

— Толік, бяжы па людзей!

Брат кінуўся да пакояў.

Суседзі павыскоквалі на двор, у паніцы замітусіліся ля пуні. Як заўсёды, калі здаралася нешта незвычайнае, каманду ўзяў на сябе Вітольды. Ромка чуў, як ён загадаў старэйшым хлопцам бегчы па коней.

Але калі коней прывялі і пачалі запрагаць, каб падвезці да пажарышча вады, ратаваць ужо не было чаго.

Страх абручам скаваў Ромкава цела. За ўвесь час, што гарэла пуня, ён толькі аднойчы прыўзняў галаву — паглядзець, дзе маці. Альбіны ён у дыме не ўбачыў, затое выразна пачуў сярод вэрхалу яе спужаны голас. Падхапіўся, каб бегчы на яго, але не змог, неслухмяныя ногі нібы ўраслі ў зямлю. Стараючыся як менш удыхаць едкі пах гару, урэшце-такі падняўся, пасунуўся бульбянішчам да пакояў.

— Ромак, сынок! — матка абхапіла яго за галаву, прытуліла да сябе.

Толік стаяў убаку, засяроджана глядзеў на брата ўважлівымі, крыху касаватымі блакітнымі вачыма. Ягоны прадаўгаваты, спэцканы сажаю твар нагадваў твар мурына са скульптурнай калекцыі дзядзькі Вітольдага.

— Няхай яму рукі адсохнуць, таму нягодніку, што падпаліў, — не выпускаючы Ромку з абдымкаў, сказала Альбіна.

Занятая меншым сынам, яна і не заўважыла, як перасмыкнуліся, быццам ад болю, пры гэтых яе словах вусны большага.

Горка галавешак яшчэ прывідна высільвалася рэшткамі дыму, а суседзі, збіўшыся ў гурт, абмяркоўвалі, што рабіць далей. Бедавалі: сена згарэла, а касіць больш няма дзе. З утварэннем у Дубраўцы калгаса людзей паболела, і з выпа-

[4] Пляц пры паветцы для парадкавання дроў (дыял.).

сам статку ды нарыхтоўкаю пошару[5] к зіме зрабілася цеснавата.

— Як-небудзь будзець, — не адпускаючы ад сябе ні на крок Ромку, сказала Альбіна і занепакоена дадала: — Гірона бачыў хто?

— Мабыць, спаць дзе рынуўся, — адазвалася Бакевічава Галіна. — Выпівалі з Петраком. Гляджу — захмялеў. Кажу: выпіў, дык ідзі кладзіся, як чалавек. Ён у дубкі: давай, маўляў, яшчэ. Выпхнула неяк, пайшоў...

— У пуню пайшоў, — вымкнулася наперад старэйшая Галініна, Валька.

— Матка Боска! У пуню! — выгукнула Альбіна і непрытомная павалілася на зямлю.

Шукалі Гірона доўга. Чацвёра прыезджых пажарнікаў і Вітольды спачатку прыгасілі брандспойтам галавешкі ад бёрнаў і дошак лямуса, што праваліліся ў падпол, і толькі пасля гэтага ўзяліся іх разграбаць. Рабілі без супынку некалькі гадзін, аж пакуль не натыкнуліся ў адным з куткоў на счарнелыя косці.

З жахам гледзячы на тое, што засталося ад мужа, Альбіна так моцна сціснула Ромкаву руку,

[5] Травяных кармоў (дыял.).



што той ускрыкнуў ад болю. Затым яна падышла да машыны, у якой сядзеў са звязанымі рукамі перапалоханы да паўсмерці Юзючок, сказала міліцыянеру:

— Пусціце, ён невінаваты.

— Невінаваты? — здзівіўся той. — Хто ж тады падпаліў пуню?

— Мужык мой заядлы быў курэц, чыркнуў п’яны, во і загарэлася, — адказала яна і страціла прытомнасць другі раз.

Гірона хавалі на трэці дзень пасля пажару. Майстравіты Вітольды збіў брату труну, аздобіў яе па баках адмысловаю разьбой. Увесь час, што дамавіна стаяла ў хаце, сямігадовы Ромка прасядзеў у суседзяў. І толькі на могільніку, падбадзёраны пяшчотнымі словамі маткі і ксяндза, крыху адтаяў і нават насмеліўся падысці да труны з бацькавымі парэшткамі.

Зямля пахіснулася пад ягонымі нагамі ў гэты момант і доўга, аж пакуль не ўзняўся над магілаю курганок, гайдалася сюды-туды, поўніла сэрца скрухаю і адчуваннем віны.

Тыдзень пасля пахавання прайшоў у клопатах. Спачатку даводзілі да ладу месца пажарышча.

І хоць рабілі гэта прыскакам, пасля працы ў полі, справа рухалася даволі спорна. І неўзабаве, пасля доўгай спрэчкі, ці варта ўзводзіць новы будынак на папялішчы, узяліся класці воддаль першыя вянцы, але не пуні, а шахі[6], каб хапіла месца і пад сена, і пад буракі, і можна было ў выпадку чаго, як зараз вось, паставіць і статак.

Апроч сена ў агні згарэлі ладныя запасы мукі і мінулагодняй бульбы. У нядзелю Вітольды запрог каня, і Альбіна з Галінінаю сястрой Польцяй Свістуніхай выправіліся на латвійскі бок па правіянт.

Грошай хапіла на тры мяхі сечкі, некалькі кіло пернікаў і з дзясятак боханаў пытляванага хлеба. Вярнуўшыся дахаты, жанчыны падзялілі муку між сем'ямі, ласункі раздалі дзецям.

Ромка, які пасля смерці бацькі ўвесь час імкнуўся застацца адзін, на пачастунак не пакваліўся. Альбіна загарнула чатыры ягоныя пернікі ў анучку, паклала ў шафу, моўчкі падалася з хаты на двор, дзе каторы дзень запар завіхаўся ля тоўстага ліпавага пакалака самотны Вітольды. Думка вычасаць брату помнік з дрэва прыйшла яму ў галаў яшчэ падчас пахавання, і цяпер ён аддаваў гэтай справе ўвесь вольны час.

[6] Шаха — вялікая пуня (дыял.).



Занятай хатнімі клопатамі Альбіне помнік абыходзіў мала. Куды больш непакоілі сыны. Ромка ходзіць сам не свой, па начах будзіць яе і суседзяў нечалавечым крыкам. І Толік перамяніўся са смерцю бацькі: калодзеж суму ў вачах. А ёй і пагаварыць з хлопцамі як след не выпадае з-за праклятай некальніцы.

Напрыканцы тыдня на пляц перад пакоямі ўехала падвода. Кабета год сарака ў крэпдэшынавай сукенцы саскочыла з яе, часценька міргаючы кароткімі светлымі вейкамі, здзіўлена сказала:

— Место какое-то... странное.

Гаварыла яна не па-тутэйшаму, але ўсе зразумелі яе.

— Гэта былая панская сядзіба, — сказаў спадарожнік жанчыны старшыня сельсавета Сцяпанавіч. — Паны з'ехалі, а пакоі, бачыце, ацалелі. Цяпер тут калхознікі жывуць, маладыя сем'і. Казаў той, усё для народа. Гэна — шаха будуецца замест пуні, што згарэла...

— А для клуба где помещение?

— У пакоях. Вялікая зала, месца хопіць. І вам побач для жытла куточак знойдзецца.

— Электричества нет?

— Ёсць, але часова адключанае — лінію рамантуюць. Ці не заўтра падключаць збіраюцца.

Маладзіца няспешна абышла абсаджаны язмінам і ружамі пляц, спынілася перад Вітольдавымі скульптурамі.

— А это что?

— Гэта штукар тут адзін ёсць, дык штукуець, выразаець markdown рознае...

— Что же, для украшения клуба вполне могут сгодиться. — Яна пакратала кожную фігуру рукамі, паблажліва ўсміхнулася. — Надо же: в такой глухомани и такой талант!

К вечару ўсе ў Дубраўцы ведалі: у вёсцы будзе клуб, і загадчыцу яго, маладзіцу ў крэпдэшынавай сукенцы, зваць Славай.

— Слава? Нянашае нейкае імя, — крутнуў галавою Пятрок. — Стася і то лепей. Праўда, Раман?

— Не ведаю, дзядзька, — адказаў той і адвёў пагляд убок. Прыезджая яму спадабалася, і ён баяўся, што хто-небудзь пра гэта здагадаецца.

Толік расхінуў бэзавы куст, ступіў у гушчар. Пасталелае за апошні тыдзень дрэўца выглядала неяк непрытульна. Прыгледзеўшыся да яго як след, Толік зразумеў прычыну: усе ягады на ім быццам карова языком злізала.

Дрэўца яны з Ромкам апышкалі на пачатку лета. Ягады хоць і былі зусім маленькія, аказаліся дужа смачныя. Што за яны, ніхто ў вёсцы не ведаў. Нават дасведчаны Вітольды адно паціснуў плячыма: маўляў, на ягонай памяці такіх у Дубраўцы не сустракалася. Можа, птушкі адкуль занеслі насенне. Ягады з кожным днём рабіліся ўсё смачнейшыя. Дык ці дзіва, што нехта іх паабзбіраў?

Штосьці шаснула ззаду — быццам хто ішоў. Толік азірнуўся. Ромка, маленькі на фоне гонкага кустоўя, стаяў у некалькіх кроках ад яго і церабіў далонню кішэню прышмальцаваных картовых штаноў.

— Гэта... я абабраў, — сказаў вінаватым голасам і зрабіў яшчэ адзін крок наперад. — Тады, як...

— Як пуня згарэла? — здагадаўся Толік.

Брат раскрыў рот — мусіць, каб пацвердзіць ягоную здагадку, але вымавіць нічога не паспеў. Асляпляльна-жоўты сноп святла рвануўся з акна бліжэйшай хаты, разануў прыцемак, разліўся ля самых яго ног.

**Агонь так хутка ахапіў кладню, што Гірон не паспеў ахнуць. Пасунуўся ўбок, хаваючы ад полымя твар, пачаў закопвацца глыбей у сена. Гэта не дапамагло, агонь з кожнаю хвілінаю пранікаў усё далей у тоўшчу кладні. Ромка кінуўся з выпрастанымі рукамі да бацькі, узяўся гасіць полымя далонямі. Усё было марна. Агонь не адступіў, наадварот, рабіўся ўсё больш страхавітым. А Гіронава цела ўсё танела і ўрэшце ператварылася ў некалькі чорных костак. Ромка закрычаў, вопрамеццю кінуўся прэч ад жахлівага месца...**

Шукалі яго ўсёю грамадой. Знайшлі пад раніцу ля ракі, побач з млынам.

— Што цябе напалохала, сынок? — ведучы яго сцежкаю да пакояў, дапытвалася Альбіна. — Няўжо праўда, як Толік кажаць, — святло?

Ромка моўчкі матлянуў галавою ў знак згоды.

— Дык святло ўсё ж? Гэта ж алектарка, Ромак, яе не след баяцца. Наадварот, добра, што адрамантавалі... Цяпер у нас заўсёды відна будзець.

Апошнія яе словы прагучалі ў вушах меншага сына як прысуд, але яна пра тое не ведала.



# 3

## *1965 • Любошчы*

**Водар парафіну расплыўся ў паветры, і тут жа да яго прымяшаўся пах гарэлага адзення. Бацька прыўзняў у труне галаву, ратуючыся ад агню, пасунуўся ўбок. Полымя ўжо лізала ягоны рукаў і абіўку дамавіны. Трэба было нешта рабіць. Ромка здзёр з канапы выцвілую старую капу, пачаў збіваць ёю агонь. Але стала яшчэ горш: вогненныя пырскі разляталіся ўбакі, траплялі ў сцены, у столь, у мэблю. Ромка ў адчаі закрыў твар рукамі, стрымгалоў кінуўся з лепшага пакоя ў кухню, з якой даносіўся паважны, крыху сярдзіты голас ксяндза...**

— Велькія мальцы, а ў споведзі не былі. — Тонкі, чысты пробашчаў палец ушчувальна захістаўся перад Ромкавымі вачыма. — Нявольна гэтак.

— Даруйце, ойча, — паўтарала як заведзеная Альбіна і роспачліва мітусілася па кухні. — У школе страшаць, што выключаць, як пойдзеш. Што нам рабіць?

Ромка, які яшчэ добра не ачнуўся ад сну, неўразуменна глядзеў то на ксяндза, то на маці.

— Бацькам грэх, не каму. — Ксёндз гаварыў, нібы ўбіваў у бэльку цвікі. Нарэшце, стаміўшыся, мусіць, павучаць, пайшоў.

Ромка скарыстаўся момантам, слізгануў за парог следам за ім. Альбіна засталася ў хаце адна. Але не паспела яна выцягнуць з печы апошні кацёл, як на ганку зноў пачуліся крокі.

Стася, вясёлая, у новым ваўняным жакеце, увайшла ў кухню.

— Нікога больш няма? — сказала, зырачы па кутках. — Сёння рэпетыцыя, дык прыходзь. "Ленин всегда живой" будзем развучваць.

— Прыйду, а як жа. Вітольдаму сказаць?

— Сама скажу. Дзе ён?

— На трасотніку.

Стася паправіла перад люстэркам валасы, знарок няспешна, быццам нехаця, накіравалася ў сені. Альбіна хуценька ўправілася з печчу, таксама падалася на двор.

Ля прыслоненага да плота Стасінага ровара стаяў Ромка і мацаў пальцамі бліскучую раму.

— Мама, купіш такі?

— Куплю, — сказала яна і ўздыхнула. Дванаццаць яе меншаму, а ценкі, бы васьмігадовы.



Маўклівы, зацяты, слова не выцягнеш. І крычыць спрасоння. Вадзіла да шаптухі — каб што. Цяжка з мальцамі.

— Вітольды кажаць, фігуру можна прадаць, і будуць грошы...

— Хто яе купіць, фігуру!

Вітольды сядзеў, абжаргаўшы босымі нагамі камель, на бервяне, дзяўбаў долатам напалову ўжо апрацаванае дрэва. Побач з ім стаяў Толік і ўважліва сачыў за кожным дзядзькавым рухам. Крыху воддаль, на перакуленым пні, сядзела Валька і ела недаспелы гурок. Яна нядаўна вярнулася з Дзвінска, дзе вучылася на швачку і дзе з ёю здарылася непрыемнасць з-за аднаго мужчыны. І, падобна было, шчыраваць з маткаю па гаспадарцы не збіралася. На пачатку года ёй споўнілася сямнаццаць, але выглядала яна на больш — з-за паставы, што неяк няўзнак, на вачах акруглілася, зрабілася па-жаночы вабнай. Апошні месяц яна, як і Толік, не адыходзіла ад Вітольдага. І той, хоць і адчуваў няёмкасць перад Галінаю і суседзямі, не надта гэтаму праціўіўся.

Тут жа таўклася і Стася. Непрыязна пазірала спадылба на маладую суперніцу, рабіла выгляд,

быццам думае нешта сваё. Убачыла Альбіну, схамянулася, заспяшалася адыходзіць.

— Чакаем на рэпетыцыі, Вітольд Іванавіч, — сказала, падцінаючы тонкія вусны. — У восем.

— Я таксама прыйду, — сказала Валька.

— Ксёндз, відалася, ішоў ад вас, — знарок не зважаючы на яе, а звяртаючыся да Альбіны, працягвала Стася. — Што яму нада?

— Сварыўся, што мальцаў у касцёл не ваджу, — адказала Альбіна.

— Глядзі ты! — Стасін твар успыхнуў ад абурэння. — А што дзяржава ў нас ад царквы аддзеленая — забыўся? — Яна вярнулася да хаты па ровар, узлезла на раму, паруліла з песняю з панадворка.

Альбіна паставіла кошык на ганак, стомлена апусцілася побач. Ісці ў хату не хацелася — за два гады тая так і не стала сваёй. Залетась, акурат во гэткаю парою, як цяпер, у пакоях парабілі склады для ўгнаенняў, а жыльцоў папорасялялі ў хаты вывезеных падкулачнікаў. Тады ім, Старынскім, і дастаўся дзіравяваты, хоць з выгляду яшчэ досыць прыстойны трысцен дзядзькі Вайцюля. Пазней, калі зліквідавалі склады, а да пакояў пацягнуліся з усяго наваколля падводы



па дармавыя дрэва і цэглу, да іх перабраўся Вітольды. Яна не хацела: мужчына нежанаты, што людзі скажуць? Але мусіла пацясніцца: радня ёсць радня.

А тым часам пакоі зусім заняпалі. Вельмі хутка ад іх засталася адна ніжняя, і то не ўся, частка. Бэлькі, перакрыцці, каменне перакачавалі на ферму. Шмат што асела ў асабістых падвор'ях дубраўцаў.

Цягнулі ўсё падрад, без разбору. На што ўжо нядбайны Польцін Янка, а і той прывалок дадому рэдалі[7] каляровае кафлі ад печы, не ведаючы, як даць ёй рады, згрузіў грудаю ля хлява. Адзінае, што засталося на сядзібе некранутым, былі сутарэнні. У іх парабілі загародкі для авечак, а ў апошнім ад лядоўні — клуб. Цяпер Стасі працы паменела, і напрадвесні яе прызначылі па сумяшчальніцтве звеннявой па льне.

Уздыхнула Альбіна: гэтак усё змянілася ў Дубраўцы апошнім часам. І ці ўсе гэта яшчэ змены? Вунь наваспечаная звеннявая з ранку да змяркання бродае па наваколлі з сякераю, шукае, што яшчэ можна высекчы. Ходзіць пагалоска, нібыта зноў у сваю Крайну збіраецца, вось і пляжыць усё, што ні трапіць пад руку.

[7] Калёсы (дыял.).

З-за кустоўя, ад пуні, пачуўся шоргат колаў. Брыгадзір Мэська Пілецкі, якога ўсе звалі за вочы Манолісам Глезасам, падруліў на ровары да самае хаты, спыніўся побач з Альбінай.

— Заўтра лён церабіць, — сказаў надтрэснутым — ці не з перапою — голасам. — Дык прыходзьце ўсе.

Старэйшыя падавалі кулі на канвеер, дзятва пераймала абмалочанае з камбайна, адносіла да сціртьі. Праца, хоць і здавалася на першы погляд няцяжкай, вельмі хутка стамляла. Апроч стомы, даймаў пыл. За якую гадзіну твары ў людзей зрабіліся шэрыя, бы прысак. Дадаваў клопату і вецер. Сцюдзёны, напорысты, ён віхураю ўрываўся на пляц перад камбайнам, зласліва насвістваў, шпурляў дубраўцам у твар жмені пацяробкаў напалову з пылам. Брыгадзір усё часцей пасыкваў на дзяцей, каб варушыліся.

Альбіна з трывогаю зірнула раз, другі на свайго меншага. Зноў кепска спаў уначы і зараз ходзіць, нібыта здань. А яшчэ ж да катэхета ўвечары, цвічыць малітвы, дык ці вытрывае?

Ззаду нячутна падышоў Вітольды, перакрываючы голасам грукат камбайна, гукнуў у вуха:

— Ксяндза забралі.



— Куды забралі? — не зразумела яна. — Хто?

— Чортведама. Брыгадзірыха ваду прывозіла, дык казала.

— Твая ўжо ці не пастаралася...

— Якая мая?

— Ільнаводка. Звенавая, а на полі не пакazалася нават. — Альбіна пераняла апошні куль, панесла да сціртьі. — З бартаю[8] сноўдаець у прыцемках... Каб на яе дрыстун.

— Шкода пробашча. — Галіна недаўменна пахітала галавой. — І чым ён Стасіндоры не дагадзіў?

— Вядома чым, — сказала Альбіна. — Пасварыўся, што сячэць наўкола, во і адпомсціла, данесла.

— Пакараець яе Бог.

— Глядзі, каб не пакараў. Хутчэй мы тутака ў пустэльні застанемся. Папляжыць усё ды паедзець.

— Думаеш, паедзець?

— Кажуць усе. Нібыта дачка там у яе хворая, няма каму даглядаць. Знова, на Вітольдага крыўда... А й варта! Было не квапіцца на маладога.

[8] Від сякеры.

Ён сабе і дваццацігадовую найдзець. А можа і маладзейшую. Тваю Вальку, да прыкладу.

— Няхай бы, я не проці была б.

— Казала яму — пасмяяўся. Замаладая, маўляў. Яму, мусіць, фігуры ягоныя драўляныя болей за ўсё абыходзяць. Ну дык няхай і цешыцца імі, халасцякуець.

Крокі харыстаў паволі стаялі ў вечаровай цішы. Вітольды, ніякавата ўсміхаючыся, моўчкі таптаўся на месцы. Ягоныя закаструбелыя ад пастаяннага сяброўства з долатам і малатком рукі на тле бялюткай святочнай кашулі нагадвалі галаўні.

Цяпер, застаўшыся з ім сам-насам, можна было пачынаць размову. Але Стася не спяшалася. Крыўда абручом пераціснула ёй горла. Як яна ўсіх іх ненавідзіць! Усіх — з іх недарэчнымі імёнамі і звычкамі. Гэтага нельга, тое — “нявольна”. Адзіным, да каго гарнулася, быў ён, Вітольды. Ды і з ім, падобна, непярэліўкі. А гэтулькі сіл паклала, каб прынадзіць. І ўжо, здавалася, пасунулася справа, як адкуль ні вазьміся гэтая Валька... І ўсе старанні — кату пад хвост. Дык пра што гаварыць? Не, не будзе яна нічога казаць.

— Ад’язджаеш, чуў? Праўда гэта?

— Можа быць. — Стася збегла з ганка, рашуча ступіла ў густы, напоўнены водарам яблыкаў прыцемак. Сякера пры ёй, а больш нічога і не трэба. Маленькая вострая сякерка — адзінае, што патрэбна ёй, каб выказаць сваю пагарду і нянавісць.

Валька зняла з плота даёнку, не даслухаўшы, што казала з істопкі праз адчыненыя дзверы маці, накіравалася да выгану. Спяшалася: карцела як найхутчэй пабачыць Вітольдага.

Вітольды з Толікам палілі на сотках падсохлы бульбоўнік. Было цеплавата, і на спінах у абодвух прабіліся плямы поту.

Яна ўладкавалася пад Міртаю, робячы выгляд, быццам доіць, пачала цікавацца за мужчынамі.

Сталыя дзядзечкі заўсёды падабаліся ёй больш за аднагодкаў. Таму вось і цяпер закахалася ў старэйшага. Праўда, ніколі нічога путнага з такога кахання не атрымлівалася. Вунь летась выкладчыка аднаго ў Дзвінску ўпадабала — і што? Такі вэрхал узнялі ў вучэльні, што лепш і не ўспамінаць. Выклікалі маці, тая прыехала, каб забраць яе назад у Дубраўку.

Сорамна ўспомніць! Прыехала ў ватоўцы і з парога — давай вучыць, як сябе паводзіць з мужчынамі... Тут зноў — Вітольды. Ёй шаснаццаць, яму — трыццаць шэсць. Да таго ж, ходзіць пагалоска, са Стасяй у яго штосьці.

Тым часам мужчыны скончылі працу, пакідалі вілы, накіраваліся да ракі мыцца.

Валька ўскочыла з-пад каровы, хіснулася следам у хмыз.

Паўголы Вітольды здаўся ёй падобным да Бога.

Быццам якая невядомая сіла гнала яго ў гэты вечар да ракі. Альбіна крыкнула наўздагон, каб перавязаў нанач авечак, але ён, заняты сваімі думкамі, нават не павёў брывом. Сцягнуў на прыстані праз галаву кашулю, убрыў у ваду. Хуценька абліў далонямі жывот і плечы, пацепваючыся, выскачыў назад на бераг. І тае ж хвіліны пачуў ад пакояў знаёмы стук сякеры. "Халерная баба, — падумаў, абціраючы цела ручнікам. — На ляда ператворыць мясціну".

У лагчыне, як і ўчора, калі прыбіралі з Толікам бульбоўнік, Валька валаводзілася з каровай. Тая закрапалася ланцугом за лазовы куст, і дзяўчына ніяк не магла даць ёй рады.

Вітольды кінуў на сцежцы ручнік, кінуўся Вальцы на дапамогу.

Яна трымала Мірту за повад, а ён моўчкі кружляў з ланцугом наўкола куста. Калі ланцуг нарэшце быў раскрапаны, уторкнуў калок у ранейшае месца, падаўся да Валькі. Яна часценька задыхала, неяк скоса, быццам з недаверам, пазірала на яго з-пад рукі. Затым нечакана імкліва пасунулася бліжэй, датыкнулася грудзьмі да ягонага пляча.

Ён схапіў дзяўчыну за руку, прыціснуў да сябе. Яна ўскрыкнула, але вырывацца не стала. Усё гэтак жа моўчкі ён падвёў яе да хмызу, трымаючы адною рукой за шыю, пачаў другою таропка распранаць. Яна не праціўілася, толькі безуладна асядала целам усё ніжэй і ніжэй. Не памятаючы сябе ад узбуджэння, ён расшпіліў штаны, паваліў Вальку на траву...

Страхавітая раз'ятраная пачвара нечакана ўзнікла па-над кустоўем, узмахнула ў паветры сякераю. Іржавае тупаватае лязо мільгнула ў паўзмроку, з глухім скавытаннем апусцілася долу, на галаву Вітольдага.

Валька прыўзнялася, намагаючыся скінуць з сябе акрываўленага каханка, падалася целам убок. Крык вырваўся з ейных грудзей, зліўся з пасвістам ветру, скалануў наваколле.

Цёмная вялізная хмара запяла сабою неба, праглынула рэшту роспачлівага Вальчынага крыку. Тарганулася колькі разоў сюды-туды, замерла над Дубраўкай.

Калі яна ачнулася, наўкола было ціха, як на могільніку. Варухнула рукамі — цэлыя. Тулава, ногі — таксама на месцы. Адзінае, што даймала прыкраю няўтульнасцю, было адчуванне нечага мокрага на грудзях і шыі. Яна памацала пальцамі мокрыя месцы: падобна на кроў. Але чаму тады пад ёю суха? І дзе Вітольды?

Яна паклікала яго раз, другі — каб гук у адказ. Тады паднялася, пераадольваючы боль ніжэй паніізу жывата, пасунулася да ракі мыцца. І ўжо калі амаль дапала да вады, успомніла ўсё і страціла прытомнасць.

Зноў ачнулася яна на чацвёрты дзень. У хаце было поўна людзей. Усе глядзелі на яе са шкадаваннем і быццам чаго чакалі.

З сяней убегла ў пакой Галіна, не выпускаючы з рук секача, якім толькі што секла ў істопцы ахрап’е, кінулася да дачкі.

— Валя! Дачушка!

Валька прыўзнялася на ложку, абвяла прысутных няўцямным паглядам.

— Ві-тольды... дзе?

Наперад прасунулася паўз суседак Альбіна, нахілілася над хвораю.

— Бог ведаець, — сказала з уздыхам. — Як скрозь зямлю праваліўся. Чакалі, калі ты апрытомнееш, думалі — скажаш.

— Стася знаець. — Вальчын голас паслабеў, зрабіўся невыразны.

— Стася нам не памочніца, — сказала Галіна. — Яна тры дні як з’ехала ў сваю Крайну.

Наваколле абшнарылі некалькі разоў, і ўсё дарэмна. Вітольды, сапраўды, нібы пад зямлю праваліўся.

Тады абшукалі ўсе віры, і таксама беспаспяхова.

І толькі праз два месяцы, ратуючы авечку, што звалілася недалёка ад ракі ў паўзакінутую бульбяную яму, натыкнуліся на яе дне на вымытую дажджом з-пад пяску мужчынскую руку.

Усе, хто прыйшоў паглядзець труп, у адзін голас прызналі ў ім Вітольдага. Паведамілі ў міліцыю. З раёна прыехалі пракурор са следчым, медэксперт і яшчэ некалькі чалавек. Апыталі ўсіх, але безвынікова. Пра абставіны трагедыі ніхто нічога не ведаў.

Тады Альбіна павяла прыезджых да Бакевічаў.

У хаце была адна Валька. Твар яе чырваніў ад слёз. Напярэдадні яна аб'явіла бацькам, што цяжарная, і ёй добра дасталося ад Петрака. Убачыўшы староннiх людзей, яна адразу здагадалася, што да чаго. І, блытаючыся ад хвалявання і страху, расказала ўсё, як было. Усё, апроч аднаго — галоўнага. На тое не хапіла духу.

## Польцця

(з магнітафоннага запісу аспіранта
М. Дзямешкі)

*Яно гэдак: не адно, дык другое. Тока Гірона паспелі пахуваць, як на табе — знова бяда. Вітольдага шкода, рабацяшчы быў. І ўмеў усё. Дужа шкода. Адзін за адным браты паляглі. Але што ж, рук, казаў той, не падкладзеш. Як падроблена ўсё роўна.*

*А што — падрабляюць. Вунака праз целявізар фігурнае катанне надавалі... Мужчына бабу, ці то дзеўку там, падымець і круціць, бытта на пальцы. А тады яшчэ кінець з усяго расшпару. І думаць нечага — падроблена. Гэтаксама і тут, з Вітольдым. Што ён, сам сябе ў яміне тэй засыпаў? Дай ты рады!*



*Валька, сястры маей стрыечнай дачка, пэўна, знаець, як было. Але маўчыць. Можа, баіцца... А можа і ня хочаць казаць, мала якая прычына. І я дагадаваюся, але тожа маўчу. А што, во гэдак вымкнесся, а тады і зробіцца што. Хош яе, Стасі, няма тут цяперака, а раптам вернецца? Усяк жа бываець.*

*Што пытаецеся? А, гэта? Гэта пакоі. Даўней паны жылі. Ад Саветаў у Польшч уцяклі, а ўсё іхнае асталося. Тут во — кветнікі, кветкі разныя. Улетку як зацвітуць — красна а красна ад цвету.*

*Пакоі бураць. Халерая цябе: каму што нада, тое і бярэць. Пачкі разабралі ўжо. Тожа шкода. Пакоі ладныя былі, што кругом, што сама будыніна. У доле сцены таўстыя, мураваныя. Там кухня з пякарняй, склеп. Два коміны з капцільняй, для вэнджання. Вышэй — жылыя мяшканні. Сталоўка і шэсць пакояў, салон. Яшчэ два пакоі. Крэпкае ўсё, з дубу. Шчыткі красівыя, з маляванай кафлі.*

*Мне не наравіцца, што бураць. Распасорыць лёгка, а ці збярэш тады? Але як перабаразніць — не знаю. Казаць — што пугай па вадзе сцёбнуць. Тока ворагаў нажывеш. Можа, вы падказалі б,*

*што робіць? Каму яны нада, кажаце? Во, усе так кажуць. Можа, і праўда гэта. Дык звініце, што патурбавала.*

*А што вы тутака ў нас, па справе ці сяк? Бабы, чула, казалі, бытта, як гаворым, запісываеце. І то работа. І песні тэж? Не, я не пяю, не даў Бог голасу. Тока як памрэць хто, тады разам са спявакамі, за кумпанію. Сястра, пра каторую казала, Галіна, красіва пяець. Ужо ад'язджаеце? Шкода, а то Галіна многа песень знаець. Але як ад'язджаеце, дык што ж... Давідзэнька вам, дасвідання! Тэж паляту. Карова рана палёталася, дык во калі ацялілася, даіць надабя.*

Неўзабаве пасля пахавання Вітольдага, на пачатку снежня, калі быў падняты з поля і перавезены ў шаху лён, Альбіна атрымала ліст. Пісаў з Рыгі стрыечны Гіронаў брат Лявон. Вія, ягоная жонка, месяц таму загінула пад машынай. У горадзе аднаму з дзіцем надта цяжка, таму ён хацеў бы вярнуцца на сталае жыццё ў родныя мясціны. Дык ці ёсць якая магчымасць зачапіцца?

Альбіна і не памятала, калі апошні раз трымала ў руках пісьмовыя прылады. Таму адпісваць ліст узяўся Толік — пад яе дыктоўку. Пасланне атрымалася кароткае, але змястоўнае. Ім вельмі, вельмі шкада Віі. А што да вяртання, дык, вядома ж, можна неяк уладзіць. Пустуе канец хаты Вітольдага, можна пажыць у ім колькі часу.

Яна адставіла кошык з бульбаю, выпрастала спіну. Ззаду хтосьці падышоў, спыніўся побач. Каторы з сыноў, падумала яна і азірнулася. Не, то былі не сыны.

— Гэтак скора? Мы і не чакалі... А дзе ж дзяўчына?

— У Віінай сяброўкі пакуль асталася.

Лявон, элеганцкі, у даўгім дэмісезонным паліто, стаяў ля бурта і весела ўсміхаўся. Ягоныя, па ўсім відаць, новыя, без адзінае зморшчыны на саюзках туфлі ў камяках гразі нагадвалі хадакі.

— Чаго не паведамілі, што прыедзеце? — збянтэжана паўтарала Альбіна. — Мы каня папрасілі б у брыгадзіра падвезці... А то, бачыце, абутак зблоцілі...

Ён зноў усміхнуўся.

— Абутак не самае галоўнае ў жыцці, — сказаў і, лёгка падхапіўшы адною рукою кошык, панёс яго да хаты.

# 4

## *1966 • Люся*

— Гэта я, адчыні. — Лявонаў голас гучаў крыху прастуджана.

Альбіна адчыніла засаўку, ратуючыся ад сцюдзёнага ветру, што рваўся з вуліцы ў сені, кінулася зноў у хату. Лявон увайшоў следам за ёю, запаліў папяросіну.

— Дык як, не перадумала? — спытаў і зацягнуўся дымам.

— Перадумала? А хіба я што абяцала?

— Я так зразумеў учора, што ўсё вырашана.

— Ой, не ведаю... Года не мінула пасля Віінай смерці... Падумай сам.

— Думаў. Цяпер ад цябе залежыць, як скажаш, так і будзець.

— Куды ты гэтак спяшаешся?

Ён моўчкі пакруціў “беламорыну” ў руцэ.

— Дзяцёнка шкода.

— Гэта іншая размова, — пагадзілася яна.

— На тым тыдні паеду, досыць ёй па чужых бадзяцца пры жывым бацьку. Дровы папілуем, і паеду.

— І я з табой.



— Добра, — сказаў ён і, абдаўшы ўсё наўкола адчуваннем спакою і трываласці, пасунуўся да ложка распранацца.

Альбіна таксама распранулася, хацела кульнуцца цераз яго да сцяны, на сваё ўлюбёнае месца, але ён не даў — абхапіў дужымі, з каструбаватымі далонямі, рукамі, прыхінуў да сябе.

— Пусці, мальцы пачуюць.

— Не пачуюць. — Лявон схіліўся над ёю, пачаў лашчыць шыю і плечы. — Цяпер баішся, а што запяеш, як і дзеўка з’явіцца?

— Калі яшчэ тое будзець, — сказала яна і падалася да яго. Прыхінулася грудзьмі да мужавых, уздыхнула: ніколі яшчэ не было ёй так добра.

Цягнік прыйшоў у Рыгу а палове сёмай. Увесь час, што крочылі праз сутарэнні, а потым праз мост да патрэбнага квартала, Альбіна разглядала натоўп. Так шмат людзей адразу яна ніколі не бачыла. Добра, Лявон побач, суцяшала сябе, усё тут ведае, дык дадуць неяк рады.

Тамарын дом знайшлі хутка, ён знаходзіўся недалёка ад чыгункі. Шэрая змрачнаватая будыніна нагадвала больш халупу, чым гарадское жытло.

І ўнутры будынка было не лепш. Цёмны, без аніводнае лямпачкі, калідор, рад пашэрпаных,

з патрэсканымі вушакамі дзвярэй. Калі іх абміналі, пах цвілі так моцна шыбануў Альбіне ў нос, што яна міжволі сціснула яго пальцамі.

На званок не адазваліся, але ў памяшканні хтосьці быў: чутно было, як хадзілі. Лявон колькі разоў тарганўў ручку дзвярэй.

— Хто там? — жаночы голас гучаў спалохана.

— Тамара, гэта я, — сказаў Лявон і драпнуў пальцамі па дзвярах. — Я і Альбіна.

Дзверы павольна адчыніліся.

— Ты, Леванарды? — Гаспадыня, тоўстая пажылая кабета з бігудзямі на галаве, адступіла ў глыб прыхожай. — Уваходзьце! Люся, дзіцятка, хадзі сюды!

Яшчэ адна, меншая, постаць, няўпэўнена ступаючы па рыплівай падлозе, наблізілася да гасцей. Лявон правёў далонню па валасах дзяўчынкі, затым узяў яе і Альбініну рукі, звёў у адно.

— Пазнаёмся, дачушка...

— Пусціце! — выхопліваючы руку з Альбінінай далоні, закрычала малая. — Я да мамы хачу!

І апрамеццю кінулася ў цёмны калідор.

Да могілак дабіраліся даволі доўга, амаль гадзіну. Седзячы ўпобачкі з Тамарай на мулкім сядзенні, Альбіна раз-пораз кідала заклапочаны пагляд на падчарку. Тая ўладкавалася на каленях у Лявона, засяроджана малявала ўзоры на заінелым акне трамвая.

Курганок над Віінай магілкай, як і ўсе магілы наўкола, буяў фарбамі штучных кветак. Тамара расклала на століку абрус, дастала з сумкі гарэлку і сёе-тое з ежы.

— Што вы, піць тут будзеце? — Люся схапіла бутэльку, шпурнула ў куст.

Лявон замахнуўся, каб квэцнуць дачку па руцэ, але Альбіна спыніла яго.

— Нічога, няхай перакіпіць, — сказала і краем вока заўважыла, як малая з удзячнасцю зыркнула на яе з-пад доўгіх веек.

Калі яны прыйшлі на станцыю, да адыходу цягніка заставалася пятнаццаць хвілін. Тамара, якая ўвесь гэты час, што Лявон паказваў жонцы Старую Рыгу, вартавала майно, узяла Люсю пад руку, павяла ў падземку. Альбіна і Лявон моўчкі пасунуліся следам.

Дзяўчынка пакорліва ўвайшла ў вагон, села побач з бацькам. Сядзела ціха, не варушачыся, глядзела, як старэйшыя развітваюцца. І толькі

калі састаў крануўся і засталася дзесьці ззаду блішчастая Тамарына хуста, усхапілася з месца, адчайна, уголас, заплакала.

— Нічога, у Дубраўцы ані не горш табе будзець, як тут, — тулячы малую да сябе, сказала Альбіна.— Паглядзіш, ані. А можа, яшчэ і лепей.

Толік і Ромка сустрэлі новую сваячку з насцярожанаю цікаўнасцю. Доўга разглядалі канапаты, з няўсмешлівым шырокім ротам твар, ценькую постаць. Гэтае нясклёпістае, палахлівае кураня — іх сястра? Дай ты рады!

Люся, на дзіва, да новага жыцця прызвычаілася вельмі хутка. Нават навучылася даіць карову і неўзабаве стала рабіць гэта так спрытна, што не кожная з дубраўскіх равесніц магла з ёю сагнацца. І наогул, вясковы побыт пайшоў ёй на карысць: шчокі праз кароткі час заўважна папаўнелі, паходка зрабілася ўпэўненай і рашучай.

Мачыху, як і тады, у Рызе, яна па-ранейшаму звала цёцяй.

Альбіна выйшла з шахі, пазіраючы на нізкае, усцяж засланае белаватымі аблокамі неба, хутка пакрочыла дахаты. Спяшалася: дзесяць дзён



таму скінула свіння, а цяпер яшчэ і захварэла, другія суткі не дакранаецца да ежы. Крый Бог здохне, што тады рабіць, чым карміць сям'ю?

Мужчын у хаце не было. Хлопцы гойсалі недзе на лыжах. Лявон са Свістуном яшчэ на дасвецці падаліся на паляванне. Адна Люся сядзела пры стале, слініла па чарзе каляровыя алоўкі, выводзіла ў сшытку па памяці купалы рыжскіх касцёлаў.

Альбіна ўторкнула штэкер у разетку, праз якую падавалася святло ў хлеў, подбегам выскачыла з сяней на панадворак.

Адчыніла дзверы ў хлеў і адразу зразумела: нешта не тое.

Свіння ляжала калодаю ў грудзе саломы і не падавала прыкметаў жыцця. Альбіна прысела над тушаю. Слёзы самі паліліся з вачэй. Выслізнуў з рукі, хруснуў пад ботам шкляны градуснік.

Нехта яшчэ ўвайшоў у хлеў. Асцярожна наблізіўся да загародкі, крануў яе за плячо.

— Не плач, мамачка! Мама, чуеш?

Люся, збянтэжаная, у велізарных Толікавых ботах на босую нагу, стаяла ў праёме дзвярэй і глядзела на яе самотнымі, поўнымі спачування вачыма.

Гэтую хвіліну Альбіна запомніла на ўсё жыццё.

# 5

## *1972 • Браты*

Фігура хіснулася, пахілілася набок, але з месца не зрушылася. Яе пачарнелы ад вільгаці, патрэсканы ад перападаў тэмпературы твар дакорліва зірнуў на Альбіну пустым, абведзеным хімічным алоўкам вокам.

Наогул, можна было загадаць сынам яе прыбраць, але яна не наважылася. Толік толькі ўчора прыехаў пасля сесіі на канікулы, і першае, пра што запытаўся, было, ці ўсе статуі на месцы. Спіць і трызніць давесці іх да ладу. Вучыцца на гісторыка, дык хоча ў Дубраўцы музей ствсарыць. Ёй што, хай стварае, ды каму тут ён, музей, у такім бязлюддзі патрэбны? Спаліць тое Вітольдава дзерава і то, пэўна, больш карысці было б. Але яна гэтага ніколі не зробіць. Хоць часам, зазлаваўшыся, і пагражае.

Не, з сынамі ў дубкі яна не пойдзе. А пчаляра перасунуць хацела, бо надта ж зручнае для стажка месца займае. Во, з раніцы мікіціцца, барані Бог, нанясе дажджу. Сена ўжо варочанае, гэткае больш за ўсё вады баіцца. Дык пры хляве, на месцы, што пчаляр той Вітольдаў займае, спарадкаваць самы цымус быў бы.

З-за пуні пачуліся галасы сыноў.

— Складзем, пакуль не змокла, — выходзячы следам за братам да яе на трасотнік, сказаў старэйшы.

Яна згодна матлянула галавой.

— Добра, — сказала коратка і зірнула на Ромку. Той ад першае хвіліны, як прыехаў брат, паводзіў сябе неяк незразумела, быццам быў нечым незадаволены.

Хлопцы выйшлі з панадворка, сцішана перагаворваючыся, накіраваліся вуліцаю на другі канец вёскі, туды, дзе вытыркаліся з зараснікаў дзядоўніку і крапівы ўтравелыя рэшткі колішніх пакояў.

Праца рухалася хутка — ведалі яе змалку. Толік, праўда, з непрывычкі спачатку крыху ўпацеў, але гэта працягвалася нядоўга, пакуль не ўвайшоў у звыклы рытм. Стажкі рабілі невялікія: такія і грузіць на падводу хутчэй, і раскідваць, калі трэба падсушыць, лацвей.

Гаварылі няшмат, і завадатарам размовы ўвесь час быў Толік. Ромка больш слухаў і толькі калі брат што-небудзь пытаўся, адказваў — стрымана,

коратка, адным сказам. Не, вучыцца пасля дзесяцігодкі ён не збіраецца. Дачакаецца восені і пойдзе ў войска. Матка хоча, каб паступаў, але не — гэта не для яго. Не ўсім жа вучонымі быць, трэба некаму і рабіць.

На ўзмежку, ля абрыву, сена было зусім сухое.

— Аж шашчыць. — Ромка ўдзюбнуў вілы ў зямлю, трымаючыся за цаўё, стаў — перадыхнуць.

Чырвонае няўрымслівае сонца прамарудзіла хвіліну-другую за воблакам, імкліва вывернулася з-пад яго. Тысячы гарачых прамянёў рассеклі паветра, іскрамі паляцелі ў пожню...

**Бацька ляжаў скрай абрыву і п'яна мармытаў. Паспрабаваў адсунуцца ад агню, але дарэмна. Полымя тым часам з кожным імгненнем падбіралася ўсё бліжэй і бліжэй да яго. Ромка хацеў прыбіць агонь граблямі, але раптам паміж ім і бацькам узнік Толік. Гледзячы брату ў твар, ён усміхнуўся, затым паклаў руку на плячо. Што ён хоча? Няўжо не разумее, што замінае ратаваць Гірона? Ромка паспрабаваў адштурхнуць Толіка ўбок, але той так грунтоўна асталяваўся на вузкім лапіку між бацькам і агнём, што зрабіць гэта можна было толькі спіхнуўшы брата з**



**абрыву. Тым часам агонь усё набліжаўся. Бацька перавярнуўся на бок, ратуючыся ад яго, падпоўз да самага абрыву. Яшчэ хвіліна — і кульнецца ў бездань. Не! Ромка разагнуўся, штосілы пхнуў брата пад дых. Той паваліўся, трымаючыся рукамі за альховае карэнне, завіс над абрывам...**

Толік сядзеў на кукішках ля стажка і выціраў аб траву чырвоныя, здзёртыя да крыві рукі. Яго бледны, бы ў нябожчыка, твар зводдалеку нагадваў маску.

— Даруй, мне здалося, там бацька. — Ромка падышоў да брата, у нерашучасці застыў побач.

Толік перавёў дыханне, падхапіўся з месца.

— Нічога, — сказаў ціха і ўсміхнуўся. — Я ўсё разумею.

— Што ты разумееш? — І без таго круглыя вочы Ромкі яшчэ больш акругліліся, твар успыхнуў чырванню. — Што?

— Што ён табе трызніцца, — збянтэжаны новаю хваляю братавай зласлівасці, сказаў Толік. Гэтай размовы ён даўно чакаў, але што ўсё адбудзецца вось гэтак — не спадзяваўся. — І часта такое здараецца?

— Заўсёды, калі бачу агонь. — Ромка гаварыў павольна, як бы нехаця: відаць, шчырасць

давалася яму цяжка. Але раптам голас яго акрэп, зрабіўся зноў калючы і злосны. — Гэта цябе зусім, ані на каліва, не тычыцца.

— Тычыцца! — Толік нязгодна матлянуў галавою. — Ягады ягадамі, а віна за бацьку на нас абодвух.

Братавы словы неяк дзіўна паўплывалі на Ромку: ён абмяк, выраз жорсткай зацятасці, што ўвесь час не сыходзіў з ягонага твару, саступіў месца разгубленасці.

— Я з'еду адсюль — падымаючыся з месца, сказаў ён ціха, але ўпэўнена. — Абавязкова, толькі школу скончыць.

Другая хмара, вялізная, няўклюдная, з'явілася на даляглядзе, густым шэрым ценем атуліла дробныя аблокі і наваколле пад імі.

# 6

## *1975 • Наталля*

Вайсковец хуценька перабег вуліцу, ратуючыся ад дажджу пад голлем дрэваў, імкліва расчыніў знаёмыя весніцы. Дзверы на гэты раз не рыпнулі, а быццам охнулі — натужліва,



рэзка, як чымсьці пакрыўджаныя. Але маладому дэмабілізанту было не да іх: думка аб недалёкім ад'ездзе не давала спакою. Убегшы ў хату, ён адразу кінуўся да ложка, на якім ляжала, прыкрыўшыся квяцістаю пухкаю коўдрай, жанчына.

— Дык што, надумалася? Едзеш?

Жанчына моўчкі павярнулася да яго тварам, засланіла далонню вочы ад святла, няўцямна, як спрасоння, спытала:

— Што? Куды ехаць?

— Вось табе маеш — куды? — ажно зайшоўся абурэннем Раман. І было чаго абурацца: тыдзень мінуў, як яго дэмабілізавалі, учарашнія саслужыўцы недзе па хатах ад'ядаюцца, адзін ён ніяк не зрушыцца з месца.

Жанчына схавала пад коўдру руку, лагодна ўсміхнулася.

— Ну, прычапіўся: едзеш? едзеш? Дрэнна табе тут?

— Я не кажу, што дрэнна. — Раман сеў скрай ложка. — Ды трэба ж некалі рашыцца...

— Хай яно згарыць, тое трэба. — Яна прыўзнялася на локцях, прыкрыла прасцінаю шыю. Наблізілася да яго, паклала галаву на калені. — І не злуйся.

— Ладна. — Ён скінуў кашулю, штаны, слізгануў да яе пад коўдру.

— Вось так лепш, — сказала яна і абхапіла каханка за шыю. Правяла даланёю па пругкай, мускулістай спіне, жарсліва ўздыхнула. — Канечне, паеду, а як жа.

Яны пазнаёміліся паўтара года таму. Наталля Сяргееўна рабіла буфетчыцай у сталоўцы, куды яны з таварышам зайшлі падсілкавацца падчас звальнення. Яна ветліва ўсміхнулася ім, запрасіла перакусіць. Ужо шарэла, і, папраўдзе, есці хацелася, але грошай на што грунтоўнае не хапала. Яна нейкім чынам пра тое здагадалася, пайшла ў кухню, прынесла дзве талеркі варанай бульбы, палітай зверху мясною жыжай.

Пакуль яны елі, яна распытвала. “Адкуль вы, хлопчыкі? Ці даўно тут?” Яны адказвалі, а яна ўважліва слухала. Даведаўшыся, адкуль Раман, схамянулася: “А, чула, матцы маёй калісьці ў тых мясцінах даводзілася працаваць. А мяне Наталляй зваць. Можна проста — Наткай Сяргееўнай. І цётачкаю назавяце — таксама не пакрыўджуся. Дарэчы, я тут не заўсёды рабіла. Дыплом бухгалтара маю. — Яна зірнула ў акно, паказала рукою на бліжэйшую ад сталоўкі хату. — Вунь мая сядзіба. Калі што — заходзьце”.



“Спраўная кабетка, — калі выйшлі на двор, сказаў саслужывец. — Во каб крыху маладзейшая”. — “Гэта не зашкодзіла б”, — з выглядам знаўцы з не абы-якім досведам азваўся Раман. Дагэтуль мець справу з жанчынай яму не даводзілася, ды прызнавацца ў тым прыяцелю, якога яшчэ толкам і не ведаў, не хацелася.

Зноў яны спаткаліся з Наталляю дзесьці праз месяц, у чарговае ягонае звальненне. Напярэдадні хлопцы да сёмага поту рабілі на лецішчы ва ўзводнага, добра папацелі і ў выніку зарабілі свае законныя суткі.

Плошча, адзінае больш-менш прыстойнае месца ў гарадку, сустрэла іх знаёмаю шыльдаю над дзвярыма сталоўкі. Цётачкі Сяргееўны за стойкай не аказалася. Пасядзеўшы з паўгадзіны за сталом, маладыя людзі засумавалі, пайшлі на вуліцу — праветрыцца. Алег тут жа ўвязаўся за нейкаю дзеўкай, а Раману нічога не заставалася, як працягваць шпацыраваць у адзіноце.

Ён і не заўважыў, як аказаўся ля цётаччынай хаты. Там у вокнах гарэла святло, а гаспадыня, у фартуху зверху летняй паркалёвай сукенкі, завіхалася ў кухні. Падышоўшы бліжэй, Раман убачыў яшчэ адну — мужчынскую — постаць. Мужчына сядзеў на канапе ў лепшым пакоі

і курыў папяросіну. На стале побач стаяла талерка з закуссю і бутэлька гарэлкі.

Сяргееўна скончыла гатаванне, з патэльняю ў руках падалася да мужчыны. Ледзь паспела яна паставіць страву на стол, як той абхапіў яе за стан, паваліў на тое самае месца, дзе сам толькі што сядзеў. Святло пагасла. Раман пастаяў яшчэ некалькі хвілін у надзеі, што яно зноў запаліцца, але дарэмна.

А праз два тыдні ён і сам неўпрыкмет аказаўся на месцы таго незнаёмца. Ляжаў у ложку, з прыкрасцю думаў, як бы хутчэй збегчы. Да таго гідкім і няўтульным здавалася ўсё навокал. Дапамагла яна, Наталля. Скінула коўдру, хаваючы ад яго белае, з таўставатымі нагамі, цела, пачала вобмацкам апранацца. Хацела ўключыць святло, але ён не даў.

— Не трэба.

— Чаму?

— Святло кепска ўплывае на мяне.

— Выдумляй! — Яна дацягнулася рукою да сцяны, пстрыкнула выключальнікам. Лямпачка ўспыхнула, высвеціла куткі па-за мэбляю, мерна захісталася пад столлю пачварным ценем.

— Ну, жывы?

— Жывы, — адмахнуўся Раман і зірнуў на ходзікі. Было дзевяць гадзін.

— Якія доўгія вечары. — Цётачка пазяхнула, шчыльней ухуталася ў коўдру. — А ты не спознішся, хлопец? Глядзі, каб у кутузку не трапіў.

Сапраўды, час быў адыходзіць.

Раман саскочыў з ложка, похапкам нацягнуў гімнасцёрку, штаны. Наталля таксама паднялася, падышла да яго, абхапіла ззаду дужымі, як у мужчыны, рукамі.

— Праўда, святла баішся?

— Праўда.

— Чаму?

— Так, адну гісторыю напамінае. Асабліва калі знянацку ўспыхвае.

— Што за гісторыя?

— Была... у дзяцінстве. Не хочацца расказваць.

— Не хочацца — не трэба. — Яна прыхінулася тварам да ягонай патыліцы, паказытала вуснамі валасы. — А сюды часцей прыходзь, я страх хутка выганю.

Сапраўды, святла ён баяцца перастаў. Цётачка быццам заваражыла яго. Ён добра спаў і еў, і кепскія ўспаміны, што не-не ды й давалі аб сабе знаць, калі знаходзіўся ў часці, тут жа

некуды сплывалі, як толькі пераступаў парог яе хаты.

І вось — настаў час дэмбелю. Як то прымуць яго дома? Папраўдзе, і самому ніякавата. Наталля на дзесяць гадоў за яго старэйшая — што скажа Альбіна? Да таго ж там, у Дубраўцы, ёй чужое ўсё — ці зможа прывыкнуць? Зрэшты, не бяда, калі што якое, сюды, у Крайну, можна будзе вярнуцца.

— Сюды! Ого, прыдумаў! Мне, значыць, выспятка, а сам да іншай, маладзейшай, пойдзеш.

— А што, калі так? — Раман засмяяўся. Але, убачыўшы зласлівы агеньчык у вачах жанчыны, тут жа дадаў: — Ну, куды я ад цябе дзенуся.

Нехта ўвайшоў у сені, шкрабнуў пальцамі па дзвярах.

— Пэўна, мама. — Наталля падхапілася з канапы, падалася да парога.

Слава Васільеўна, бадзёрая, у падперазаным шырокаю дзягаю даўгаватым зялёным паліто, ступіла ў хату, цырымонна прайшла на покуць.

— Усё ж такі ад'язджаеце? — сказала, сцягваючы з галавы на шыю хустку. — Добра — завядзёнка не перарываецца.

— Якая завядзёнка? — не зразумеў Раман.

— А я хіба не казала табе? — цешча здзіўлена глянула на яго. — Ужо колькі пакаленняў



жанчыны з нашай сям'і тваю Дубраўку ашчасліўліваюць. Бабуля Натчына, і прабабуля, і прапрабабуля... Цяпер вось і сама туды едзе. Ну, паглядзім жа, што з таго атрымаецца. — Яна дастала з кішэні нейкі сшытак, падала дачцэ. — Тут — патрэбнае, пачытаеш пры нагодзе. І глядзі там, трымайся годна, не паддавайся. Мы не абы-хто. Дык і паводзіць сябе трэба адпаведна.

# 7

## *1976 • Усе*

Вестка пра тое, што Ромка вярнуўся з войска не адзін, а з жонкаю, абляцела Дубраўку вокамгненна. Да хаты Старынскіх пацягнуліся людзі, і ўсе быццам па патрэбе. Сама Альбіна ў гэты дзень была ў райцэнтры, вярнулася ўжо надвячоркам. Убачыла ў прыцемку сынаву абранніцу і ледзь не страціла прытомнасць. Такою старою падалася нявестка. Да таго ж ёй увесь час здавалася, нібыта яны знаёмыя.

Няяснае, хісткае падазрэнне перарасло ва ўпэўненасць, калі запалілі ў хаце святло.

— Наташа, вы такую жанчыну — Славу — не ведаеце?

— Гэта мамка мая. Яна тут у вас некалі працавала. А што, падобныя мы?

— Па... падобныя, — адчуваючы, як дзеравянее язык, адказала Альбіна і без сіл апусцілася на канапу.

Раманава вяртанне адзначылі сціпла. Зарэзалі старую авечку, Мэська выпісаў на ферме з паўсотні кіло свініны. Альбіна з Люсяю нарабілі катлет, рознай салаты. У аўторак раніцой прыехаў Толік. Ён сёлета скончыў інстытут і працаваў у школе недалёка ад Дубраўкі.

Браты спаткаліся на панадворку. Толік, пасталелы, вельмі падобны з твару да нябожчыка Вітольдага, падаў брату руку, сеў на ганак.

Прыйшла Валька. Абдала хлопцаў воблакам таннае парфумы, уселася побач. За апошнія гады яна вельмі раздалася ўшыркі, таму выглядала старэйшай за свой ўзрост. Але, на дзіва, паўнаты сваёй не саромелася, наадварот, выстаўляла напаказ. Знарок насіла сукенкі з пасамі ўпоперак і наогул усё тое, што падкрэслівала камлюкаватасць паставы. Каб добраю маткаю быць, неабавязкова выглядаць на дзяўчо — гэта былі яе словы. Яе Пецю было ўжо сем гадоў, і хто ягоны бацька, у Дубраўцы па-ранейшаму ніхто дакладна, апроч, канечне, самой Валькі, не ведаў.



І вось... Не, не можа таго быць. Чым пільней узіралася Валька ў здарожаны, падбелены пудраю твар Ромкавай каханкі, тым настойлівей узнімаўся з глыбіні памяці смутны, няпэўны ўспамін. Ці можа такое быць? Яна глянула на Альбіну. Тая сядзела, бы нежывая, насупраць малодшага сына. Што-што, а пакутлівую напружанасць Альбінінага твару Валька чытаць умела.

Пасля трэцяй чаркі браты выйшлі пакурыць. Зрабілі на панадворку па зацяжцы, затым, не згаворваючыся, падаліся да руінаў сядзібы. Месца, дзе калісьці былі пакоі, можна было пазнаць па нізкім плоце, якім яно было адгароджана ад кустоўя.

— Вось, аднаўляць будзем, — спыняючыся ля яго, сказаў Толік. — Спецыялісты цвердзяць, сядзіба надта ўнікальная, узор сядзібна-палацавай архітэктуры XVI стагоддзя. У даваеннай Польшчы ахоўвалася дзяржавай.

— І хто ўсё гэта раскапаў?

— Археолаг Вашкевіч.

— Той, што некалі Мамкова гарадзішча капаў? П’яніца?

— Ён ужо з дзесяць гадоў не п’е. І чалавек дасведчаны.

— Ну-ну. — Ромка і сам не разумеў, чаго злуецца. — І што ён мяркуе тут рабіць, твой Вашкевіч? Нанова пакоі ўзводзіць? Дзеля чаго?

— Дзеля чаго? Каб людзі маглі любавацца, вось дзеля чаго. Дарэчы, лямус тут адзін з самых адметных у наваколлі быў.

— Лямус? — Раманаў твар зусім спахмурнеў. — Яго таксама будуць узнаўляць? Яшчэ чаго не хапала!

Люся дагнала іх, прытрымліваючы рукамі ад ветру падол сукенкі, стала пасярэдзіне.

— Спрачаецеся? Вось табе на — толькі-толькі сустрэліся, і ўжо сварка.

— Не сварка, так гамонім, — стараючыся перамагчы раздражнёнасць, што засела комам у горле, сказаў Толік. — Пра пакоі гаворым.

— Што гаварыць пра іх — рэстаўраваць трэба.

Раман адышоўся ўбок, гледзячы сабе пад ногі, усміхнуўся.

— Вас паслухаць, дык больш і клопату няма, як гэтыя разваліны, — сказаў зводдалеку і падкалупнуў мыском туфля цагляны аскепак. — Быццам без іх не абыдземся.

— Не абыдземся! — горача запярэчыла Люся. — Гэта памяць наша!

— І твая? Няўжо?



— І мая! Я тут жыву.

— І яе, а як жа, — заступіўся за дзяўчыну Толік. — А ты... ты здзіўляеш мяне.

— Ідзіце вы ведаеце куды? — Раман, адчуваючы, што перавага не на ягоным баку, злосна плюнуў, пакрочыў да хаты.

## Польця

(з магнітафоннага запісу аспіранта М. Дзямешкі)

*Я зразу, як тока яе ўвідзела, дагадалася. Вочы, бровы, губы — усё Стасіна. Асобенна, як загаворыць: нос то ўгору, то ўніз — кулыг, бытта якая спрунжыніна ў ім. Кароценькі носік, во і спрунжыніць. І зубы тэж, як у маткі, дрэнь, вялікія і рудыя. Такая, значыцца, іхная прырода.*

*Стася некалі дужа пераживала з-за зубоў. Бывала, перад вечарынай прыйдзець да мяне і будзець казаць: "Я, Польця, у той кут адыдуся, а ты на зубы мае зводдалеку глянь, ці дужа відацца, што благія". Праўда, відалася, але я не казала ей. Скажаш, што рудыя, дык усердзіцца ды дзялку лёну горшую дасць. І ў гэтай гэдакія ж нядобрыя, зрудзеўшыя.*

*Альбіне неўпанараў нявестка. Адно — старэйшая за Ромку. Другое — Стасіна дачка. Абкруціла мальца, і што ты зробіш? Хочаш ня хочаш — прымеш. Так што пакасавурыцца Альбіна, паперажаываець і адыйдзець. У яе сэрца адходлівае, доўга злавацца ня можаць. Людзі нагаворуцца, канечне. Але што людзям? Во Альбіне дык неспадзеўка.*

*Ну, а вы тут як? Назбіралі троху нашых слоў? Усё ездзіце, ездзіце... На маей памяці вы трэція ўжо. Усё то словы, то песні збіраеце, а каб які толк з таго... Усё на зглум ідзець, а вы з песнямі. Ну, ня злуйцеся... Пакоі? Ат, хто іх тут будзець аднаўляць! Вырванай валасіны ня вернеш. Другая, можа, вырасцець, а той самай, што па першасці была, зновака не паявіцца. Ага.*

*Я на пасту бягу. Мой там адзін з каровамі, барані Бог загізуюць, не дасць рады. Да ракі пагонім. Трава ніякая, дык хоць пап'юць... А тады з пасты — сена варочаць. Учора ў амшарыне ўкасіў. Недзека касіць, і няможна, цішком косім. Хто дзе ўрвець, тое і ягонае. Начальства ездзіць, глядзіць. Як зловяць, дык такімі слаўмі аблаюць-аббрэшуць, што мы раней і ня чулі ніколі. І яшчэ і штрафу дадуць. Дык і вы нікому не кажыце. Ну, паляцела я...*



**Гірон перанёс цераз парог сваё хударлявае, размякчанае гарэлкаю цела, кульнуўся ў вопратцы на падасланы кажух. Неўзабаве ён заснуў. Пачуўшы бацькаў працяглы храп, Ромка выкараскаўся з сена, узлез на маціцу. Чыркнуў запалкай, пачакаў, пакуль яна ўгарыцца, шпурнуў долу, на кладню. Запалка перакулілася ў паветры, звалілася ў сена побач з Гіронам. Той, пачуўшы пах гарэлага, прыўзняўся, каб адсунуцца ўбок, але не даў сабе рады. Ахопленае полымем цела сутаргава тарганулася, зноў павалілася на кажух...**

— Я плявузгаю? — п'яненькі Мэськаў голас узвіўся пад столь. — Плявузгаю? Было гэта!

— Што было? — выходзячы са спальні ў кухню, дзе сядзелі Мэська з Лёдзяю, Альбіна, Польця і Наталля, спытаў Раман.

Наталля перасмыкнула вуснамі, адвяла позірк убок.

— Тое, што з Вітольдым ейная матка... — не здаваўся брыгадзір. — Гэта ўсе ведаюць. А то корчыць з сябе...

— Что он плетёть, этот старый дурак! — падрабляючыся пад тутэйшую гаворку, піскнула Наталля і вопрамеццю кінулася ў сені.

Раман падышоў да Мэські, ударыў наводмаш па пераносці.

— Пакажу табе, шэрла[9] дурны, — сказаў і накіраваўся ў сені супакойваць жонку.

Альбіна сцебанула каня пугаю, падцягнула лейцы. Конь фыркнуў, тужачыся, сяк-так ускараскаўся на гару. Ля першай, Пілецкіх, хаты тоўпіліся людзі. Яна злезла з калёс, не зважаючы на дождж, падышла да іх.

— Што тут такое?

Натоўп моўчкі расступіўся, прапусціў яе ў сені.

У лепшым пакоі ляжаў на канапе акрываўлены Мэська і ціха стагнаў. Ля яго мітусіліся Лёдзя з дочкамі. На зэдліку збоч канапы стаяла мядніца з вадой. Света і Аля, дочкі, па чарзе акуналі ў яе анучку, абмывалі бацькавы твар і рукі. Старая Лёдзіна матка малілася ў куце.

Раптам Мэська стаў задыхацца. Жанчыны пачалі жагнацца, паўкругам абступілі канапу.

— Свечку! Дайце свечку! — роспачліва загаласіла Лёдзя.

Адна з дачок кінулася да шафы, дастала жоўтую парафінавую свечку, падала матцы. І толькі Лёдзя паспела яе запаліць, як Мэська выпраў руку, перахапіў яе аслабелымі пальцамі. Цела ягонае тарганулася колькі разоў, грудзі ўздрыгнулі, па твары прабег шараваты цень.

[9] Тут: дурань .



— Моўце пацеры, — трымаючы мужа за руку, сказала Лёдзя і першая ўкленчыла.

Альбіна вярнулася зноў на панадворак. Людзі па-ранейшаму тоўпіліся ля весніц.

— Што тут здарылася?

— З абрыву зваліўся, цётка, — адказаў нехта.

— Радоўку адбываў і во... Хоць бы ўжо палепшаў.

— Не палепшаець, — Альбіна выйшла з натоўпу, пасунулася да падводы. — Памёр Мэська.

Пра абставіны брыгадзіравай смерці гаманілі доўга. Адны сцвярджалі, што быў нападпітку і сам зваліўся з абрыву, другія — што, няйначай, нехта дапамог гэта зрабіць. Дактары, якія рабілі ўскрыццё, сказалі, што памёр, задыхнуўшыся ў выніку страсення лёгкіх.

Валька адна не паверыла ў няшчасны выпадак. Хадзіла па Дубраўцы, заводзіла хітрую размову аб тым, колькі зла ад гэтых прыезджых васталыг[10]. І хоць далей намёкаў справа не ішла, усе разумелі, пра што яна кажа. Адгалоскі тых

[10] Усходнікаў (дыял.).

размоў даносіліся і да Наталлі. Але яна ўпарта рабіла выгляд, быццам нічога не разумее. Дурніцы абыходзіць, што ў яе забінтаваная рука? Дык мала што — можа, стыгматы з'явіліся.

Тым часам наблізілася пара касавіцы. Клопатаў ва ўсіх паболела, і пра недарэчную Мэськаву смерць хутка перасталі згадваць.

**Страла маланкі прарэзала паветра, асляпляльна-яркаю стужкай забілася між сцен. Шпалера ўспыхнула, пырснула агнём, папаўзла долу, на падлогу — туды, дзе ляжаў з раскінутымі ўбакі рукамі Гірон. Ромка схапіў шпалерыну за адзін канец, паспрабаваў яе загасіць. Але, наадварот, стала яшчэ горш: сухая папера раструшчылася на дробныя аскепкі, паляцела на бацькаву галаву. Гірон закрычаў, вогненным катком пакаціўся па падлозе...**

Наталля злезла з ложка, блытаючыся ў прасціне, падышла да мужа. Той ляжаў дагары на падлозе і неўразуменна глядзеў на яе паўрасплюшчанымі вачыма. Твар ягоны блішчэў ад поту, вусны бязгучна варушыліся. Нарэшце ён апрытомнеў.

— Што... што гэта было?



— Не ведаю... Я ўключыла тэлевізар, ты скаціўся з ложка, закрычаў...

— Няўжо тое, ранейшае, вяртаецца?

— Крый Бог, каб вярнулася. Можа, з'ясі чаго? Ежа супакойвае.

Раман моўчкі падняўся, шлэпаючы босымі нагамі па прахалоднай падлозе, пайшоў у кухню. Наліў у міску бялёнага супу, пачаў есці. Еў і бачыў праз дзверы, як Наталля заплятае перад люстэркам касу з рэдкіх сваіх, з пашчапанымі канцамі валасоў.

— Во што я падумала, — жончын голас прагучаў неяк па-старэчы сіпла. — Збіраюцца брыгадзіра выбіраць, дык, можа, табе паспрабаваць? І заробак лепшы, як у полі, і пасада... Не з віламі ў гнаі корпацца. Ну, як?

— Чорт яго ведаець... Ці здолею я? Да таго ж не парцейны...

Яна рашуча хітанула галавой.

— Здолееш. Людзей ты ведаеш. А калі з паперамі якія непярэліўкі — я памагу. У парцію ўпішамся. Ідзі. Работа клопатная, затое сны дурныя адцягнець.

— Чорт яго ведаець... Можа, праўда, варта паспрабаваць.

Наталля каторы раз растрыбушыла касу, адкінула валасы на плечы.

— Яшчэ як варта, — сказала, падмалёўваючы алоўкам бровы. — Дарэчы, калі ты мне тое дрэўца, што абяцаў, пакажаш?

— Калі хочаш. Можна і зараз.

Яны выйшлі на панадворак, павольна рушылі прысадамі ў бок пакояў. Белая Наталліна кашуля ў месяцовым святле нагадвала строй маладухі.

Ля курціны з шыпшыннікам спыніліся.

— Здаецца, тут.

Раман расхінуў хмыз, і, сапраўды, убачылі сярод яго невысокае дрэўца з выгінастымі, як у шлібабона[11], кветкамі.

— Удог! — ледзь зірнуўшы на пакручастыя няроўныя галінкі, сказала Наталля.

— Дык ты ведаеш яго? Адкуль?

— Так, з запісаў адной прашчуркі. Яна тут за настаўніцу калісьці была, сама і прывезла яго. Дрэўца гэтае незвычайнае. Ягад як паясі, дык абы-што будзеш рабіць. Пітво таксама можна з іх гатаваць. Матка мне і рэцэпт паказвала, але я забылася. Ды навошта нам усё гэта. Хадзі лепш да мяне!

Яна пацягнула Рамана да сябе, прынікла вуснамі да ягоных вуснаў. Жаданне хваляю пракацілася ўнутры яго. Ён абхапіў Наталлю за стан, моцна прытуліў да сябе.

Яны прашпаравалі сярод хмызу да самага світання.

[11] Фасолі (дыял.).



Альбіна апошні раз крутнула жорны, уздыхнула. З аднаго боку, тое, што сын з нявесткаю пераязджаюць у сваю хату, было няблага, з другога... Тут, пры ёй, усё, што ні рабілася, было навідавоку, а што будзе, як застануцца самнасам? Ромка гэткі бязвольны, пусці павалюся, сама вяроўкі віць. І хоць яго, а не Наталлю абралі на сходзе брыгадзірам, ужо і зараз бачна, хто будзе камандаваць. Такая свайго не ўпусціць.

Гул трактара перабіў яе думкі. Альбіна выйшла з клеці і носам у нос сутыкнулася з нявесткаю. Наталля, чырванатварая, у новай ватоўцы, вывернулася з-за вугла, загарадзіла сабою праём.

— Як вы? — спытала Альбіна.

— Добра. — Наталля адказвала няспешна, быццам нехаця. — Брыгадзірым. Ён загадвае, я пішу. “Трелевка навоза до трёх километров...” — Яна хахатнула. — Вось, “Беларуса” з прычэпам замовілі на пераезд.

Старэнькі трактарок уз’ехаў на панадворак. Раман выскачыў з кабіны, унікаючы глядзець на маці, хуценька падаўся ў хату — па майно.

Як Альбіна і думала, усе брыгадзірскія справы вельмі хутка перайшлі да Наталлі. Нішто не рабілася без яе згоды, фактычна яна кіравала брыгадаю. Ініцыятыва памяняць назву вёскі на іншую, больш гучную, таксама належала ёй.

Навіна аб гэткім яе намеры абляцела Дубраўку імгненна. Большасці жыхароў яна прыйшлася недаспадобы. Мяняць назву? Навошта?

— Не гучыць, вось дзеля чаго! — раздражнёна адказала брыгадзірыха. — Дубраўка! Можна падумаць, тут суцэльныя зараснікі.

Памятаючы пра нелюбоў да хмызу яе маткі, людзі пацікавіліся, якою ж мае быць новая назва.

— Ці мала як можна назваць, — адказала яна. — Падкрайна, напрыклад.

Напрыканцы сакавіка сабраліся, каб абмеркаваць пытанне больш дэталёва. Амаль усе дубраўцы прагаласавалі супраць змены назвы. Праўда, знайшліся і такія, што падтрымалі Наталлю. Адзін з іх, Чэсік Каралевіч, былы вайсковец, а зараз трэнер калгаснай футбольнай каманды, прапанаваў нават тэрмінова падаць заяву ў выканкам. Але тут, пераадолеўшы сарамлівасць, нечакана ўзяла слова Альбіна. І так пераканаўча выступіла, што ў выніку і тыя, хто яшчэ вагаўся, прагаласавалі супраць ягонай прапановы.

Наталля, якая не чакала ад свекрыві гэткага запалу, нібы скамянела.

Раман увесь час, што маці гаварыла, сядзеў побач з жонкаю і глядзеў у падлогу. А калі ўзняў нарэшце вочы, каб зірнуць на Наталлю, убачыў на яе твары такую нянавісць, што сцяўся ад страху. Увечары гэтага дня ён пазычыў у Польці бутэльку гарэлкі і ўпершыню ў жыцці напіўся да парасячага віску.

На апошнім тыдні Вялікага посту прыехаў Толік. У школе пачаліся веснавыя канікулы, і ён вырашыў наведаць сваіх.

Браты спаткаліся ў маці. Альбіна клікала і Наталлю, але тая, спаслаўшыся на хатнія справы, адмовілася прыйсці. Апошнім часам у іх з Раманам з-за ягоных выпівак часцяком здараліся сутычкі, да таго ж яна ўсё ніяк не магла дараваць свякрусе яе выступу на сходзе.

Як ні намагаўся Толік разгаварыць брата, размова не клеілася. Раман увесь час маўчаў,

а як толькі апаражнілі бутэльку, спаслаўся на нейкую неадкладную справу і пайшоў.

— Што ўжо за справы? — калі ён выйшаў з хаты, спытаў Толік у маці. — З нажом у халяве.

— Кілуноў лягчыць унадзіўся, — уздыхаючы, адказала Альбіна. — Куды паклічуць, туды і ідзець — за гарэлку. І лягчыць, і колець, бываець. Днямі Свістуновым калоў. Нож усадзіў падсвінку ў грудзіну, ды сп'яну не пацэліў. Той ускочыў ды давай насіцца... Смех і грэх.

— А Наталля што?

— Наталля? Мы не сяброўкі з ёю. А ты яшчэ пагавары з братам, Толічак.

— Пагавару, — паабяцаў ён і накіраваўся ў сені.

**Гірон выхапіў з сынавых рук бутэльку, сунуў за пазуху. "Аддай!" — Ромка кінуўся да бацькі, паспрабаваў адабраць пітво. Іскрынка ад ягонай папяросіны паволі апусцілася на абшлаг бацькавага кулька[12], акурат туды, дзе капнула гарэлка. Абшлаг закуродыміў, кукожачыся спрасаванаю воўнай, абдаў воблакам смуроду. Колькі часу яны моўчкі стаялі на месцы, быццам ацэньвалі собскі**

[12] Пінжака (дыял.).



**шанц на перамогу, і з непрыхаванаю нянавісцю глядзелі спадылба адно на аднаго.**

**Бацька першы адвёў пагляд, прытрымліваючы рукою пад абшлагам бутэльку, увайшоў у пуню. Наблізіўся да кладні, моўчкі пацікаваў за Ромкам, апусціўся на ўлежанае сена. Але толькі ён паспеў улегчыся, як агонь перакінуўся з кулька на кладню і ўжо праз якую хвіліну запоўніў сабою ўсю будыніну. Гіронаў адчайны, жудасны крык скалануў падстрэшша...**

— Чаго ты? — Наталля спусціла долу белыя, з таўставатымі лыткамі ногі, непрыязна зірнула на Рамана. — Да паўсмерці напалохаў. Равеш, бы недарэзаны.

Ён паспрабаваў прыўзняцца, але не даў сабе рады: галава гэтак балела з перапою, што не было сіл варухнуць пальцам.

— Калі гэта скончыцца? Лячыся ідзі.

— Якое лячыся! — ледзь варочаючы языком, прамовіў Раман. — Не з гарэлкі гэта... бацька сасніўся.

— Больш пі, дык не такое сасніцца. — Наталля рашуча адкінула коўдру, прасунула руку яму пад трусы. — Во, слабеет і слабеет з кожным днём. Таксама бацька вінаваты?

— У кожнага мужыка гэтак з бадуна.

— Мне ад таго не лягчэй. — Яна зрабіла рукою шмар сюды-туды. — Лячыся.

— Не разумееш... іншае зусім.

Яна саскочыла на падлогу, шмарганула ўбок фіранку.

— Ад іншага сама знайду сродак. Вось толькі ў Крайну з'ездзіць, па сшытак.

— Па які сшытак?

— Па такі — з прапрапрабабулінымі запісамі. Рэцэпцік там адзін...

— Ат, глупства ўсё. — Раман сцягнуў коўдру, перавярнуўся на бок. — Кажаш, слабееш? А гэта што?

Але яна ўжо не слухала. Што карысці гаварыць? Заўтра яна сядзе ў цягнік і праз двое сутак будзе ў маці.

Састаў прыйшоў у Крайну а восьмай гадзіне. А праз паўгадзіны Наталля з маткаю сядзелі ў кухні, снедалі.

— Записи? — Слава Васільеўна, раздабрэлая, але ўсё яшчэ рухавая, наліла дачцэ і сабе, залпам выпіла. — Нету их. Ходила тут одна, будто бы из архива, собирала разный сор, я и отдала.



— Значит, в архиве придётся искать.

— Архив-от московский, дочка.

— Ничего, найдем. — Наталля выпіла, энергічна абмакнула ў падліву сухаватую, падобную да сухара, катлеціну.

Сшытак знайшоўся, але не ў архіве, а ў музеі. Дырэктарка музея ўласнаручна выняла яго з-пад шкла, адгарнула патрэбную старонку.

— Вы растениевод? — спытала, пабліскваючы шыкоўнымі замежнымі акулярамі. — Да?

— Да, — адказала Наталля і непрыкметна сунула ў кішэню тры аркушыкі, што гэтак жа непрыкметна хвіліну таму сама ж і выдрала са сшытка, калі дырэктарка загаварыла пра нешта з іншай супрацоўніцай.

У Дубраўку яна вярнулася на Уздвіжанне. Адразу дастала з валізы прышмальцаваныя аркушы, узялася чытаць. Чытала амаль да раніцы: незнаёмая прашчурка пра нашчадкаў дбала не надта і пісала зусім неразборліва.

А чацвёртай гадзіне Раман прачнуўся ад нечага дотыку. Над ім стаяла Наталля і не вельмі далікатна тузала за падбароддзе.

— Сікстынская капліца — дзе?

— Здаецца, у Ватыкане, — адказаў ён, пазяхаючы. — Навошта табе?

— Пытаюся — значыць, трэба.

— У ксяндза папытайся, ён дакладна ведае.

— Папытаюся, анягож. — Яна зняла з сябе кашулю, легла побач. — Ого, сёння дык зусім іншая справа. Трэба мне часцей ад'язджаць з хаты.

Ксёндз не толькі распавёў усё пра капліцу, але і паабяцаў паказаць штосьці падобнае да яе. У адным з прыдзвінскіх гарадкоў на латвійскім баку ёсць копія Сікстынскай. За пробашча ў касцёле, дзе яна знаходзіцца, ягоны аднакашнік па семінарыі Мураўскі, дык калі што якое, можна з ім спаткацца.

Вярнуўшыся ад ксяндза, Наталля колькі часу сядзела ў задуменні. Канечне, паехаць у Латвію было б няблага. Вось толькі з пашпартам непярэліўкі: згубіла, вяртаючыся ад маці з Крайны. Здала дакументы на афармленне новага, а яны ўсё валыняць нешта. Можа, і не спатрэбіцца ў той Латвіі, ды ўсяк бывае...

Апоўдні яна села на аўтобус і паехала ў райцэнтр.

Начальнік пашпартнага стала Кірыла Ігнатавіч Козел, былы кэдэбовец, доўга моўчкі глядзеў на яе з-пад ссунутых броваў.



— Прыспешым ваш дакумент, — сказаў нарэшце, святлеючы з твару. — Ваша матка ў свой час шмат нам добрага зрабіла.

Цяпер, калі справа з атрыманнем пашпарта, здаецца, пасунулася, заставаўся яшчэ адзін клопат — грошы. Каб абярнуцца на аўтобусе туды і назад, патрабавалася даволі значная сума.

Частку наскрэблі, прадаўшы цішком па дзясятцы за кожны чатыры бункеры калгаснае пшаніцы. Рэштаю выручыла Альбіна.

Запасіўшыся сякім-такім правіянтам і лістом да Мураўскага, Наталля дзясятага кастрычніка выехала з дому.

Ксёндз Мураўскі быў хворы і даручыў апеку над госцяю маладой манашцы па імені Аўгустына. Якраз у гэтыя дні каталікі адзначалі нейкае сваё свята, і манашка павяла Наталлю ў плябанію глядзець па тэлевізары, як папа Рымскі прамаўляе ў Ватыкане з балкона.

Ні сам пантыфік, ні выцвілы дыван з ягоным гербам яе не ўразілі.

Не ўразіла і капліца. Наадварот, тое, дзеля чаго давялося пераадолець гэтулькі вёрст, здзівіла шэрасцю і змрочнасцю. Але затое цяпер, пасля падрабязных Аўгустыніных тлумачэнняў,

што ды як, Наталля дакладна ведала: зрабіць усё, "як у Сікстынскай капліцы", як таго вымагала прапрапрабабуліна цыдулка, ёй цалкам па сілах.

Яна гэтак была занятая ўсе дні ў незнаёмым горадзе сваімі думкамі, што аднаго разу, шпацыруючы следам за манашкай пасля дажджу па вузкай брукаванцы, паслізнулася на мокрым камені і ледзь не паламала нагу. На шчасце, абышлося вывіхам.

Праводзіць яе ў зваротны шлях прыйшоў і ксёндз Мураўскі. Гэта быў сухенькі дзядок з маладжавым не па ўзросце тварам і дужымі, бы ў юнака, рукамі.

— Спадзяюся, вам у нас спадабалася, — сказаў ён, прэзентуючы зямлячцы на памяць кніжку з жыцця святой Клары.

— Спадабалася, а як жа, — адказала яна і адчула, як рука ў кішэні сама сабою склалася ў дулю.

Дубраўка сустрэла яе звыклымі клопатамі. Але апроч заўсёдных з'явіўся і новы: напярэдадні Толік з Люсяй аб'явілі, што збіраюцца пабрацца. Наталлю гэткая навіна мала кранула. Іншае не ішло з галавы. Прагледзеўшы яшчэ раз прапрапрабабуліны запісы, яна зачынілася ў істопцы і, каб усё дакладна зрабіць, як ў той капліцы, загадала Раману замураваць уваход у яе цэглаю.



На два дні істопка ператварылася ў сакрэтны засек. Два дні Наталля не ела і не піла, награвала на пліце, вываравала, астуджвала, зноў вываравала нейкае зелле. Дубраўцы, бачачы, як валіць з коміна брыгадзіравай хаты чорны дым, толькі разводзілі рукамі.

Нарэшце на трэці дзень дым пачаў святлець і неўзабаве зрабіўся зусім белым. Раман разабраў цэглу, і Наталля, з цёмнымі кругамі пад вачыма і са змеевіком у руках, выйшла з істопкі.

"Гарэлку гнала!" — здагадаліся суседзі і з палёгкаю ўздыхнулі. Збіты з панталыку нечаканым з'яўленнем гаспадыні, кукарэкнуў і тут жа збянтэжана заціх зеленахвосты певень.

# 8

## *1976 • Вар'яцтва*

Вяселле прызначылі на Кастрычніцкія святы. Альбіна з Лявонам прывезлі з горада дзве скрыні гарэлкі і дзесяць бутэлек кававага лікёру. Для пэўнасці заставілі яшчэ два бітоны брагі.

Ужо былі зладжаныя катлы і падрыхтавана сцюдзёная вада, як раптам Альбіне стала дрэнна: перахапіла дыханне, а ногі парабіліся нібы

ватныя. Выклікалі “хуткую”. Маладая ўсмешлівая медсястра агледзела хворую, зрабіла ўкол.

— Паляжыце пару дзён, і ўсё пройдзе, — сказала, складваючы прычындалы. —Ператаміліся крыху, мабыць.

— Можа, і так. Заўчора шаснаццаць качаноў за дзень сшаткавала.

Падмяніць Альбіну ля апарата ўзялася, пры тым, на дзіва, па сваёй ахвоце, Наталля. Рэшту дня і ўсю ноч, што свякрова адлежвалася, яна шчыравала ў істопцы. Што і як яна там рабіла, зноў ніхто не бачыў.

Раман спрабаваў дапасці ў істопку, але яна не дазволіла. І толькі калі развіднела і замычэў на дварэ, брыдучы гразкаю вуліцай да збітага, вытаптанага за лета і восень выгану статак, адчыніла дзверы, гукнула яго да сябе.

— На, пакаштуй, — сказала і плюхнула ў кубак сіваватай вадкасці.

Раман борзда, быццам баючыся, што яна перадумае, выпіў.

— Хто яе знаець, — сказаў і прагавіта глянуў на бутэльку. — Крыху нібыта пах... нейкі нязвыклы.

— То ад недапіву, — сказала яна і, пакінуўшы бутэльку на стале, пайшла з хаты. — Пі, я шчодрая сягоння.



—

Пераход да сынавай хаты даўся Альбіне цяжка. Прайшла колькі соцень метраў і так стамілася, што заняло дыханне.

Нехта сядзеў на панадворку, але хто — здалёку было не пазнаць. Раман, падумала яна і, пераадольваючы млявасць, прыбавіла кроку.

Сапраўды, ля хаты сядзеў Раман. Убачыў матку, штосьці мармытнуў сабе пад нос, паспрабаваў падняцца з месца.

Яна падышла бліжэй. Сын, безуладны, з расшпіленаю кятуркай[13], хістаючыся, стаяў ля сцяны і глядзеў на яе запалымі, цьмянымі, бы ў непрытомнага, вачамі.

— Куды гэта з нажом? — жахнулася яна.

Раман няўцямна хітануў галавой, не ўтрымаў раўнавагі, пахіліўся набок.

З хаты выйшла Наталля.

— У нас усё гатова, Вікенцеўна, — сказала, звяртаючыся да Альбіны. — Сёння скончыла гнаць. — Зіркнула на мужа, непрыязна скрывіла вусны: — Ужо намурзаўся, халера цябе!

Яны ўзялі Рамана пад рукі, адна моўчкі, другая разлягаючыся праклёнамі, павялі ў хату.

[13] Шырынкай (дыял.).

**Ён падняўся з падлогі, стараючыся трымацца як найпрамей, зноў грукнуў кулаком у дзверы. На гэты раз нібыта недарэмна. У памяшканні пачуліся павольныя, сцішаныя крокі. Затым дзверы рэзка адчыніліся, і на парозе паказаўся Гірон. Ён быў у кульку і падкасаных картовых штанах. "Пахмяліцца хочаш?" — спытаў і падаў сыну кубак з нейкім пітвом. Раман схапіў кубак, але апаражніць не паспеў: вадкасць успыхнула, поўнячы пакой хісткімі ценямі, перакінулася на бацьку...**

— Зноў? — Наталля стаяла над ім і не міргаючы глядзела на ягоны збялелы, спакутаваны твар. За тры гады сумеснага жыцця Раман упершыню бачыў яе такую — суровую, бязлітасную, як тая смага, што мучыла яго толькі што ў сне і працягвае мучыць зараз.

З кухні даносіліся сцішаныя галасы: нанятыя за гаспадынь Польця з Сінкевічавай Алінай завіхаліся ля пліты.

— Дай пахмяліцца.

Наталля дастала з шафачкі бутэльку, наліла паўшклянкі, падала мужу. Той схапіў шклянку абедзвюма рукамі, прагна выпіў. Затым дастаў з-за люстэрка на сцяне лязо, правёў па ім далонню.



— Гэткім не тое што кілуна — мыш не вылегчыш. — Наталля выхапіла з Раманавых рук лязо, самога яго піхнула на ложак. — Праспіся лепш.

Увайшла Польця з драўлянай лыжкай для варэння ў руцэ, заклапочана сказала:

— Цэглы трэба — націснуць рулеты. Дзе ўзяць?

— У павеці шмат было, — коратка адказала Наталля.

— У павеці дрэнная, з рэштаю цыманту, няроўная.

Пачуўшы гаману, з лепшага пакоя выйшла Альбіна.

— Дошку пакладзіце, а зверху камянёў, — сказала аслабелым голасам. — Толькі як след націсніце.

Седзячы за сталом побач са старэйшым сынам, Альбіна задаволена ўсміхалася: вяселле атрымалася добрае, усяго хапала, усё было як след. І Наталля была ў гуморы, нават п'яны муж не раздражняў яе.

Ля сталоў паслугоўвалі гасцям дочкі кухарак Марыся і Галіна. Зрэдку і Аліна з Польцяй, абедзве пры андаляцыях[14], з'яўляліся ў зале,

[14] Завіўках (польск.).

каб прыбраць лішні посуд. Гарэлкаю распараджаўся Лявон. Адкаркоўваў бутэльку, заклапочана пазіраў на жонку, ставіў на стол. Альбіна, пераадольваючы боль, усміхалася яму, рабіла выгляд, быццам есць.

Маладыя цырымонна сядзелі на покуці, глядзелі адно на аднаго.

Застолле працягвалася да раніцы.

Чаго заўгодна чакала Альбіна, але толькі не гэтага. Перакуліла на другую палову дня, а людзі спалі як забітыя. Усе, апроч яе самой, Наталлі і маладых, уладкаваўшыся хто дзе, храплі так, быццам толькі што палеглі.

Па суседстве, у Мэськавым хляве, мычэла карова і бляялі авечкі. Тое самае чутно было і з другога падворка, ад Польці. Альбіна абулася, памалу рушыла да хаты Свістуноў.

І самі Свістуны, і ўсе, хто трапіў да іх унаначкі, спалі. Адзін Янка, звесіўшы долу вялізныя, з пакручанымі пальцамі, ногі, сядзеў на ложку і трымаўся аберуч за галаву. Убачыў Альбіну, нешта мармытнуў сабе пад нос, споўз з ложка, хістаючыся ўбакі, паплёўся да дзвярэй. Альбіна памкнулася спыніць яго, але ён нават не варухнуў брывом. Няўцямна глянуў на яе спадылба, выйшаў у сені.



Яна паспрабавала разбудзіць Польцю, але тая толькі на хвіліну прыўзняла галаву і зноў павалілася, як непрытомная, на падушку.

З вуліцы данесліся нейкія гукі. Альбіна кінулася туды.

Янка, расхрыстаны, з палаючымі вачыма, стаяў на трасотніку і крышыў бартаю прывезеную колькі год таму ад пакояў каляровую кафлю. Ён рабіў гэта з такою зацятасцю, што Альбіна спалохалася. Асцярожна, каб не трапіць Янку на вочы, яна пракралася збоч панадворка да зарасніку бэзу і схавалася за кустом.

Скончыўшы трушчыць кафлю, Янка заклаў барту за пояс штаноў, накіраваўся да пакояў.

Альбіна кінулася назад да сваёй хаты. Надзіва, там шмат хто з гасцей паўставаў ужо. Некалькі чалавек, пабраўшы хто сякеру, хто грацоўку, хто рыдлёўку ці шуфель, высыпалі на вуліцу, папраставалі следам за Янкам да колішняй сядзібы.

Людзі дайшлі да сядзібы, пачалі навыперадкі руйнаваць узведзены нядаўна рэстаўратарамі падмурак пакояў. Нішчылі агулам усё, што трапляла

пад рукі. Крыху пазней да іх далучыліся і тыя, што спалі па суседзях. Справа пайшла спарней, так спорна, што неўзабаве месца ператварылася на гладкі, бы падлога, пляц. Аднак разгарачаным невытлумачальнаю злосцю людзям і гэтага падалося мала. Убачыўшы, што ад падмурка нічога не засталося, яны рынуліся назад, у вёску. Па-звярынаму равучы, дабеглі да першай хаты, пакрышылі борці і калодзежны будан, прыняліся за сцены.

Паперадзе ўсіх размахваў сякераю, снаваў гаспадар падвор'я і падаваў каманды. Разбурыўшы хату дашчэнту, перабеглі да другой, затым да трэцяй. І толькі ля чацвёртай натыкнуліся на супраціў. Казік Сяховіч, калгасны бібліятэкар, паспеў выскачыць на ганак і некалькі разоў пальнуць у паветра з ружжа. Натоўп сціх, зноў рушыў да пакояў. Але там крышыць ужо не было чаго.

Тады зноў павярнулі назад, пабрылі да вёскі. Дапялі да ўдога, што сіратліва ўзвышаўся панад зараснікам бэзу, пачалі асцервянела рваць ягады. Плады валіліся на дол, трушчыліся пад нагамі, крывавымі плямамі распаўзаліся па зямлі. Абарваўшы ўсё знізу, узяліся згінаць вецце, каб дастаць і астатнія. Гэта, аднак, аказалася не пад сілу: моцныя галіны згінацца не хацелі.



Двое маладзёнаў спрабавалі залезці на іх, але таксама безвынікова. Роўны, без адзінае шурпаціны, камель быў слізкі, ногі і рукі соўгаліся па ім, нібы па лёдзе. Не даўшы рады ўскараскацца на яго, вырашылі перапілаваць. Прынеслі пілу. Але толькі маладзёны пад гіканне астатніх паспелі паднесці яе да камля, як ад хаты Сяховічаў пачуўся гармідар. Наталля, раз'ятраная, страшная, са стрэльбаю ў руках бегла сюды, да дрэва, і без супынку штосьці крычала. Не дабегшы з паўсотні крокаў да людзей, яна спынілася, два разы запар выпаліла ў паветра.

— Не рушце яго, адыдзіцеся! — скамандавала і рашуча навяла ствол на натоўп.

Людзі змоўклі, бязгучна варушачы спэцканымі ў чырвонае вуснамі, адступілі назад.

— Хто гэта даўмеўся пілаваць? — зноў крыкнула яна і падышла з узнятаю руляю стрэльбы бліжэй. — Ну?

У адказ не пачулася ні гуку.

— Каб ніводная лісціна не пацярпела больш! Чулі? — Наталля пальнула паверх галоў, імкліва пакрочыла назад, да бібліятэкаравай хаты.

Натоўп з палёгкаю ўздыхнуў, рушыў у процілеглы бок.

Зноў спыніліся ля пакояў. Тут, адчуўшы, што небяспека больш не пагражае, падпалілі шаху і да змяркання танцавалі наўкола пажарышча.

**Гірон стаяў збоч ганка, пагладжваў далонню адной рукі падстрыжаную пад “польку” галаву, указальным пальцам другой вабіў Рамана да сябе. Раман падняўся з бервяна, падышоў да бацькі. Хацеў парукацца, але той дэманстратыўна схаваў сваю руку за спіну, затым рэзка развярнуўся на месцы, хутка пакрочыў сцяжынаю да пакояў. Раман, стараючыся трапляць босымі нагамі ў ягоныя сляды, нехаця паплёўся за ім. Галава ў яго так моцна балела з перапою, што кожны крок адзываўся ў ёй неймаверным болем.**

**На прысядзібным дзядзінцы мітусіліся людзі. Воддаль, ахопленая полымем, гарэла шаха.**

**Бацька счакаў, пакуль Раман яго дагоніць, рашуча ступіў у вогненна-крывавае воблака. Патрывожанае вогнішча незадаволена гайданулася, шугнула ўгору снопам іскраў...**

**Роспачлівае адчуванне, што Гірон адыходзіць назаўжды, падзесяцярыла Раманавы сілы. Ён закрыў твар далонямі, не зважаючы на гарачыню, ступіў за бацькам у агонь...**



# 9

## *1977 • Перамены*

— Полымя яго заўсёды вабіла. — Наталля змахнула з павека слязіну, самотна зіркнула на следчага. — Урэшце, здарылася тое, што павінна было здарыцца.

— Ён нападпітку быў?

— Канечне. Як і ўсе. Не дапіліся б да белай гарачкі, і ўсяго гэтага жаху не было б.

— Вы, кажуць, дрэва выратавалі...

— Выратавала, а як жа. Яго прашчурка мая пасадзіла, і мне шкада было...

— Зразумела. — Следчы спачувальна зірнуў Наталлі ў вочы. — Дзякуй, што дапамаглі следству. Дарэчы, перад вашым прыходам званіў Козел, прасіў, каб, як толькі вызваліцеся, зазірнулі да яго ў кабінет.

— Добра, я сама збіралася. — Наталля выйшла за дзверы, не зашпільваючы паліто, пашыбавала ў другі канец калідора.

Кірыла Ігнатавіч сустрэў яе прыязна, як добрую знаёмую.

— Вельмі, вельмі вам спачуваю, — сказаў, пасадзіўшы ў фатэль насупраць сябе. — І жадаю як найхутчэй ачомацца. З родных застаўся хтонебудзь жывы?

— Мужаў брат з жонкаю. Яна цяжарная, раджаць хутка будзе.

— Ну, гэткія сваякі крэўных наўрад заменяць, — адгадваючы Наталлiны думкі, працягваў Козел.

— Я ведаю. — Наталля на хвіліну сумелася. — Але... Мне адзін чалавек прапаноўвае выходзіць за яго.

— Вось што! І хто ён?

— Вы, пэўна, ведаеце яго. Каралевіч ягонае прозвішча, ён настаўнік фізкультуры.

— О, ведаю, канечне, наш чалавек.

Хвіліну памаўчалі.

— Я днямі на радзіму збіраюся, Кірыла Ігнатавіч, — працягвала Наталля. — А перад тым, прабачце ўжо за нахабства, падтрымкаю вашай хацела б заручыцца.

— А ў чым справа?

— Ды вы ў курсе — наконт назвы вёскі. Вельмі ж нябожчыку хацелася, каб на іншую яе памяняць. Дык, можа, паспрыялі б, Кірыла Ігнатавіч?



Рэакцыя Козела была больш чым прыхільнай.

— Канечне, паспрыяю, — сказаў ён і пазначыў штосьці на календары. — Пішыце ў выканкам заяву, а я прасачу, каб доўга не валакіцілі. Дарэчы, наконт абранніка вашага, Каралевіча, у нас ёсць сякія-такія пражэкты. На прадмет пераводу ў раён. Не хацеў дачасна гаварыць, ды калі ўжо зайшла пра яго размова... Словам, і ў гэтым плане рыхтуйцеся да перамен.

— Вы? — дырэктарка музея ажно адхіснулася ўбок ад нечаканасці. — А мы уже разыскивать вас собрались. Как вы могли на такое пойти? Ну, попросили бы разрешения снять ксерокопию, так нет — украли...

— Так надо было. — Наталля дастала з сумачкі аркушыкі, падала жанчыне. — Вот, все в целости и сохранности.

— Но почему вы решили их возвратить? — з твару дырэктаркі не сыходзіла здзіўленне.

— Может, еще кому понадобятся, — усміхнулася Наталля. — И точно понадобятся, не сейчас, так через сто лет, — дадала і таропка накіравалася да выхаду.

Спяшалася: цягнік на Падкрайну адыходзіў а шостай увечары, а ў яе яшчэ не было квітка.

# 10

## 1998 • Польця

(з магнітафоннага запісу прафесара М. М. Дзямешкі)

*Тое, гляджу, бытта ідзець нехта. Аж вы. Дык і добра, а то маркотна аднэй. А што дзярэўню паказаць, дык вы ня першыя просіце. Былі тожа неяк прыехаўшы, з горада. А я, як на тое, абы-як надзеўшыся, тока-тока з хлява. Схувалася, думала пойдуць. Не, асталіся. Дзве бабы, мужчына і малец-падулётак. Твары белыя ва ўсіх, як мукой абсыпаныя. Зразу відацца — гарадскія. Паказала ім усё. І вам пакажу, анягож.*

*Ну, так, значыцца, гэта мая хата. А гэна Бакевічава. Тамака воддаль — Старынскіх. Усе, кром маей, пустыя. Глянеш каторы раз, і ворах шыбанець. Жартачкі, як труны тыя хаты стаяць, нідзе нікагусенькі. Дажыліся.*

*Гэта во — дзерава. Як называецца, не знаю. Ці не паны яшчэ пасадзілі. Ягады благія: паясі і здурнееш. Я помню такі случай, былі падурнеўшы. Хто што пабралі ды давай усё крышыць. Маладым не наравіцца яно, кажуць, усе беды з тых ягад. Зрэзаць хацелі. Толік Старынскі з мальцамі спілаваць магаваліся, але мы, старэйшыя, не далі. Сталі кругам і не пусцілі блізка. Толік упырысты. "Цяперака, — кажаць, — не ўдасца, пасля зрэжам. Не мы, дык унукі нашы. А расці яно тут ня будзець". Ат, што яны зробяць! Тут во ўперад адно было, а цяперака вун якія зараснікі. З насёна расцець. І ўсюдых так. Днямі сястры маей Фэлі дачка з-пад Гродны прыязджала. І там ужэ поўна гэтых дзераваў. Як наўмысля хто сеець.*

*Гэна вундзека, дзе пагурак, — пакоі панскія. Іх яшчэ цэлыя помню. Красівыя былі. Ніз цагляны, верх з дубу, страха — гонтавая. Кругом кветкі, дрэвы разныя, бэз, чаромуха, шыпшыннік. Вясной такі пах, аж галава кругам. Алеі ўсюдых, арэшнік. Усё панішчылі, нічога не асталося. Дрэвы, каторыя таўсцейшыя, папілавалі — на падушачкі для рэдаляў. Думалі, добрыя будуць, спілавалі, а яны пагніўшы ўсе. Шкода, дрэвы спрытныя былі, высокія.*

*Во тут, гэтым месцам, тофеліна таўстая стаяла. На ей бацяны пладзіліся. Але яе не пілавалі, сама завалілася, ад старасці. Бацянёнак адзін, зваліўшыся, крыло паламаў, дык лётаць ня мог. А тады патроху к восені акрэйбаў, паляцеў.*

*Пакоі самі парылі. Спярша печы, пасля і астальное. А ўжо страху як збурылі, дык і з канцом. А пасля шась — камісія прыехала. Так і так, сядзіба дужа важная, дык нада аднаўляць. Ну, нада дык*

*і нада. Толік Старынскіх за настаўніка, вучоны, узяўся памагаць. І ўжо зробілі што-няшто, як напіліся, ды зноў куралесіць. Бытта Толікавага брата жонка, Натка, усё падробіла, падпаіла нечым. І мой быў здурнеўшы. Пасля адышоў, але жыў нядоўга, не даў клёку. Многія тады памёрлі. А тыя, што выжылі, выязджаць пачалі.*

*Пасля Натка наконт назвы пачала дахаджваць, каб змяніць. Дахадзіла. Была Дубраўка, стала Падкрайна. А я ўсё роўна Дубраўкай заву. І Натцы пра тое казала. А яна: "Скажы дзякуй, цётка, што Свісцёлкай не назвалі. Усе вы тут свістуны, сваё прасвісталі". Яно й праўда. Цяперака таго, што ўперад было, і блізка няма. Во хош гарод узяць. Даўней і грэцка табе, і проса, і лён. А сягоння бульба адна ды жыта. Усё звялося, во зямля і быдлеець, як той бабыль.*

*Што яшчэ вам паказаць, ня здумаю. Можа, магільнік? Хадзіце паглядзіце. Тут во Канстанцыя, паня, ляжыць. Некалі ўпобачкі склеп быў, ды збурылі. Шкода, паны дужа важныя былі людзі. Гэта во — Бакевічавы, Галіна з Петраком. Магілку Валька, дачка іхная, даглядаець. Яна па суседству ў дзярэўню зайшла, дык прыходзіць нараччас.*

*Тут далей — мае. Бацькі абое, мужык і сынок старэйшы, Казік. А тамака вун, за капліцай, — Старынскія: Вітольды, Гірон з Альбінай, Лявон і Ромка. Альбіна ягадамі атруцілася. Гірон і Ромка ў агні згарэлі. Лявон з раку нядаўна памёр. Натка, жонка Ромкава, скора па ягонай смерці ў райцэнтру пераехала з новым мужыком. Начальніцай па культуры, ці як яно там завецца, робіць. Мужыка кінула, трэці раз замуж зайшла, за нейкага Казла. Гэта нядаўна ўжо было.*

*Магілы Люся з Толікам даглядаюць. Тэж ужо пенсіянеры, унукаў гадуюць. Па-нашаму ўсе гаворуць. І тут, на магілках, відзіце, па-нашаму напісана, Толік настояў. І мне тое самае раіў зробіць, але я пастыдалася. Якая там разніца, як напісана, адзін чорт.*

*Капліцу ў складчыну ставілі. Падгніла ўжо, але на мой век досіць. Па велькіх святах ксёндз прыязджаець, ладзіць імшу. З маладзейшых хто з суседніх дзеравень падляціць, памолімся. А так адна я тут, адна... Але не наракаю. Пачнеш наракаць і на горшае што наўрэеш. Так і сяджу, чакаю, калі Бог злітуецца, возьмець да сябе.*

*А вы што тутака? З цацкамі, гляджу, нейкімі? Запісываеце? Ну, запісывайце, калі інцярэсна... Хош які наедак са старой...*

*Спі. І не слухай. Я кажу гэта для сябе.*

Аўра Крысці

Частка першая

# УВАРВАННЕ

Цяпер, праз адфільтраваную ў часе памяць, мінулыя гады ўжо не ўспрымаліся нешчаслівымі і ўсё было па-за парогам адчування, нават нараджэнне хворага хлопчыка і смерць мужа не здаваліся ёй катастрофамі, як тады, пакуль не з'явіліся тыя людзі — раптоўна, быццам з іншага вымярэння, і яна не ведала, адкуль яны і чаму не тлумачылі сваё з'яўленне, бо спачатку яны пасяліліся на ўскраіне ў канцы вуліцы, якраз за ўчасткам маёра Фралова, бо той русак выйшаў у адстаўку і пасля вайны асеў у іх мясцінах, тут яму пабудавалі дом, ён недзе служыў, але неўзабаве кінуў, і ў яго доме пачалі піць, і не так, як пілі суседзі ці ўвогуле мясцовыя, — у доме Фраловых пілі ўсе: ён, яго жонка і дарослыя дзеці — дачка Феня і сын Клім; маёр сядзеў штодня на лаўцы перад сваім домам, брывасты, з жабіным ротам, і па-дурному ўсміхаўся ці зрэдку пачынаў выкрыкваць нешта пагрозлівае

так, маць вашу, так, уга-ха

яго і знайшлі неяк раніцай ля той лаўкі, а потым усё пацягнулася як і раней, пакуль дом не апусцеў — Феню звёз малады афіцэр, а апошнім знік маёрскі сын Клім: казалі, што яго асудзілі па "хуліганцы" — дзвесце першаму артыкулу — і ён хутка выйдзе на волю, але ён так і не вярнуўся, і тады, стаяла якраз лета, з'явіліся тыя людзі, з імі шмат крыклівых дзяцей — быццам сям'я, і ветліва віталіся

зрасстэ, зрасстэ

а на якой мове яны размаўлялі паміж сабой, яна так і не здолела зразумець, і іх рабілася ўсё больш і больш: яны пакрысе асвоілі пуню і павець у маёрскім садзе, а потым быццам папрасілі дазволу (хутчэй за ўсё і не думалі прасіць — у каго, дарэчы?) пасяліцца ў яго кінутым доме, бо нашчадак (Клім), пэўна, згубіўся, ці то ў лагерах, ці то на расейскіх прасторах, але гэтага ніхто не ведаў; дык вось, яны ададралі неяк удзень дошкі з вокнаў маёрскай хаты і пачалі там жыць, і амаль адразу ж да іх панаехалі аднекуль

здалёк, спачатку на машынах простых, на “капейках”, а потым і на іншамарках, а затым да дома зрабілі прыбудову з цэглы і там пасяліліся яшчэ людзі, а потым за павеццю вырас перанесены аднекуль зблізу драўляны дом — усё гэта адбывалася хутка, амаль што імкліва, яна нават не паспявала заўважаць, але не заўважаць, быццам іх і не было, не даводзілася, бо яны ўжо не казалі пры сустрэчы

зрасстэзрасстэзрасстэ

а не віталіся зусім, быццам яе тут не існавала, і тут якраз паваліўся плот, ці, можа, яны знарок гэта зрабілі, бо іх жанчыны пачалі карыстацца той дальняй часткай саду як прыбіральняй, выходзілі з раніцы, падбіралі спадніцы і гадзілі там, а дзеці іх ужо сноўдаліся па ўсім гародзе, выядалі ўсё, што спела, расло, і крычалі адно аднаму, здавалася, толькі адно зразумелае ёй слова

дайдайдайдай

і вырывалі адно ў другога з рук, з рота, а потым яны раптам заўважылі хлопчыка, дакладней, заўважылі, што ў таго не ўсё ў згодзе з псіхікай, са здароўем; адкуль ім было ведаць, што хлопчык нарадзіўся з хваробай Даўна па той простай прычыне, што быў зачаты там, дзе дазіметры



паказвалі больш як пятнаццаць кюры, да таго ж муж пачаў піць і не захацеў спыніцца, так яно і атрымалася — бяда адна ніколі не ходзіць, казалі ёй, яна і сама не раз упэўнівалася ў той вядомай усім ісціне, але штодня глядзець на хлопчыка ўсё роўна было балюча, хаця той быў такі рахманы і ціхі і размаўляў з птушкамі, пчоламі, восамі, чмялямі, жабамі, трусом у клетцы, якога зваў Піля (зменшанае ад Піліпа), і карміў таго дзьмухаўцамі, прыгаворваючы

ПіляПіляПіля

і трус, белага колеру, атлусцелы, як шар, хуткахутка працаваў сківіцамі за дротавай рашоткай клеткі, паядаючы траву, і пазіраў на хлопчыка круглым чырвоным вокам, і калі што яму не падабалася, гучна грукаў аб падлогу заднімі лапамі

трахбах

і даўнёнак радасна ўсміхаўся і рабіў выгляд, што пужаецца, і гаварыў

ешешешеш

і вось дзеці тых перасяленцаў ці бежанцаў (як яны пра сябе казалі) пачалі падбірацца да яе Улі (так яго звалі ад сапраўднага, дадзенага пры нараджэнні, Юльян), бо даўнёнак сам казаў пра сябе

Уля

і спачатку быццам жартавалі: шчыкалі, тузалі яго, але іх жарты набывалі ўсё больш садысцкае адценне, і даўнёнак пачаў іх баяцца, хаця ўвогуле любіў вазіцца з дзецьмі, пакуль яны, тыя дзеці прыхадняў, не пачалі піхаць і штурхаць яго, а потым і біць па твары, па руках, і даўнёнак не разумеў гэтага і хаваўся ў хаце і не хацеў потым выходзіць у сад, а затым з клеткі знік трус — увогуле гэтага трэба было чакаць, бо яго проста скралі і з'елі, нават косткі не пасаромеліся выкінуць за павалены плот, дзе ўтварылі сметнік, і яна каторы раз пайшла з імі сварыцца, але, як і першы, і другі, і трэці раз, з гэтага нічога не атрымалася — яе проста не заўважалі, і тады яна звярнулася да ўчастковага, былога вяскоўца, зухаватага, маладога яшчэ, гадоў трыццаці, вузкага ў плячах і ўжо аб'ёмнага ў паясніцы чалавека, які дасягнуў межавай для сябе вышыні — падняўся да лейтэнанцкага звання, і той хадзіў разбірацца і на яе пытанні заўсёды казаў

тактак

нешта з паважным выглядам крэсліў у сябе ў блакноце асадкай, пукаціў чорныя, ухілістыя вочы і зноў казаў

тактак



і яна ў думках ужо зняважліва звала яго Тактакам і разумела, што спадзявацца на яго ці на які закон дарэмна, бо Тактак збольшага растлумачыў ёй, што тыя першыя бежанцы ўжо прапісаліся праз гарвыканкам і набылі нават грамадзянства, і каб даказаць, што яны гандлююць наркатой (а яна ўсё часцей заўважала, як да чужынцаў звярталіся маладыя дзяўчаты і хлопцы, а апошнім часам і падлеткі, і некаторыя з іх так спяшаліся, што карысталіся шпрыцамі прама на вуліцы, за плотам), трэба сур'ёзныя доказы

тактактак

тлумачыў ёй участковы і адводзіў вочы, у яго ўжо з'явілася іншамарка, ён увесь час некуды спяшаўся, і яна канчаткова дапяла, што ніхто не паварушыць і пальцам у яе абарону, бо суседзі, што жылі далей па вуліцы, займаліся кожны сваім і рабілі выгляд, быццам навакол нічога не адбываецца, і заставалася адно — прасіць парады і, магчыма, дапамогі ў брата Данілы, які калісьці жыў тут, разам з ёй, і тады быў невялікі правінцыйны горад Янаўск (такі ён, дарэчы, і застаўся), і была сям'я, а цяпер яна засталася ў гэтым Янаўску адна: хіба даўнёнка можна лічыць за памочніка, меркавала яна і з жахам чакала кожнай ночы,

бо начамі, як ні дзіўна, актыўнасць прышэльцаў узрастала: рыкалі маторы аўто, нехта прыязджаў ці, наадварот, ад'язджаў, даносіліся ўвесь час чыесьці галасы, крыкі, а то па садзе нехта хадзіў, яна была ўпэўнена, што часам і заглядвалі ў вокны, але чамусьці асабліва страшылася яна па начах хляўка ў глыбіні саду, ля самага паваленага плота, свайго хляўка, адкуль ужо неаднойчы знікалі то рыдлёўка, то граблі, то што з інструменту мужа-нябожчыка, а пільнаваць усё гэта яна не магла, і ніякія замкі тут не дапамаглі б, яна была ўпэўнена, пасля таго як купіла адзін такі ў гаспадарчай краме і навесіла, але ён знік разам з клямкай на другую ж, здаецца, ноч, і яна зразумела, што захаваць тут нічога немагчыма, але, тым не менш, трэба было, бо насоўваліся восень і зіма, а з надыходам халадоў ёй неабходна было апальваць дом, хіба дзеля даўнёнка, дзеля таго, каб неяк жыць далей, бо яна ведала, што адказвае за гэта безабароннае жыццё, анягож, і ў думках хацела толькі аднаго — каб аднойчы яна прачнулася і ўбачыла, як згінулі, праваліліся скрозь зямлю нахабныя чужынцы, гэтая набрыдзь, але пакуль усё заставалася па-ранейшаму, бо ў тым хляўку не толькі выкруцілі лямпачку і адарвалі провад, а і ўвогуле звечара станавілася вусцішна,



нават дзіка, бо аднойчы, калі яна пайшла туды са свечкай, каб адшукаць сокавыціскалку, і запаліла тую свечку сярнічкай, то раптам агеньчык патух, быццам з-за пляча яе нехта яго задзьмуў, і жанчына спачатку анямела ад незразумелага ёй жаху, а потым кінулася да дзвярэй і апамяталася толькі ў хаце, і шкадавала, што няма тэлефона (яшчэ не падышла яе чарга, хаця як настаўніца яна мела нейкія нязначныя прывілеі), гладзіла па галаве даўнёнка, які, хоць і было позна, чамусьці не спаў, і гаварыла

у доме павінен жыць мужчына, інакш
гэта не дом

а даўнёнак, які церабіў старую цацку і пазіраў убок, сумна ўсміхаўся і паўтараў у прастору перад сабой

ПіляПіляПіля

і тут яна канчаткова вырашыла паведаміць брату, але не званіць яму, не прасіць прыехаць неадкладна, а проста напісаць ліст, у якім хіба што збольшага прыгадаць пра ўсё тое, што адбывалася тут з ёй, і папрасіць парады, што ёй рабіць далей, і на другі дзень выбрала час, знайшла канверт, аркуш паперы і пачала выводзіць словы

"Дабрыдзень, Даня..."

і надоўга задумалася, але потым рашуча працягвала пісаць, пакуль не напісала ліст і не заклеіла яго ў канверт, а даўнёнак сядзеў побач і казаў

ДаняДаняДаня

бо акрамя пчол, восаў, якія, дарэчы, ніколі не кусалі яго, розных раслін, мошак, жаб і птушак ён любіў яшчэ яе і свайго дзядзьку Данілу, якога зваў, як і яна, памяншальна — Даня, і голас яго радасна зазвінеў

ДаняДаняДаня

казаў ён, а яна ківала хлопчыку галавой і думала пра тое, як ёй пакінуць яго аднаго, пакуль яна ходзіць у краму, бо цяпер, хаця і лета і ў яе адпачынак, а значыць, што дзіцё пры ёй, яна апошнім часам стала ўсяго баяцца, а гэта ўжо зусім не жыццё, калі ўвесь час у галаве, нібы цвік, адна і тая ж думка

небяспеканебяспеканебяспека

і яшчэ ў чужынцаў з'явілася пакаёўка — яны прывезлі яе аднекуль здалёк, пэўна, адтуль, дзе жылі раней, і якую звалі Васіліна, — русачка гадоў сарака пяці, высокая, худая, з вульгарным тварам крымінальніцы і моцнымі, доўгімі рукамі, але яе ніколі не бачылі п'янай ці з цыгарэтай у руцэ; у яе былі чорныя блукаючыя вочы і цупкі і прывязлівы позірк, часам як у вар'яткі, а ёй падпарадкоўваліся дзве паслугачкі ў гадох — яны то мылі бялізну, то даглядалі і мамчылі дзяцей, якіх станавілася ўсё больш і больш, і ўсіх гэтых траіх, найбольш Васіліну, жанчына чамусьці вылічыла і не засцерагалася, як тых чужынцаў, асабліва пакаёўку, якая здавалася ёй хаця і прымітыўнай і незразумелай, але ўсё-такі больш блізкай істотай, з якой яна аднойчы нават перакінулася словам, хаця тая і не вельмі хацела размовы, у рэшце рэшт і сама размова атрымалася імклівай і нелагічнай, але, меркавала яна, так і бывае ў жанчын, успамінаючы, як тады спытала ў пакаёўкі

здалёк прыехалі?

і нервова рыхтавалася задаць яшчэ пытанні, іх было шмат: пра тое, хто яны такія, чаму з'явіліся і чаго хочуць, якія ў іх мэты — павінны ж быць у людзей нейкія мэты, але пакаёўка пакінула яе пытанні без адказу, а ў сваю чаргу пыталася

а чорны хлеб можна есці?

і тлумачыла

у ім, кажуць, радыяцыя, бо ён з жыта,
а пшаніца прывазная

і цікавілася

а тут правяралі зямлю, паветра?

і, калі пачула, што радыеактыўнасць тут значна меншая, чым, напрыклад, у паўднёвых раёнах, адразу перапыніла размову, проста завярнулася і пайшла, і ўсё гэта здалося тады жанчыне нерэальным і невытлумачальным, як бывае ў сне, але ж гэта было наяве, і яна ўсё-ткі супраціўлялася і імкнулася шукаць хаця б паразумення, але тыя прыхадні рабілі сваю справу з механічнай мэтанакіраванасцю насякомых, якія адкладваюць свае яйкі на аблюбаваныя імі ахвяры, і вынік нібы быў імі прадугледжаны, быццам яны толькі выканаўцы непаразумелага ёй і адхіленага ў часе валявога акта, і жанчына хадзіла ля дома, пазіраючы ў бок суседзяў, і вусны яе зноў варушыліся, каб вымавіць адно і тое ж

небяспеканебяспеканебяспека

пакуль аднойчы яна не вырашыла па-добраму пагаварыць з іхнімі жанчынамі, — няхай ёй і не пашанцавала з суседзямі, дый і ўсёй вуліцы таксама, але паразуменне павінна быць знойдзена, трэба ж неяк жыць далей, і ўзяла з сабой пакет з пернікамі — гасцінцы іх дзецям — і пайшла прама цераз павалены плот, — жанчыны на былым фралоўскім падворку таксама к вечару збіраліся разам — яна пачула гэта па рэзкіх крыках і дзіцячаму віску, але размовы, як і раней,



і тады ў іх не атрымалася, а разам з тым і паразумення, бо хаця дзеці іх і павырывалі і расхапілі ў яе з рук пернікі, жанчыны тыя абмежаваліся дзвюма-трыма фразамі, нават у дом не запрасілі, хаця яе здзівіла тое, што яны ведалі і імя яе, і прозвішча, калі пыталі бесцырымонна на ламанай рускай мове

а брат, сэстра ў тэбя ест?

а што ў малчыка?

а гдэ работаеш?

пасля чаго ўвогуле хутка страцілі да яе цікавасць, тут якраз да брамы пад'ехала іншамарка, адкуль вылезлі некалькі жукаватых і крыклівых мужчын і жанчын, і яна скіравала назад, цераз павалены плот, і дома ўжо з раптоўным сорамам успаміпала, як стаяла перад імі: проставалосая, з чырвонымі плямамі на шчоках, прыніжана стараючыся знайсці паразуменне там, дзе ім і не пахла, а потым, ужо ўвечары, прывезлі з гартапа выпісанае на зіму паліва — крыху дроў і брыкету, і скінулі ўсё гэта на вуліцы перад брамай, і яны ўдваіх з даўнёнкам насілі ў хлявок, але перанеслі няшмат, бо наступіла ноч, і яны пайшлі ў дом, дзе яна накарміла даўнёнка кашай і напаіла гарбатай, а потым паклала яго спаць і лягла сама, а калі прачнулася — ужо

світала, яна выйшла на падворак, зазірнула за браму і ўбачыла, што ні брыкету, ні дроў ужо не засталося, а напярэдадні яны з хлопчыкам перанеслі ў хлявок хіба трэцюю частку таго паліва, і скамянела, сціснуўшы вусны, бо нават слёзы не хацелі з'яўляцца ў вачох, мо тады яна адчула б палёгку, але жанчына адагнала гэтыя думкі як не маючыя сэнсу і скіравала прама цераз павалены плот, які яна ўжо не раз падымала і ўмацоўвала, але яго валілі зноў і зноў, і пачала грукаць у дзверы былога фралоўскага дома, але ніхто ёй і не думаў адчыніць, хаця фіранкі на вокнах варушыліся і за ёй відавочна назіралі, і так яна прастаяла нейкі час, а потым завярнулася і пайшла, і тут ззаду бразнула фортка, і ўслед ёй паляцеў кусанак яблыка, які ўпаў пад нагамі, ледзь не трапіўшы ў спіну, а потым фортка з трэскам зачынілася, і жанчына на некалькі секунд знерухомела, ліхаманкава шукаючы варыянт далейшых паводзін, але сітуацыя была ўжо небяспечнай не толькі для яе — яна з усіх сіл імкнулася стрымацца, бо памятала пра дзіцё там, у хаце, і вярнулася дадому, дзе села ў крэсла і пачала думаць, як жыць далей, але тут прачнуўся хлопчык і завёў сваё

ПіляПіляПіля



і трэба было дапамагчы яму апрануцца і накарміць: яна рабіла ўсё механічна, як заведзеная лялька, толькі вусны шапталі, па меры таго як яна супакойвалася

небяспеканебяспеканебяспека

а потым пайшла да суседа, які жыў з іншага боку ад фралоўскай хаты і якога звалі Іосіф Манюка — гэта было сапраўднае яго прозвішча, а наколькі ён адпавядаў яму, яна б завагалася адказаць, бо Юзік, як яго тут звалі, працаваў у райспажыўсаюзе нарыхтоўшчыкам, а прасцей кажучы, старызнікам, збіраў па горадзе розны хлам, і ўвесь двор і гарод яго былі заўсёды завалены ржавымі трубамі, анучамі, сапсаванымі чыгуннымі радыятарамі, бочкамі ды розным іншым жалеззем, чаму нават адпаведную назву ці слова цяжка было знайсці, і вось яна прабралася праз увесь гэты хлам і зайшла ў дом, дзе яе сустрэла пятнаццацігадовая Рэгіна — дачка Манюкі: ужо зусім аформленая ў жанчыну, чарнавокая і з крыху выцягнутымі наперад, як і ў яе бацькі, скiвіцамі — і паведаміла

а бацька дома, адпачывае

і пайшла праз вітальню наперад, адкуль ужо даносілася мармытанне тэлевізара, а потым з'явіўся і сам Іосіф Манюка; высунутыя яго сківіцы нешта жавалі, і сказаў

праходзь, Люба

і тут жа спытаў асцярожна

ну, як жывеш, з чым прыйшла?

і запрасіў сесці, сеў сам на пацёртую, у плямах канапу, і жанчына пачала нервова расказваць пра тых прыхадняў-бежанцаў, голас яе задрыжаў ад хвалявання, пакуль яна гаварыла пра тое, што адбылося з ёй за апошнія суткі, але раптам нібы ачуняла, бо Манюка зірнуў убок і перабіў яе трывіяльнымі словамі

усе яны — таксама людзі і ім жыць
трэба, анягож

і адвёў вочы, а яна пасля яго слоў сцялася і зірнула на Манюку больш уважліва, але ўжо праз якую секунду збянтэжанасці знайшлася што адказаць, і словы яе прагучалі, як прыхаваны ўкол гаспадару дома, калі яна вымавіла

і ты б, сусед, за Роняй сваёй прыглядваў, а то ля яе занадта тыя чужынцы
пачалі круціцца

але Манюка, пэўна, ужо нешта ў сваёй галаве абмазгаваў, пралічыў і вырашыў, бо сказаў

што мы зробім, калі і ўлады, і міліцыя
рады не могуць даць

і дадаў

а можа, і не хочуць



але яна ўжо не слухала, бо яе на ваніты пацягнула ад такіх слоў, і яна паднялася з крэсла, таропка кіўнула, развітваючыся, і пайшла, а гаспадар цягнуўся следам, жаваў выцягнутымі наперад, як у малпы, сківіцамі і гнуў сваё

усім жыць трэба, усе хочуць есці, піць,
анягож

а яна ішла па вузкай, заваленай смеццем і зарослай ля плота дзядоўнікам, падбелам і падарожнікам вуліцы і думала, што жаданні есці, піць і спажываць як мага болей — хіба не гэтыя інстынкты валодаюць светам, і калі свет толькі такі, дык ён варты свайго лёсу, а даўнёнак ужо чакаў яе на верандзе, бо ў сад ён, як яна адзначыла, без яе не выходзіў, і гаварыў

ПіляПіляПіля

а потым сумна ўсміхнуўся, зусім як дарослы, і сказаў

мы грэбаныя псіхі

і папрасіў

кашыкашыкашы

а яна, унутрана сцепануўшыся, пацікавілася

хто табе пра псіхаў давёў?

на што даўнёнак паказаў пальцам у бок фралоўскага дома, а яна сказала

не гавары так, а то прыедзе Даніла
і будзе на цябе крычаць

і даўнёнак адразу пераключыўся

ДаняДаняДаня

а яна пайшла ў хлявок па сіта, каб працерці парэчкі хлопчыку на джэм, стараючыся не глядзець на абабраныя і абламаныя кусты і яблыні ля плота, а ля самых дзвярэй у хлявок спынілася, бо пачула адтуль галасы: спачатку дзявочы, які прасіў

ну, не трэба, не

а потым мужчынскі, які гучаў неразборліва і гугнява

бугубудубугуду

ціха прыадчыніла дзверы і ўбачыла на старой канапе, якую сама калісьці выкінула сюды з хаты, дзяўчыну ў жоўтай трыкатажнай майцы, светлавалосую, з вострым тварыкам, на якім выдзяляўся тлуста падведзены памадай рот, спадніца яе была заголена, майткі валяліся на падлозе, аголеная рука звісала з крэсла, што стаяла побач з канапай, а да яе спінай, так, што твару не было бачна, а толькі чорная валасатая патыліца, сядзеў, пэўна, адзін з тых падлеткаў, што пасяліліся ў фралоўскім доме, торкаў шпрыцом і гаварыў гугнява

ну, рука ў цябе, в натуре, "дарогу"

не знайсці

зноў торкаў, а жанчына праз прыадчыненыя дзверы назірала ўсё гэта і стаяла так з паўхвіліны, пакуль урэшце яе ўбачылі, пасля чаго дзяўчына падхапілася на канапе і абцягнула ногі спадніцай, але хлопец стрымаў яе палахлівы імпэт і, нахабна вышчарыўшы ў залатых каронках зубы на цёмным, вузкалобым твары, на якім, здаецца, валасы раслі ад самых брывоў, абарваў

тусуй ты адсель на х..., сука старая

спрытна падскочыў да дзвярэй і захлопнуў іх знутры

бугубудубугуду

яшчэ гугнеў ён там і мацюкаўся, а яна ўжо бегла да веранды, дзе, як ведала, стаяла ў шкапчыку бутэлька з бензінам, адшукала і, не памятаючы сябе, кінулася назад, да хляўка, вырвала зубамі корак і лінула з бутэлькі на дзверы і на сцены, але запалак у кішэні фартуха не знайшлося, і яна зноў памкнулася на веранду, а калі вярталася, убачыла дваіх — зусім не тых дзяўчыну і хлопца, а іншых падлеткаў, — на яе погляд, з дома, які быў прыбудаваны за фралоўскім: чорнавалосых, у спартыўных касцюмах, адзін трымаў у роце цыгарэту, і ўвогуле падлеткамі іх можна было назваць умоўна, бо яны былі памужчынску дужыя і, пэўна, ужо галіліся; і раптоўная здагадка маланкай працяла яе: яны ж чакаюць сваёй чаргі, і стаялі за хляўком з паў-

ночнага боку — там ёсць маленькае акенца, і цікавалі праз яго на тое, што робіцца ўнутры, і рукі ў яе затрэсліся, калі яна выцягвала з карабка запалку, але падлеткі схапілі яе і вырвалі карабок

ты, бабуля, ішла б дадому

сказаў адзін, а другі толькі засмяяўся

ты сваё адбегала

але раптам дадаў здзіўлена

ай! яна ж падпаліць хацела!

і піхнуў нагой напалавіну пустую бутэльку на зямлі

бензін, чуеш?

і яны загергеталі нешта па-свойму, а яна пачала вырывацца і ўрэшце вырвалася з іх учэпістых рук, але тут на фралоўскім падворку бразнула брамка і пачуліся ўсхваляваныя галасы, раптам стала ціха, а потым зноў пачаўся вэрхал, і яна зірнула праз павалены плот і са здзіўленнем убачыла Кліма Фралова, які стаяў у сваім двары і шчэрыў вузкагубы жабін рот, і бровы яго — шырокія і чорныя, зусім як у бацькі-нябожчыка — былі з непаразуменнем узняты, а вакол яго ўжо бегалі, то хапаючы яго за кашулю, то запрашаючы ў дом — разбірацца, і пайшла на веранду, дзе дзіцё даўно чакала яе і адразу пачало сваё



кашыкашыкашы

і яна паставіла на пліту каструлю з вадой, насыпала ў яе рыс, адкруціла вентыль балона і запаліла газ — рукі ў яе дрыжэлі

зараз, зараз

гаварыла яна хлопчыку, знайшла пачак пячэння

на вось, пакуль

і даўнёнак выхапіў у яе з рук пачак і зашамацеў абгорткай, а яна ліхаманкава думала пра адно — што ёй цяпер рабіць, пакуль не прыехаў Даніла, і што будзе, калі ён прыедзе, — раптам згадалася ёй — што тады будзе: мо яны з'едуць, бо ў фралоўскі дом вярнуўся гаспадар, і нервова хадзіла па верандзе, а хлопчык вымаў з пачка адну пячэніну за другой і смуткаваў

ПіляПіляПіля

і яна да самага вечара хадзіла каля дома: было горача, даўнёнак упарта не выходзіў, а пагуляўшы са сваімі цацкамі, скруціўся ў кутку, як шчанё, і заснуў, і ўрэшце сонца пачало закатвацца за цёмную рысу далягляду, і адразу з фралоўскага дома пачулася музыка — уключылі магнітафон з расейскай папсой, загудзелі маторы аўто, якія пад'язджалі і праз нейкі час ад'язджалі

уруламдамтамдулубам!

турузамрамшамтубудам!

чула яна, глытаючы таблетку транквілізатара, а потым з фралоўскага дома выйшаў п'яны Клім з цыгарэтай у зубах і, адышоўшы некалькі крокаў да паваленага плота, стаў мачыцца прама на зямлю, але яго зноў павялі, паляпваючы па плячы, у дом, і яна разбудзіла хлопчыка, пагуляла з ім, пакарміла і паклала яго ў ложак, і надышла ўжо ноч, калі яна знайшла свечку, запалкі і рушыла да хляўка, дзе было ціха; яна спынілася ў дзвярах, і зноў пачуццё страху ахапіла яе, але жанчына ступіла ўнутр і пачала ў святле агеньчыка ўзірацца ў цемру, а потым асцярожна пакрочыла наперад, трымаючы свечку ў руцэ крыху збоку, і цемра згусцілася за яе спінай, а затым яна быццам пачула шолах, з-за пляча яе дзьмухнула паветрам, полымя замігацела і пагасла, і адразу цемра агарнула яе.

Частка другая

## ЗЛАЧЫНСТВА

Чалавек па прозвішчы Даніла Прусак выцягнуў з паштовай скрыні канверт, які быў надарваны, бо са скрыняў кралі, пэўна, і гэтым разам



праверылі, ці ёсць што каштоўнае, але ліст пакінулі, і мужчына пазнаў почырк сястры Любы, паклаў канверт у кішэню, падняўся да сябе на ліфце, адамкнуў ключом дзверы кватэры, дзе жыў апошнім часам з сынам, бо жонка з'ехала, каб даглядаць сваю хворую маці, і мусіла заставацца з ёю ўжо да канца, як яны і вырашылі перадусім; яна часам тэлефанавала з далёкага, на паўночнай мяжы, горада і, пасля кароткіх пытанняў, звычайна гаварыла з трывогай:

ты толькі не запі там

быццам ён запіваў — такога ні разу не здаралася, — і калі ён запэўніваў, што не збіраецца, крыху супакойвалася і дадавала

патрываем ужо, Даня, даруй

і вось цяпер мужчына сеў у крэсла і пачаў чытаць ліст — цішыня агортвала яго, і сястра спачатку паведамляла звычайнае, а потым пра хлопчыка, і тут мужчына па прозвішчы Даніла Прусак пацмокаў вуснамі і сказаў уголас

лепш бы яму не бачыць гэты свет, бо

тут часам здаровыя ў сіло лезуць

і пахітаў галавой, бо неяк асабліва шкадаваў і любіў даўнёнка, як свайго крэўнага, за незвычайную дабрыню, рахманасць і даверлівасць, нібы ў свойскай жывёлы, і чытаў далей ліст, у якім

сястра быццам збілася на другаснае, але тут пачыналася незразумелае, думкі яе нібы ахапіла ліхаманкай, хаця яна стрымлівала сябе, і ён перачытаў абзац усярэдзіне, які выклікаў у яго неспакой і дзе гаварылася, што

“...засяліліся побач чужынцы, ніхто
іх раней не бачыў, — набрыдзь,
панаехалі да іх яшчэ ўсякія, паводзяць
сябе непрыстойна, ужо не ведаю, што
і рабіць, бо не маю сіл абараніць сябе
і хлопчыка, ты б параіў што, Даня, ты
ў сталіцы, ведаеш больш, а я простая
настаўніца, тут у нас стала зусім дзіка,
мне страшна...”

потым склад пісьма стаў больш роўны, але быццам хвароба ўжо выявіла сябе, ён адчуў гэта і, ведаючы стрыманы характар сястры, зразумеў, што ёй сапраўды блага ад нечага незразумелага яму, і вырашыў узяць адпачынак (яму былі вінны тыдзень яшчэ за мінулы год) і неадкладна паехаць, а пакуль паведаміць пра гэта сыну, які якраз адчыніў дзверы і буркнуў нешта замест прывітання і кпіў нязлосна

а, ты дома, хм, так, нешта рана, светла ж
яшчэ, ці гэта такая будучыня надышла
светлая, а мо цябе скарацілі?



быццам незадаволена гаварыў яго васямнаццацігадовы сын Ігнат, скідаючы красоўкі і куртку, і Даніла Прусак, як неаднойчы апошнім часам, уважліва зірнуў таму ў твар і зноў убачыў яго недахопы: вузкія плечы, слабы падбародак, тонкую шыю і, што з часам усё больш насцярожвала, — шырокі, бясформенны рот цесця, былога палітрука, камісара: знешняе падабенства станавілася ўсё больш яўным і злавесным, у глыбіні душы ён ведаў гэта і адганяў брыдкія думкі, хаця ўсё было, ён прадчуваў, так, а можа, будзе і горш, а сын прапанаваў

ты б паесці зрабіў, ці як, а то растучаму
арганізму трэба шмат калорыяў

і Даніла Прусак не стаў спрачацца, каму гатаваць ежу, а сказаў

Люба, цётка твая, ліст даслала, пэўна,
у яе там праблемы ўзніклі, трэба
з’ездзіць, недалёка ж, дзве гадзіны на
электрычцы, ты ж памятаеш, ездзіў...

быццам апраўдваўся, а сын чамусьці ажывіўся, вочы яго бліснулі ледзь не радасцю, і згадзіўся: пэўна, прыкінуў свае інтарэсы

едзь, я ўжо тут сам

і, як заўсёды, невядома было, пра што ён сапраўды думае, а мужчына сказаў напаўжартоўна

адзін жа застанешся, а гора аднаму, калі
ўпадзе і другога няма, каб падняць яго

маючы на ўвазе радкі з Эклезіяста, якія раптам успомніў, але сын Ігнат зразумеў па-свойму і, зачапіўшыся за словы, сказаў у адказ

падняцца зараз — умець трэба, але
нейкая купіна пад нагамі павінна быць,
інакш не ўзляціш

і працягваў з намёкам

са мной у групе сын калгаснага брыга-
дзіра вучыцца — невялікая быццам
купіна: брыгадзір, а штурхае добра, бо
і ежы ў яго нашчадка хапае, і прыкінуты
як трэба, і ў кішэні зашамацець ёсць чым

але Даніла Прусак абарваў

ты думай пра вучобу, радуйся, што
здаровы, малады, што ногі лёгкія, не
інвалід, што дзеўкі ўвагай не абмінуць,
дый хіба ў тым сэнс, каб шамацець?

раптам сумна ўсміхнуўся ён, а Ігнат бурчэў

сэнс, сэнс, усе пра адно і тое ж, а які
сэнс, калі няма за што рукі зачапіць?

і ўключыў тэлевізар, утаропіўшыся ў экран, на якім мільгацелі адзін за адным рэкламныя кліпы, і вузкагубы яго рот крывіўся

шмат з вашага сэнсу карысці



пасля чаго Даніла Прусак зрабіў вячэру і адразу стаў збірацца на заўтра, а потым пачало сутонець, а затым надышла ноч, і ён усё абдумваў: у чым раніцай паедзе, у якой вопратцы, як, на якім транспарце да вакзала, а там ужо на электрычцы, а потым думкі перакінуліся на сям'ю — на жонку, да якой апошнім часам быў амаль раўнадушны, і сына, які нават постаццю і паходкай усё больш нагадваў таго цесця-камісара, жонка часам гаварыла яму насуперак, што вось тата быў неблагі і яго кахалі жанчыны, і ён заўсёды здзіўляўся, як такога сухога і дурнаватага функцыянера маглі кахаць, хіба за бліскучую вайсковую форму — розныя там пагончыкі, гузікі, пятлічкі, ці за што-небудзь іншае — гіпертрафіраваныя геніталіі, напрыклад, і ледзь не плюнуў у ложку, бо не любіў і не паважаў таго, і стаў думаць пра гарадок, куды заўтра паедзе, дзе нарадзіўся і часам бываў, і гарадок той таксама быў яму не даспадобы, хіба што вабіла рака, якая цякла паблізу, але і яе за апошнія тры дзясяткі гадоў загадзілі, засмецілі безгустоўнымі будынкамі на берагах, адкідамі з заводаў, і ён доўга ляжаў у цемры са сваімі думкамі, слухаючы, як нарастаў шум рухавікоў за вакном

рррррррррррррррррр

а потым гук паступова заціхаў, толькі праз паўзы ажываў стары халадзільнік на кухні

ўжыўжыўжыўжы

і звыклая туга і сум авалодалі ім, але тут ён заснуў і зноў, ужо ў сне, пабачыў раптам тую раку, быццам ён плыў па ёй на хісткім чоўне, голы і, вяслуючы, усё трывожыўся пра тое, як ён голы выйдзе на бераг, пэўна, яму ж сустрэнуцца людзі, але раптам прачнуўся і ляжаў у ложку, а потым задрамаў зноў, ваўсю раўлі ўжо маторы на вуліцы, але сон быў павярхоўны, неглыбокі, і — калі ён прачнуўся другі раз — трэба было збірацца, ён памыўся, апрануўся, ускінуў на плячо сумку і сказаў сыну, які якраз выйшаў са свайго пакойчыка,

ну, нашчадак, я на дзень-два знікаю,
пазваню, калі што, ты ўжо тут сам воз
вязі, грошы я пакідаю, прадукты ёсць,
жыві

і сын кіўнуў — ён быў яўна задаволены, пэўна, намеціў ужо прывесці дзеўку нанач, а пры бацьку саромеўся, падумаў Даніла Прусак і выйшаў у раніцу, а потым нейкі час ехаў у перапоўненым тралейбусе па маршруце да вакзала, урэшце вылез і апынуўся, нягледзячы на ранні час, у моры чалавечых цел, пакуль стаяў у чарзе па білет, і потым таксама, калі сеў у засмечаны вагон, дзе, нягледзячы на цеплыню, нямытыя вокны былі шчыльна зачынены, і так ехаў, сціснуўшы вусны і заплюшчыўшы вочы, не зважаючы на праходзячых убогіх і жабракоў, толькі адзіны, быццам нязначны выпадак выклікаў у яго пахмурную цікавасць — калі гандлярка газетамі, кабета гадоў трыццаці пяці — сарака, пэўна, з жонак якога былога ці яўнага вайскоўца, скуластая русачка з чорнымі фарбаванымі валасамі і ў спартыўным абцягваючым трыко, раптам пасунулася да купкі крыклівых і брудных цемнатварых жанчын, пэўна, аднекуль здалёк, выхапіла з рук адной з іх дзіцёнка, яшчэ больш бруднага, смаркатага і, пэўна, вашывага, і з радасцю, ледзь не з захапленнем на твары прабегла з ім у канец вагона і потым назад, пры гэтым жанчыны змоўклі і назіралі за ёй, а тая закружыла дзіцё на руках у праходзе, прамаўляючы з робленай ці, можа, шчырай пяшчотай па-расейску

уй, какіе мы холосенькіе, правда,
правда, мы холосенькіе

а потым аддала яго жанчынам — яны ўжо быццам усміхаліся, і Даніла Прусак зноў заплюшчыў вочы, доўга раздумваючы пра тое, што бачыў, і так даехаў да патрэбнай яму станцыі, дзе

пакінуў сваё месца, яшчэ праз вакно выхапіўшы вачыма шыльду над будынкам вакзала

ЯНАЎСК

што азначала назву гэтага сярэдніх памераў раённага цэнтра, такіх гарадоў ён пабачыў за сваё жыццё нямала, але гэты ведаў больш за ўсіх, бо нарадзіўся і жыў тут даволі доўга, і, як заўсёды, на некалькіх прыпынках стаялі паныла купкі людзей, швэндаліся бамжы, а ўбаку, ля крамак, дзяжурылі дзве маладыя прастытуткі, і адна з іх беспамылкова пазнала ў ім прыезджага і заўсміхалася, выставіўшы наперад далоні з растапыранымі пальцамі, што азначала, пэўна, лічбу — дзесяць даляраў, і ён не стаў чакаць аўтобус, пайшоў пешшу, бо вакзалы заўсёды наганялі на яго трывогу, а да дома, дзе жыла сястра Люба, было з паўгадзіны хады, прахожыя ішлі яму насустрач, а то і абганялі, гучна прамаўляючы паміж сабой, значна гучней, чым у сталіцы, а то часам брыдкасловілі, пускаючы ў паветра дымкі цыгарэт і адкідваючы прама пад ногі ці ў бакі недакуркі

так яго і разгэтак

чуў ён і паволі ішоў далей, удыхаючы паветра, і паветра тут было нават горшае, чым у сталіцы, думаў ён, разглядаючы рэдкія вітрыны і прыцэньваючыся — варта купіць што-небудзь для даўнёнка, — але раптам заўважыў на тратуары аднакласніцу Алесю, якая раней была звычайная школьніца з пышнымі прыгожымі валасамі колеру спелага жыта, гэтыя валасы, падумаў Даніла Прусак, і саслужылі ёй дрэнную службу, бо ў горадзе неяк пабудавалі новы завод, вядома, ваеннага прызначэння, але ў адным з цэхаў дзеля камуфляжу пачалі распрацоўваць бытавыя прыборы, у тым ліку і фен для валасоў, і на вокладку ўпаковачнай каробкі спатрэбіўся рэкламны здымак маладой дзяўчыны — вось яна і трапіла на вока фатографу, і выява яе галавы з распушчанымі валасамі з'явілася на каробках з фенамі, а потым гэтыя здымкі пачалі наклейваць маладыя вадзіцелі на свае грузавікі

АЛЕСЯ

чыталі гараджане на скрынях з фенамі і на кабінах машын, якія вадзілі чырванашыія ўчарашнія армейцы, а потым у правінцыйны гарадок завітаў сталічны кінарэжысёр, які здымаў тут царкву і мост, і паабяцаў зняць у фільме Волечку: яе сапраўднае імя было Вольга, і яна хадзіла да рэжысёра ў гасцініцу, а потым, калі той з'язджаў назад у сталіцу, спрабавала засіліцца — звычайны "тэатральны суіцыд", і вось

цяпер яна ўбачыла Данілу і адразу пазнала яго (заўсёды пазнавала), памяць яна мела надзвычай учэпістую, пераходзіць на другі бок вуліцы было позна, і Даніла Прусак сказаў

ну, прывет, Волечка, усё прыгажэеш

а яна заўсміхалася гнілымі ад незалечанага карыесу зубамі і папрасіла адразу

дай цыгарэтку

і ён сказаў

я і ў школе не курыў, ты ж памятаеш

і хацеў ісці далей, але яна спытала неспадзявана

навошта ты прыехаў у гэты горад,
Данііл?

і ўдакладніла

ён жа мёртвы, тут усе мёртвыя

і быццам з вачэй яе на імгненне-другое ўпала заслона, бо ён убачыў раптам у іх асэнсаванасць, тугу і боль, і сказаў

ты ж жывеш у ім, і іншыя людзі,
бо не могуць жа ўсе перасяліцца
ў Парыж, ці Прагу, ці нават у якую
Вільню па суседству

але яна сумна ўсміхнулася

таму і не могуць, бо з іх жыццё высмактана, уцякай адсель, Данііл, а то ён



змарнуе і цябе, высмакча і твае сілы, забярэ ўсё, — ты ненадоўга сюды, праўда?

і дадала настальгічна

а памятаеш наш клас?

на што Даніла Прусак адказаў

а як жа, памятаю, сустракаю таго-сяго
іншым разам, вось як цябе

і адчуў сябе ніякавата, бо не любіў пустых успамінаў і робленых размоваў, але яна перапыніла

з таго класа амаль палова ўжо на
могілках ляжаць, я запісваю ўсіх,
па нумарах

і тут ужо ён па-сапраўднаму здзівіўся

навошта ж запісваць, які сэнс?

а Вольга-Алеся адказала

яны ўсе кпяць з мяне, смяюцца,
а спачатку зайздросцілі, дык хто тут
застаўся, не з’ехаў — адыходзяць цяпер
адзін за другім, я апошняя буду, ужо
тады толькі перадусім пасмяюся

але быццам заслона з’явілася зноў, яна захіхікала, а з апухлага, у зморшчынах, твару глядзелі ўжо на яго вочы той, якой яна была хвіліну назад, — вочы напаўюродкі

усіх перажыву

какетліва парасмыкнула плячыма, падміргнула, а калі ўбачыла, што мужчына збіраецца крочыць далей, дадала

ты адзін, Данііл, з мяне ніколі не смяяўся, не думай, я ўсё бачыла

і затрымала яго за кашулю

дай хоць пару паперак, я за півам збегаю, тут недалёка

і ён дастаў з кішэні некалькі дробных банкнот і, не гледзячы, сунуў ёй у рукі, і твар яе — старэчы, у зморшчынах — палагоднеў, а ёй жа толькі і ўсяго — каля сарака, думаў Даніла Прусак, ідучы далей па цэнтральнай вуліцы, і гэтая вуліца была яму знаёмая: з пяціпавярховымі дамамі, у якіх жылі ў асноўным рускамоўныя вайскоўцы ці былыя вайскоўцы, і ў памяці яго раптам узнік успамін пра тое, як ішла яшчэ на пачатку той перабудовы па гэтай вуліцы рэдкая рыска людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі і як на іх зверху, з вокнаў, ляцелі агрызкі і смецце, і мужчына па прозвішчы Даніла Прусак перасмыкнуў плячыма і спыніўся ля вітрыны крамы, дзе пабачыў сябе ў люстэрку — хударлявага, сярэдняга росту бландзіна з шэрымі вачыма і вузкім доўгім тварам, — продкі яго былі са Случчыны, а там здаўна аселі балты, прусакі, адсюль, пэўна, яго і прозвішча, цэлы сельсавет так і называўся — прускі; ён паволі пайшоў, азіраючыся па баках, але ўсё навокал было як раней, хіба толькі яшчэ больш адчуваўся агульны заняпад: у многіх кватэрах вокны былі выбітыя і закладзеныя фанерай, а то і заткнутыя рыззём, каналізацыйныя люкі зеўралі пустатой, там-сям іржавелі паваленыя агароджы, а каля харчовых крамаў тоўпіліся брудныя мужчыны і жанчыны з азызлымі азіяцкімі тварамі ў чырвоных пражылках — тварамі аматараў спіртнога і апушчэнцаў, і адтуль даляталі ўвесь час рэзкія крыкліва-істэрычныя воклічы

матахудабатак і гэтак!

чуў ён, але да боек пакуль не даходзіла, хаця на тварах некаторых з іх бачныя былі старыя і свежыя драпіны і сінякі, тут жа ішоў гандаль цыгарэтамі, жавальнай гумкай — той драбязой, што давала ім магчымасць зноў выпіць шклянкудругую таннага віна і выкрыкваць сваё незадаволенае

хуратаматак і разгэтак!

але ім гэтае жыццё было даспадобы, не інакш, думаў Даніла Прусак, бо хто перашкаджаў любому з іх перайсці на другі бок вуліцы і трапіць у іншы свет, дзе заняцца чым-небудзь больш

прыстойным, толькі яны не жадалі і не хацелі альбо не разумелі, як тая Алеся, якой калісьці ўсміхнуўся выпадак, але тут жа засмактала, быццам саромеючыся за сваю памылку, бездань, і, абыходзячы лужыны, смецце і бруд, ля якіх там-сям ляжалі, праважаючы яго залепленымі гноем вачыма, худыя, заражоныя лішаём бадзяжныя сабакі, мужчына ямчэй перахапіў сумку і пакрочыў па вуліцы, якая вяла да ўскраіны, і горад быў ужо быццам той і не той, нешта няўлоўнае змянілася ў паветры, мо таму, што памяняліся некаторыя шыльды і з'явіліся прыватызаваныя крамы, а над мэрыяй зноў лунаў чырвона-зялёны сцяг, і яшчэ ў нечым зусім іншым, хто ведае, ці, можа, у тым, што пабольшала жабракоў і папрашаек, як вось цяпер, думаў мужчына, калі ўбачыў на тратуары сляпога цемнаскурага і чорнавалосага малалетку гадоў дзесяці-дванаццаці, які сядзеў, вытарашчыўшы ў неба бялкі вачэй, а побач стаяла невялікая кардонная скрыня, на пярэднім баку якой было выведзена па-расейску і з памылкамі

> "...подайте люди добрые Христа ради
> инвалидам бежинцам кто чьто можит"

і прахожыя кідалі ў скрыню, асабліва жанчыны, а Даніла Прусак запаволіў крок ля крамы



і хацеў ужо зайсці ўнутр, але міжволі спыніўся, бо ў люстэрку ў вітрыне ўбачыў, як жабрак-малалетка за яго спінай раптам спрытна ўскочыў на ногі і, зыркнуўшы па баках цалкам здаровымі і відушчымі вачыма, а побач з ім якраз нікога не было, выграб са скрыні грошы і крыкнуў, азірнуўшыся назад, на незразумелай мове

> будулагашарага!

а ззаду, у цяні клёнаў, тоўпілася некалькі постацяў, адна з якіх — жанчына гадоў трыццаці — аддзялілася ад астатніх і рэзка выгукнула

> радамашаталаза!

падышла да малалеткі і забрала ў яго грошы, якія адразу зніклі ў рукавах яе адзення, а Даніла Прусак зайшоў у краму, а калі выйшаў адтуль, то ўбачыў, што папрашайка зноў сядзіць на сваім месцы, а метраў праз дзвесце са здзіўленнем заўважыў амаль такога ж малалетку, і скрыня была амаль такая ж, і надпіс, а калі звярнуў на бліжэйшую бакавую вуліцу, то і там ўбачыў постаць на тратуары, але гэта была ўжо дзяўчынка, і мужчына нейкі час раздумваў над усім гэтым, пакуль ішоў, усё болей адхіляючыся ад цэнтральных вуліц, дзе пад нагамі ўжо дзе-нідзе блiскалі жоўтай, застаялай вадой, пэўна, ніколі не высыхаючыя лужыны,

а ля драўляных парканаў-агароджаў выглядалі з пустазелля і пырніка кучы смецця і застарэлага попелу, які яшчэ зімой выкідвалі сюды з печак і топак, і апынуўся на яшчэ вузейшай вуліцы, а потым завулку і адразу ўбачыў павалены плот і новабудоўлю за фралоўскім домам, ля брамы якога стаялі дзве іншамаркі і бегалі з крыкамі дзеці, але пляменніка сярод іх не было, і Даніла Прусак адчыніў брамку і зайшоў на падворак, але яго ніхто не сустракаў, і цень трывогі крануў твар мужчыны, а потым ён зайшоў у хату і пабачыў хлопчыка, які сядзеў у куце, насцярожана, як звярок, выглядваючы адтуль, і адразу падхапіўся, калі пазнаў дзядзьку

ДаняДаняДаня

гаварыў ён, а Даніла спытаў

а маці дзе?

і даўнёнак сказаў

няма

і зноў пачаў свае

ДаняДаняДаня

твар яго быў заплаканы, а кашуля пакамечаная і брудная, і Даніла зноў спытаў

Люба пайшла?

але хлопчык ужо пераключыўся

кашыкашыкашы



гаварыў ён, і Даніла аддаў яму пернікі і цацку на колцах, якую купіў у краме, і даўнёнак пачаў прагна есці, а на цацку не звярнуў увагі, і мужчыну зноў стала вусцішна, і ён, раптам здагадваючыся, спытаў

а ноччу яна была з табой, ну, калі цёмна было?

і хлопчык затрос галавой

ненене

і адразу захваляваўся і пачаў енчыць

мамамамамама

а потым раптам успомніў

ПіляПіляПіля

смуткаваў ён, і Даніла падняў ужо цяжкаватага хлопчыка на рукі і выйшаў так у сад і абышоў яго, зазірнуўшы ўсюды: кусты парэчак былі абабраныя і дзе-нідзе віселі абламанымі галінкамі, на дзвюх агурковых градках было пуста, плот, за якім адразу пачыналася тэрыторыя фралоўскага маёнтка, павалены, мужчына агледзеў усё гэта, а потым паставіў хлопчыка на зямлю і, быццам нехта павёў яго, рушыў да хляўка, адчыніў дзверы і адразу зачыніў, стараючыся, каб даўнёнак не зазірнуў унутр, зноў падхапіў таго на рукі і пабег з ім у дом і сказаў

пабудзь тут, на вось, еш

сунуў яму рэшткі пернікаў і паабяцаў

я зараз, ты не выходзь

а даўнёнак спытаў

ты вернешся?

але ён ужо бег да хляўка, ірвануў на сябе дзверы і схіліўся над целам сястры, якая ляжала на правым баку, рукі яе былі прыціснуты да грудзей, быццам жанчына ў апошнія імгненні спадзявалася абараніцца ад небяспекі, і на твары яе застыла маска жаху.

Частка трэцяя

## НАПАД

Следчы па прозвішчы Кузін — нізкарослы малады мужчына гадоў трыццаці, з вострым кірпаносым тварам і цёмнымі мангалоіднымі вачыма — прыходзіў спачатку штодня, але потым яго наведванні рабіліся ўсё больш рэдкімі, а з дня забойства і хаўтураў прайшло ўжо каля тыдня, і Даніла Прусак сам пайшоў да таго ў райаддзел, і даўнёнак быў цяпер заўсёды з ім, ён, пэўна, шмат што зразумеў, бо часта трывожыўся, плакаў і гаварыў

мамамамамамама



а то яшчэ ўспамінаў труса і мармытаў

ПіляПіляПіля

а больш маўчаў і не адыходзіў ад свайго дзядзькі ні на крок, вось і на гэты раз сеў у кабінеце ля дзвярэй на зэдлік і слухаў, як следчы незадаволена казаў

пакуль нічога новага, але як толькі нешта праясніцца, то адразу вам паведамім

але мужчына перапыніў яго рэзкім узмахам рукі

вы забойцу знайдзіце, а не праясненняў чакайце

і нерваваўся, а следчы выслізгваў, як піскун, і гаварыў банальнасці і яшчэ нешта доўгае, нецікавае і неістотнае, і мужчына выслухаў, сціснуў сківіцы, а потым устаў з крэсла і пайшоў прэч, узяўшы даўнёнка за руку; яны ішлі вуліцай, было горача ад сонца, якое вісела прама над імі на бясхмарным небе, дрэвы, пакрытыя пылам з-пад колаў грузавікоў, якія раз-пораз грукаталі побач, амаль не варушылі лісцем і здаваліся штучнымі ў бязветранай прасторы, даўнёнак часта спыняўся і прасіў

піцьпіцьпіць

і Даніла Прусак напаіў яго квасам, а потым яны рушылі да цэнтра горада, дзе месціўся па-

штамт, і мужчына тэлефанаваў сыну — той праходзіў вытворчую практыку і якраз быў дома

я б прыехаў

апраўдваўся той

але ж вы мне не паведамілі, хоць бы
сказалі, дык мяне б адпусцілі

і Даніла сказаў

так, без цябе Любу пахавалі, але тут
яшчэ шмат спраў розных, я затрымаюся

а потым спытаў

грошы хоць ёсць, стыпендыя нябось
скончылася?

і той адказаў бадзёра, як у фільмах, якія глядзеў бясконца па тэлевізары

няма праблем

пасля чаго мужчына сказаў, што яшчэ хутка патэлефануе, а даўнёнак стаяў побач і енчыў

піцьпіцьпіць

а потым яны пайшлі дадому, толькі ў завулку ля сваей брамы спыніліся, бо на вуліцы стаялі двое ўжо ладных падлеткаў, па выгляду з фралоўскага дома, і мачыліся прама сабе пад ногі, і Даніла Прусак не стрываў і сказаў

прэч адсюль, вырадкі

але тыя не спяшаліся, нахабна зыркнулі на яго вачыма і загаварылі па-свойму, а потым



пайшлі, азірнуўшыся, і мужчына адамкнуў хату, зварыў хлопчыку кашу, адкаркаваў кансерваваю бляшанку з рыбай, і яны паелі, і адразу даўнёнка змарыў сон, а мужчына пайшоў і за дзве гадзіны паставіў плот, рыдлёўкай перакінуў за яго на былы фралоўскі пляц бруд і смецце, якое накідалі чужынцы, — там броўнаўскім рухам брутальна віравала незнаёмае яму жыццё: бегалі мурзатыя дзеці, крычалі жанчыны, пад'ехала "вольва", адкуль жукаватыя мужчыны вынеслі некалькі кардонавых скрыняў і занеслі ў дом, потым уключылі магнітафон, і Даніла Прусак адразу кінуў працу, аднёс на веранду рыдлёўку і інструмент, і ўвесь час за ім назіралі — у расчыненых вокнах з'яўляўся то адзін твар, то адразу некалькі, а затым прачнуўся даўнёнак і пачаў смуткаваць

ПіляПіляПіля

і мужчына пайшоў з ім у краму, перад якой, глытаючы з рыльца піва, звыкла лаяліся некалькі прыблатнёных і апушчэнцаў, і купіў у ёй хлеба і малака, а потым шукаў і ўрэшце дачакаўся няўлоўнага ўчастковага, і той з прыхаванай незадаволенасцю ад таго, што патурбавалі, гаварыў яму

тактак, яна скардзілася, па суседству

большасць так скардзяцца і гавораць,
хаця, канешне, новыя вашы суседзі
турботныя, ды прыгожа жыць не заба-
роніш — зараз так?

але Даніла Прусак перабіў яго

яны гандлююць наркатой, хіба вы
не ведаеце пра гэта? любы падлетак
з вуліцы пацвердзіць, у вас жа, пэўна,
ёсць інфарматары

а ўчастковы ўсміхнуўся

тактак

гаварыў ён,

усё магчыма, але паспрабуйце даказаць —
гэта не так проста, мы іх там усіх дапы-
талі, а доказаў ніякіх, вашу сястру мог
забіць чалавек і з вуліцы, так, хіба хто
з яе старых знаёмых, мо ў яе была
з кім, ну, скажам, любоўная сувязь

але пасля гэтых яго слоў Даніла Прусак за-вярнуўся і пайшоў, хлопчык цягнуўся ўслед за ім і гаварыў трывожна

ДаняДаняДаня

быццам адчуваў стан мужчыны, і яны пайшлі па забруджанай смеццем вуліцы — апошнім часам яго выкідвалі прама на дарогу, хілілася ўжо к вечару, хмара набегла на сонца, і на ка-роткі час дыхнула прахалодай, і даўнёнак пакі-нуў выпрошваць піць і пайшоў шпарчэй, а потым, калі зайшлі ў дом, адразу лёг на канапу і заснуў; мужчына хацеў сказаць яму, што не варта спаць на захадзе сонца, але той усё роўна не зразумеў бы яго, таму накрыў хлопчыка посцілкай і выйшаў на панадворак, прайшоў у сад і тут убачыў, як двое падлеткаў, ускрык-ваючы і смеючыся, але досыць настойліва, цяг-нулі да хляўка дачку старызніка Манюкі, не-паўналетнюю Рэгіну, якая хіхікала і нескаар-дынавана ўзмахвала рукамі, — пэўна, далі глы-нуць спіртнога, — падумаў Даніла Прусак, — можа, і падсыпалі яшчэ пару таблетак атамі-налу натрыю ці яшчэ чаго, — колькі дошак з плота, які ён паставіў некалькі гадзін таму, былі выламаны і валяліся на зямлі з яго боку; мужчыну скаланула ад раптоўнага выбуху гне-ву, і ён зрабіў хуткі крок наперад і ўдарам кула-ка адразу зваліў аднаго з крыўдзіцеляў, а вось другі кінуў Рэгіну, якая шмыгнула ў дзірку ў плоце, а потым уцякла ў заўсёды расчыненыя ў тым двары дзверы, і схапіў Данілу Прусака за кашулю, — ён быў па-мужчынску дужы, — і дыхнуў на яго сумессю алкаголю з часна-ком, выскаліўшы зубы з жоўтага металу, другі

падымаўся ўжо з зямлі, і Даніла Прусак саўгануў праціўніку каленам у пах, а потым зачапіў кулаком знізу ў падбародак — калісьці ў юнацтве ён баксіраваў, і зараз вось спатрэбілася, — нахабнік рохкнуў і заваліўся на спіну, а яго хаўруснік кінуўся ў дзірку ў плоце і ўзняў у двары былога фралоўскага дома лямант

бугуламудулага!

крычаў ён нешта па-свойму, а Даніла Прусак зайшоў у дом, зняўшы з цвічка на сцяне веранды сякерку, зноў выйшаў у сад да дзіркі ў плоце, за якой ужо лямантавалі, узмахваючы ў яго бок кулакамі, жанчыны, а падлеткі брыдкасловілі і рабілі яму непрыстойныя жэсты, і, скарыстаўшы тую ж кухарскую сякерку, узняў плот: прыбіў цвікамі дошкі да жэрдак, а потым на верандзе пачаў гатаваць ежу, паступова супакойваючыся, і тут якраз прачнуўся даўнёнак і сказаў ласкава і сумна

Даня

і мужчына падвёў яго да рукамыйніка, і хлопчык памыў сабе рукі і твар, і Даніла Прусак сказаў

заўтра пойдзем на раку і вуду возьмем,
каб лавіць рыбу, а можа, і скупнёмся
раз-другі, калі дажджу не нацягне



а сам думаў пра тое, што будзе рабіць далей, бо дапамога на пахаванне, якую атрымалі і прынеслі яму настаўніцы з тае школы, дзе працавала Люба, пайшла на хаўтуры, а грошы, што знайшоў у шуфлядцы — пэўна, рэшта яе “адпускных”, — таксама хутка сплывалі, і трэба было неяк жыць далей, некуды ўладкоўваць хлопчыка, але пакуль тое, ён разбярэцца тут да канца, а потым вырашыць пра лёс жытла, — усё імкліва набягала на яго, як набягае на адзінокага хадака на дарозе навальніца, і раптам ён сцяўся ад холаду, які пракаціўся па спіне і знік у нагах, хаця на верандзе было цёпла, бо раптоўна адчуў, як гэта ўжо было з ім не раз у апошні час, сваю адзіноту ў гэтым свеце і адказнасць за жыццё тых нямногіх, хто спадзяваўся толькі на яго, бо ім і не было спадзявацца больш ні на каго іншага; а потым мужчына накарміў даўнёнка і пайшоў з ім да суседа Манюкі, дзе іх сустрэла дачка Манюкі Рэгіна і, адводзячы вочы ўбок, правяла ў пакой да бацькі, — яна была відавочна спалоханая, думала, што сусед прыйшоў расказаць бацьку аб здарэнні, ала Даніла Прусак прыйшоў зусім не дзеля гэтага, ён прагнуў пачуць што-небудзь пра апошнія дні сястры, не можа быць, гаварыў ён, каб

сусед, ці яго жонка, ці дачка не ведалі б чаго, якой-небудзь важнай дробязі, а можа, што бачылі ці пачулі, але жонка Манюкі — Марыля — адмоўчвалася, а гаспадар гнуў сваё

цяпер кожны за сябе

гаварыў ён скрушна

цэны скачуць, беспрацоўе, рабаўнікоў, зладзеяў развялося

і яшчэ нешта пустое, як і сам, але раз-пораз Даніла Прусак лавіў на сабе яго насцярожаны, ацэньваючы позірк і думаў, што гэты чалавек, калі што і ведае, не дапаможа яму аніяк, і ўспомніў раптам ангельскую прымаўку: "чым вышэйшы плот, тым лепшы сусед", але ж вось у літоўцаў амаль няма парканаў паміж сваімі, і — жывуць, і чужынцаў на сваю зямлю не дапускаюць, і з гэтай думкай развітаўся з Манюкам і выйшаў з хлопчыкам у цемру — надыходзіла ўжо ноч, і ў тых людзей, што засялілі ўчастак зямлі на постфралоўскай прасторы, якраз усё брутальна ажывілася — рыкалі маторамі некалькі іншамарак, сноўдалі постаці, адтуль увесь час нешта гучна выкрыквалі, быццам ніколі і не ўмелі гаварыць нармальна, а з вокнаў гучэла расейская папса, і Даніла Прусак падумаў, што пацукі на тое і здольныя, каб існаваць уначы, так



ужо ім наканавана, і тут трэба быць пільным і не дапусціць, каб яны ўсё пераўтварылі ў ноч, а даўнёнак цягнуўся за ім, уздыхаў і гаварыў

ПіляПіляПіляПіля

а потым успомніў і пытаўся

мамамамамама?

і, ужо дома, нечакана лёг і, па звычцы, адразу заснуў, а раніцай мужчына накарміў яго, дастаў сваю старую пластыкавую вуду, паклаў у кішэнь хлеба, узяў для хлопчыка коўдрачку і ручнік і, як абяцаў, павёў таго на пляж, дзе было яшчэ пуста, пляж увогуле быў у заняпадзе, бо рака мяняла тут рэчышча і падмывала бераг насупраць, і ўжо можна было прадбачыць лёс грувасткага і безгустоўнага катэджа, пабудаванага гады два таму метраў за сорак ад берага, а цяпер, прыкінуў Даніла Прусак, да вады засталося ўжо метраў дваццаць пяць, а потым думкі яго зноў вярнуліся да апошніх падзей, а даўнёнак гаварыў

рыбарыбарыба

але тут Даніла Прусак убачыў адзінокую жаночую постаць на беразе з паўхвіліны хады ад іх і пазнаў Алесю, якая сядзела, падкурчыўшы ногі, глядзела ў ваду і паліла, а побач тырчэла ў неба рыльца бутэлькі, і мужчына адвёў хлоп-

чыка ў супрацьлеглы бок, каб тая не прычапілася з пустой размовай, паслаў даўнёнку на траву коўдру, дапамог таму распрануцца і распрануўся сам, адчуваючы, як прыемна заказытала босыя ногі трава — пахла мятай, — яе роўныя, зялёныя пруткі ўперамешку з аерам выторкваліся з зямлі, спускаючыся да вады, — рака бязгучна спяшалася далей пад стромкім берагам насупраць, і даўнёнак адразу знайшоў сабе занятак: пачаў корпацца ў пяску і часам уваходзіў у ваду па калені і гаварыў, назіраючы малявак і верхаводак

рыбарыбарыба

а мужчына выкапаў чарвяка і закінуў вуду — проста так, зусім не спадзеючыся злавіць, і лёг на траву, адчуваючы, як святло сонца пяшчотна гарачыць і падпальвае скуру на спіне і нагах, і доўга ляжаў так, назіраючы за даўнёнкам і амаль фізічна адчуваючы, як запавольваецца бег часу, пакуль урэшце гук матора не вывеў яго з гэтага стану: доўгі шэры “мерседэс” старога выпуску разварочваўся прама на пляжы і спыніўся метраў за дваццаць, ляснулі дзверцы кабіны, і разам з гукамі папсы адтуль вылезлі трое: адзін, пэўна, з мясцовых, вышэй сярэдняга росту, з рэльефнымі біцэпсамі, коратка стрыжаны, і з ім двое таго ж тыпу, што жылі ў фра-



лоўскім доме, а можа, нават і з тых самых, быццам бежанцаў, адзначыў Даніла Прусак, — усе на падпітку, а потым з кабіны, хіхікаючы, з’явілася яшчэ адна асоба — дзяўчына гадоў дваццаці з цыгарэтай у руцэ і бутэлькай віна ў другой, і, пахіснуўшыся, села на траву, а мясцовы закрычаў

купацца! хто са мной, маць вашу так!

і здзёр з сябе спартыўныя штаны, куртку, а потым трусы, застаўся голы, разагнаўся і спрытна нырнуў з берага ў плынь ракі, а двое яго сябрукоў загаманілі па-свойму і знялі толькі кашулі, застаўшыся на беразе, між тым як голы мацак з рэзкімі выкрыкамі сплываў па рэчцы ўсё бліжэй і ўрэшце праплыў побач з паплаўком вуды Данілы Прусака, быццам не заўважыўшы ні яго, ні вуды, а даўнёнак адразу перастаў корпацца ў пяску і насцярожана, як звярок, які пачуў небяспеку, узіраўся ў чужынца, а той крычаў

скачыце і вы, внатурэ, не пашкадуеце!

і плыў на спіне, выторкваючы геніталіі, і крычаў

маць яго, так і гэтак!

а потым вылез на бераг і пацягнуў у ваду дзяўчыну, глынуўшы з яе бутэлькі, а тая роблена вішчэла

Сярожанька, не трэба! ай, бля, не хачу!

і хіхікала, і зноў выкручвалася, і крычала, звяртаючыся да тых дваіх

Карым, ратуй! дапамажыце!

але тыя раўнадушна глядзелі, пакуль урэшце голы Сяржа ўцягнуў яе ў раку, на глыбіню, і абое паплылі, мацюкаючыся і адплёўваючыся, прычым стрыжаны ўпарта плыў на спіне, дэманструючы свой перад, і ўрэшце вылезлі на бераг — дзяўчына пабегла за машыну і сцягнула там спадніцу і кашулю, застаўшыся ў майтках, бо ліфчыка на ей не было, а стрыжаны Сяржа раптам падышоў да таго месца, дзе сядзеў Даніла Прусак, і сказаў

я вытруся

але мужчына не зразумеў, пра што тлумачыць голы Сяржа, і, сціснуўшы сківіцы, заўважыў

ты б менш крычаў, дзіцё напалохаеш

а той тым часам падчапіў з зямлі хлопчыкаву коўдру і ручнік і пачаў выціраць імі спачатку галаву і плечы, а потым жывот і геніталіі, але Даніла Прусак ужо ўскочыў на ногі і тузануў коўдру з рук нахаба

думай, што робіш, ублюдак, гэта ж дзіцячыя рэчы!

скрозь зубы вырвалася ў яго, а Сяржа раптам усміхнуўся ўжо зусім цвяроза і прашыпеў яму ў твар



што, не падабаецца, лох? я табе не падабаюся, да? ты нас не любіш, так?

і неспадзявана імгненна нанёс удар нагой, які прыйшоўся ў горла мужчыны, той пахіснуўся, ледзь не ўпаў і знерухомеў ад болю і шоку, бо не чакаў такой падлянкі, а голы Сяржа кінуў на траву пакамечаныя коўдру і ручнік і, гучна рыгнуўшы, пайшоў да сваіх, адкуль наўзабаве пачуліся дзявочы віск, лаянка, а потым усё гэта заглушыла музыка ад уключанага на поўную магутнасць магнітафона, а Даніла Прусак сутаргава зглынуў і адчуў, як горла апёк боль, а даўнёнак, пэўна, нічога не бачыў, бо ўдар быў спрактыкаваны і маланкавы, ва ўсякім разе мужчына спадзяваўся на тое, што малы не бачыў, і спусціўся да вады, дзе ляжала вуда, і сеў там, а даўнёнак падбег да яго і сказаў трывожна

Даня

потым успомніў і заладзіў

псіхі грэбаныя

і зноў

псіхіпсіхіпсіхі

а Даніла Прусак патрос галавой і прыхінуў таго да сябе — гаварыць ён не мог, толькі згодна кіўнуў, супакойваючы дзіцёнка, і сядзеў так хвілін пятнаццаць, а потым стаў складваць вуду,

калена за каленам — адно ў адно, пакуль уся яна не зменшылася да даўжыні локця, надзеў зверху пластыкавы каўпачок і пачаў аглядаць навакольле, пакуль не заўважыў удалечыні кропку — постаць Алесі, — тая ўсё яшчэ самотна сядзела на беразе, і сказаў, хутчэй прасіпеў, даўнёнку

ну, пойдзем сходзім вунь да той цёткі

і, сабраўшы яго рэчы, узяў хлопчыка за руку і павёў да жанчыны, ішоў марудна, часта спыняючыся, а калі наблізіўся, вымавіў з цяжкасцю

прывет, Волечка

а тая сказала

я ўсё бачыла, Даніiл

вока ў яе было вострае, і мужчына зноў адзначыў гэта пра сябе, а яе папрасіў

ты з хлопчыкам пабудзь, зрабі ласку,
а я схаджу пагавару

але жанчына кінула недакурак і з жахам запярэчыла

ты што, Даніiл, не заводзься, яны ж
заб'юць цябе

а той адказаў сіпата

не бойся, я загавораны

і Алеся-Вольга спытала дурнавата

дзе?

а той пажартаваў



у дзяржстраху, на кругленькую суму

і голас не слухаўся яго, у горле быццам засела вялікая, вострая стрэмка, ад якой пульсаваў боль, і мужчына спусціўся да вады, намачыў у ёй ручнік і прыклаў да шыі, стаяў гэтак, а даўнёнак гаварыў

рыбарыбарыба

а Вольга-Алеся лашчыла яго галаву невялікай бруднай даланёй і хвалявалася

мне страшна, Даніiл, не хадзі

зноў лашчыла даўнёнка — пазногці на пальцах былі чорныя — і казала

бедненькі

і гнула сваё

нехадзінехадзінехадзі

але мужчына кінуў на траву ручнік і абарваў

змоўкні, Вольга, а то сапраўды нагаворыш

і вырашыў

ты пагуляй тут з хлопчыкам пакуль,
а я зараз схаджу разбяруся, бачыш,
нас зняважылі

і дадаў, звяртаючыся да малога

пабудзеш з цёцяй Вольгай

і пайшоў, заціснуўшы ў руцэ пластыкавы цяжар вуды, паступова набліжаючыся да машыны,

адкуль усё так жа гучэла рэзкая музыка, але галасоў ён не чуў, а калі падышоў бліжэй, са здзіўленнем убачыў, што ўсе спяць — зусім голая дзяўчына ў салоне, адкуль патыхнула потам і спермай — спадніца яе і майка сушыліся на капоце, двое чужынцаў — у цяньку на посцілцы за машынай, а накачаны, мускулісты Сярожа, які ўжо быў у трусах, — прама на траве: усіх, пэўна, змарылі хуткацечны секс, сонца і выпіўка, і Даніла Прусак пасунуўся бліжэй, схіліўся над галавой стрыжанага і, размахнуўшыся, з усей сілай апусціў таму на горла цяжкаватую пластыкавую вуду і ўбачыў, як той захрыпеў, пукацячы каламутныя цёмныя вочы, а потым ударыў яшчэ раз, па кадыку, і стрыжаны Сярожа засоўгаў нагамі і зашкроб зямлю, а мужчына кінуў вуду ў раку і пайшоў назад, дзе яго ўжо чакаў устрывожаны даўнёнак, узяў дзіцё за руку, а Алеся таропка абувала парусінавыя падраныя тапачкі і гаварыла

я нічога не бачыла, я пайду

а Даніла Прусак падумаў і сказаў

і добра зробіш, Волечка

і павёў даўнёнка па сцежцы, якая вяла праз пляж, выйшаў з ім у завулак, а потым на вуліцу, рукі ў яго ўсё яшчэ дрыжэлі, а хлопчык смуткаваў



мамамамамама

і мужчына зайшоў з ім у краму, а потым паіў квасам і выпіў сам цэлы бакал, пасля чаго абодва рушылі дадому, але яшчэ здалёк прыкмеціў у канцы іх завулка міліцэйскі “ўазік” і сцяўся — няўжо яны так хутка па яго прыехалі, і што там пасля адбылося на пляжы, ліхаманкава меркаваў ён, з тым эксгібіцыяністам Сярожам, але пакрочыў далей, трымаючы за руку даўнёнка, і ўбачыў, як з фралоўскага дома пад воклічы жанчын міліцыянты праз брамку выцягвалі збітага Кліма Фралова, а той лаяўся і вышчэрваў у крыку шырокі запэцканы крывёю рот, так што былі бачныя мноства металёвых каронак, — падышоў бліжэй, і тут Клім пазнаў яго і выкрыкнуў, раздзіраючы адной рукой кашулю на грудзях

не вер ім, Даніла, я не забіваў!

а той спытаў, пакуль двое ў зялёнай форме — так званыя “агуркі” — закручвалі таму рукі і надзявалі наручнікі

ты пра што, Клім?

а той закрычаў

сястры тваёй, Любы, не забіваў! ведай гэта, а то табе навешаюць цяпер!

і тут яго ўпіхнулі ў машыну, дзверцы захлопнуліся, і “варанок” ад’ехаў.

Частка чацвёртая

# ЗНЯВОЛЕННЕ

Даніла Прусак папрасіў у следчага Кузіна зэдлік, пасадзіў на яго даўнёнка, раскрыўшы на каленях хлопчыка кніжку з коміксамі, прысеў сам, а следчаму сказаў

віншую вас з бліскуча праведзенай аперацыяй, толькі вось з логікай няўвязка; сачыце за думкай: Клім Фралоў вяртаецца дадому, які заняты чужынцамі, а забівае суседку, дык якая ў яго матывацыя — забіваць яе?

а следчы Кузін перакрывіў вусны

не вастраслоўце, іншым разам і матывацыя не трэба — у блатных гэта проста, не падабалася што ці "дуры" перабраў, і — гатова

і Даніла Прусак асцярожна папрасіў

мне з ім пагаварыць трэба, ён жа ўсё яшчэ ў вас, у СІЗО?

а следчы Кузін запярэчыў

гэтага нельга, дый няма яго тут, па сто першым артыкуле ў СІЗО доўга не трымаюць

і незадаволена засоўгаў па стале локцямі, а мужчына спытаў



дарэчы, пра "дур": вы ведаеце, што ў тым фралоўскім доме той "дур'ю" гандлююць адкрыта, а вашы службы нават не варушацца?

а следчы Кузін адказаў

тое-сёе мы ведаем, але калі вы, прыкладам, дасцё дзесяцігадоваму сыну тую "дур" і пашлеце яго прадаваць на вуліцу, то мы ў гэтым варыянце бяссільныя: няма законаў, каб дзяцей ці іх бацькоў — за краты

і тут жа перайшоў у наступ

вы ўмешваецеся ў ход следства, блытаеце нам работу, думаеце, што ваша справа — самая галоўная

а Даніла Прусак ямчэй уладкаваўся ў крэсле і сказаў

сястру вы мне не вернеце, але і сапраўднага злачынцу на свабодзе пакідаць не павінны

а следчы абарваў з крывой усмешкай

а хто вы такі — даваць загады

на што Даніла Прусак азірнуўся на даўнёнка, які сядзеў на зэдліку ў той самай позе, у якой яго ўладкавалі, і спытаўся

хто мы такія — скажы, малы

а той падумаў і адказаў гугнява

мы псіхі грэбаныя

а следчы Кузін зноў пакрывіўся ва ўсмешцы

не адна ваша справа на мне

патлумачыў ён незадаволена і гаварыў, гаварыў, гледзячы ў закратаванае акно, нешта нязначнае, але ў яго словах, быццам нязначных, хвосцікам тырчаў намёк на тое, што ўмешвацца ў лёс Кліма Фралова не варта, і Даніла Прусак думаў пра гэта ўвесь час, пакуль ішоў дадому, так нічога істотнага не дабіўшыся і не дазнаўшыся ад следчага Кузіна, хаця планаваў гэта, і даўнёнак плёўся побач, цяжка ўздыхаў і ўспамінаў

мамамамамама

і чарговы дзень ужо хіліўся на сход, было па-ранейшаму душна, і, хаця на даляглядзе быццам пачыналі скопліваццa хмары і нават адтуль ледзь чутна грукацела громам, — дажджу і доўгачаканай прахалоды не прыходзіла, хлопчык трывожыўся і нерваваўся, а Даніла міжволі заражаўся гэтым ад яго, а калі яны наблізіліся да жытла, то ён убачыў, што плот зноў павалены, і звыклую мітусню на фралоўскім падворку, і толькі сціснуў зубы, і вечарам, калі хлопчык заснуў, пайшоў да суседзяў, што жылі вышэй па вуліцы, і прапанаваў кожнаму толькі падысці ў названы ім час да фралоўскай брамы і моўчкі падтрымаць яго, а гаварыць з чужынцамі будзе ён сам — проста патрабуе ад іх, каб пакінулі гэтае месца, і яны сыдуць, калі ўбачаць сілу, як тыя пацукі, і нерваваўся, і паўтараў

хіба не так, сусед, хіба ты хочаш, каб згвалцілі тваю дачку ці зрабілі наркаманам сына?

але ў лепшым выпадку той-сёй абяцаў падумаць, а згоды не даў ніхто, і так па ўсёй вуліцы, хаця жанчыны скардзіліся і абураліся, бо, — гаварылі яны, — ужо і дзецям малым не стала праходу, а калі яны вяртаюцца дадому з крамы, куды іх пасылаюць па хлеб, то дзеці чужынцаў накідваюцца гуртам і адбіраюць грошы ці закідваюць небаракаў каменнем, нападаюць на малалетніх дзяўчатак і задзіраюць ім спадніцы, і гэта можа скончыцца гвалтам, але зноў толькі абяцалі падумаць, і Даніла Прусак доўга не затрымліваўся ў тых дамах, хаця даў сабе слова абысці ўсіх у радыусе кіламетра і прасіць дапамогі, але толькі на другі дзень к вечару ў яго з'явіўся саюзнік, але і той быў нямоглы дзед, і мужчына, вядома, не стаў настойваць на сваім плане, хаця стары з дзіўнаватым прозвішчам Кніга, які жыў у доме адзін, цалкам падтрымаў яго,

яны разгаварыліся, старога звалі Антон Пракопавіч, ён быў жоўты і нездаровы з твару, не меў ніводнай валасіны на шышкаватым чэрапе, але ў вачах яго раз-пораз бліскала іскра паразумення, калі ён патлумачыў мужчыну, што сеў адразу пасля вайны і цягнуў поўны “чырвонец”, бо ў вайну пайшоў маладым яшчэ хлопцам у атрад самаахoвы, за што з прыходам бальшавікоў “атрымаў па рагах”, але гаварыў Антон Кніга непахісна

...я гэтую савецкую ўладу тэлеграфным
слупам праз памыйную яму

і паўтараў і шкадаваў толькі, што цяжка аднаму, бо нічога не зарабіў за жыццё, хаця працы не цураўся, і гаварыў

але часу не вернеш, ужо і градку на
сваім участку цяжка ўскапаць, асабліва
па вясне

і запрашаў заходзіць, а даўнёнак гаварыў

дзедадзедадзеда

і Даніла Прусак на другі дзень пакінуў з ім хлопчыка і завяршыў свой абход, а калі прыйшоў забіраць, то ўбачыў там згоду і што малы не сумуе, і давёў старому, чаму хлопчык такі, а потым расказаў пра гутаркі з людзьмі, і на саркастычнае запытанне старога, ці задавальняюць яго вынікі, толькі развёў рукамі, а Антон Кніга лаяўся апошнімі словамі і гаварыў

...я гэтых пенцюхоў тэлеграфным слу-
пам праз памыйную яму

ставіў на стол талеркі, ліў туды кефір, куды потым крышыў зялёнае пер’е цыбулі, і казаў

чаму гэтыя бежанцы прыйшлі менавіта
да нас, а не да літоўцаў, прыкладам,
чачэнцаў ці да эстонцаў? а таму, што
іх адразу б вытурылі

пляваўся і пытаў

хіба наглядчыкамі ды папугаямі на
вышках ва ўсіх тых лагерах, дзе я
пабываў, чужынцы былі? не, свае ж,
маць іх грэбаную, такі народ

ставіў у цэнтр стала вараную бульбу, адкуль сплывала ў столь пара, і гаварыў

і цяпер на зонах самі сваіх жа апускаюць,
любімы занятак, самаеды, маць іх так
і гэтак

і зноў пытаў

вось вы, можа, у нейкай ступені кніж-
нік, навуковец, можаце мне растлума-
чыць, чаму на нас хутка пляваць будуць
і мець рацыю?

на што Даніла Прусак толькі крывіўся і адказваў сумна

быў такі Гумілёў, што распрацаваў
тэорыю пасіянарнасці, адпаведна якой
для кожнага этнасу адпушчана пры-
блізна тысяча дзвесце гадоў: ён, этнас,
з'яўляецца, пашыраецца і мацнее, потым
плаўна спадае і кансервуецца, і мы
зараз не адзіныя ў сваім заняпадзе —
розніца хіба што ў формах, ну, вазьміце,
прыкладам, Ангельшчыну, Францыю,
Нямеччыну, Нідэрланды: там паўсюдна
і імкліва расце колькасць чужынцаў —
тых, хто знаходзіцца ў больш актыўнай
стадыі этнагенезу; адны народы таміра-
юць, а на змену ім прыходзяць новыя
але стары перабіў зласліва
нешта я не чуў, каб па сваёй асабістай
ахвоце задніцы падстаўлялі
і мужчына пагадзіўся
так, супраціў павінен быць, і гэта нар-
мальна, але ў нас яшчэ і абцяжарваючы
фактар — радыяцыя, а гэта значыць,
што доля разумова адсталых рэзка
павялічваецца, да таго ж мы не маем
сістэмы генетычнага маніторынгу
а стары спытаў
вы мне можаце прасцей патлумачыць,
чым гэта ўсё нам пагражае?



і мужчына падумаў і сказаў
мяркую, мы ў стадыі этнацыду — калі
большасць імкліва дэградуе, няздатная
пераадолець генетычны цяжар, дый
пажылі каля тысячы гадоў, якраз
у тэорыю таго ж Гумілёва ўпісваемся,
хаця ёсць яшчэ і актыўная меншасць
і стары пацікавіўся змрочна
дык што — віць усім вяроўкі?
а мужчына ўсміхнуўся і сказаў
патрэбны людзі, якія яшчэ, можа, і знай-
дуцца, якія разумеюць сітуацыю, а на-
тоўп агітаваць  дарэмна, чым гучней ім
крычаць праўду, тым больш яны тых
крыкуноў ненавідзяць, бо знясіленыя
не жадаюць дзеяння, хіба не так?
і стары не адставаў
і што гэта за новыя людзі з'явяцца?
і мужчына сказаў
выспявае ж нейкая рунь, бізнесоўцы
ўсялякія, энергія ад іх новая
а стары не пагадзіўся
тая рунь — проста блатныя ды пры-
блатнёныя, — яны адзін аднаго жаруць,
жор навокал стаіць, а вы пра энергію
і сачыў, каб даўнёнак еў, і шкадаваў
гэ-эх, нябога

і меркаваў

блатныя — яны абачлівыя і вялікія хітраваны, так што наўрад той Клім Фралоў на "макруху" проста так рашыўся: з якой нагоды? за "шмаль", кажаш? але і "шмаль", і "дур" жыцця не вартыя, хутчэй за ўсё, падставілі зуха — ім, прыхадням, такі варыянт з абодвух бакоў ласы

а Даніла Прусак па дарозе дадому ўспамінаў словы старога і думаў пра следчага Кузіна — чаму той маніць яму і не хоча, каб ён пабачыў Кліма Фралова, а даўнёнак трымаў яго за руку і гаварыў

дзедадзедадзеда

а Даніла Прусак абяцаў

харошы дзед, заўтра зноў да яго пойдзем

і адзначыў міжволі, што чужынцаў за апошні час стала больш не толькі на былой фралоўскай сядзібе, а і па ўсім горадзе: па двое, па трое яны шпацыравалі па вуліцах, многія з іх ашываліся ў цэнтры горада, па плошчы ля галоўнага помніка, ля шматлікіх ларкоў, а калі наблізіўся да дома, то ўбачыў, што перад фралоўскай брамай перадусім зрабілі наспех лаўку, а на ёй сядзелі ўжо некалькі дзяўчат, сярод якіх ён пазнаў



і Манюкаву Рэгіну, — усе яны, як ён адзначыў, былі апранутыя ў лепшыя свае сукенкі, не інакш, палілі цыгарэты і хіхікалі, а перад імі выломваліся двое з тых бежанцаў, як яны сябе называлі, ва ўзросце яго сына Ігната, толькі больш узмужнелыя ды закаснелыя, і раз-пораз нешта рэзка выкрыквалі то на сваёй, то на ламанай рускай

будулагу! гуламарадубугула! бляматашуву!

і, пасля таго як паклаў спаць малога, зноў ладзіў плот і хадзіў у хлявок то па інструменты, то па цвікі, то па новыя дошкі, бо ў плоце некалькіх ужо не хапала, і яму стала зразумела, з чаго зрабілі лаўку перад брамай, і прыбіў дошкі цвікамі і раптам здзівіўся таму, што ў тым хляўку апошнім часам нічога быццам больш не прападала, хаця замка на дзвярах ён не вешаў: стаялі на сваіх месцах старая канапа і камод, крэслы з падранай абіўкай на сядзеннях, у куце, як і раней, пры жывой сястры, ляжалі нажоўка, гэблік, граблі, матыка, пустое вядро і яшчэ розны хлам, і мужчына думаў пра гэта нейкі час, але так і не знайшоў тлумачэння, а потым цераз плот папрасіў адну з жанчын, што завіхаліся на былым фралоўскім двары, паклікаць з дому

іх самага галоўнага мужчыну, а тая заўважыла мімаходзь і нядбайна

у нас всэ главные

і пачала гучна крычаць па-свойму дзецям

губудумузуру!

але потым усё-ткі знікла ў доме, адкуль, счакаўшы час, да яго выйшаў высокі і зарослы чорнай шчэццю апуцак з тоўстай шыяй і дзіўна завостранай зверху галавой: патыліца ў яго была зрэзана, а лоб збягаў назад, і ўтаропіўся вострымі вачыма, а Даніла Прусак сказаў яму

плот больш не чапайце, я не пацярплю

і не азіраючыся пайшоў у дом, а на другі дзень зноў накіраваўся да следчага Кузіна, доўга чакаў яго ў райаддзеле, а даўнёнак енчыў, прасіўся на вуліцу і пачынаў плакаць, калі ўрэшце следчы з'явіўся і, нават не запрасіўшы ў кабінет, абыякава спытаў

ну, з чым на гэты раз?

і мужчына патлумачыў

я б усё-ткі хацеў пагаварыць са сваім суседам, Клімам Фраловым, самі ведаеце, цікаўнасць маю вялікую

а следчы Кузін сказаў

высока ўзнімацца спатрэбіцца, аж на самае неба, ён, пэўна, там ужо —



якраз учора засіліўся, такая для вас навіна

але Даніла Прусак не паверыў

жарты ў вас, мянтоў

а следчы гаварыў

часу не маю з вамі чырыкаць, але скажу толькі — жартаваць не абучаны, у кавэнах не ўдзельнічаў

і дадаў

дык, каб вам зусім сюды больш маршкідкі не рабіць, скажу па сакрэце, што ў тым доме Фраловых мы вобыск зрабілі — быў адразу дазвол пасля смерці вашай сястры, — дык вось вам навіна: аніводнага грама наркаты там не знайшлі, пуста

пасля чаго Даніла Прусак не стрымаўся — заўважыў

ну, у няўдалай Дар'і заўсёды авар'і

але следчы Кузін не пакрыўдзіўся і раптам спытаў

вы там, у сталіцы, дзе працуеце?

і мужчына адказаў, прапускаючы ў вузкім калідоры ўздоўж сябе то аднаго, то другога міліцыянера, а даўнёнак шчыльней цяснуўся да яго

пасада невялікая, у канструктарскім бюро

а следчы заўважыў павучальна і прывязчыва
дык у вас там, можа, творчы ўзлёт
і суцэльны поспех? рынкі асвойваеце?

і ўсміхнуўся з'едліва, закрываючы за сабой дзверы, а Даніла Прусак да радасці хлопчыка завярнуў да выхаду, і неўзабаве вуліца засмактала іх: было яшчэ не вельмі горача, хуткія аблокі адно за адным набягалі з усходу, раз-пораз накідваючы на наваколле ценевы вэлюм, а потым у гарадскім парку яны елі марожанае і назіралі, як звыкла спрачаліся паміж сабой купкі сп'янелых рабацяг ды зладзеяватых абадранцаў з апухлымі тварамі, але тут даўнёнка пачало хіліць у сон, і мужчына павёў яго дадому, і з перагаворнага пункта на паштамце званіў сыну, але там так і не знялі слухаўкі, і потым з хлопчыкам ішоў па вуліцы, на якой ужо, здавалася, мільгалі толькі постаці чужынцаў, бо ля фралоўскай сядзібы стаяла некалькі іншамарак, ля якіх віравалі мужчыны і з рэзкімі крыкамі насіліся ўзад-уперад дзеці і падлеткі, а з дома часам таксама з крыкамі выбягалі і забягалі зноў унутр жанчыны

бугуламаташагудулу! бляматаюшуву!

чуў ён, а даўнёнак узяў яго за руку і цiснуўся бліжэй, і яны ішлі, і мужчына лавіў на сабе хуткія, ацэньваючыя позіркі, за якімі адразу ішлі ўслед разняволена-выклікаючыя спокіўкі, што разам дэманстравала прыхаваную агрэсіўнасць гэтых людзей, і мужчына думаў пра ўсё, пакуль карміў і ўкладваў спаць хлопчыка, і потым, калі крыкі на вуліцы і фралоўскім падворку, здаецца, дасягнулі верхняга напалу, у доме ўключылі магнітафон, быццам скідвалі напругу

туруламтамтамбурулам!
булурамдамрамдулубам!
гурузамрамшамтубудам!

чуў ён, а пад вечар да фралоўскай сядзібы сталі раз-пораз пад'язджаць іншамаркі, а зрэдку і таксі, з якіх выскоквалі ці, наадварот, з цяжкасцю вылазілі маладыя людзі ўзросту яго сына Ігната, а то і меншага, і калі-нікалі з імі былі і дзяўчаты, і мужчына праз акно веранды бачыў, як яны заходзілі ці забягалі, бразгаючы брамкай, у дом і хутка выходзілі ці выскоквалі адтуль і зноў сядалі ў таксі, а машыны напружваліся рухавікамі, набіралі хуткасць

ррррррррррррррррр

і ўжо амаль ноччу, калі цёмнае неба над галавой заіскрылася там-сям зоркамі, ён выйшаў з дома ў сад — музыку за плотам ужо выключылі, але шум і ўскрыкі з боку былога фралоў-

скага падворка ўсё яшчэ даносіліся да яго слыху, і мужчына доўга сядзеў на ганку, вылоўліваючы паўзы цішыні, якія станавіліся ўсё больш аб'ёмнымі і працяглымі, пакуль урэшце не запоўнілі ўсю прастору, і вушы лавілі толькі камарыны звон ды аднастайнае сакатанне цвыркуноў, калі раптам яму здалося, што ў маленькім акне хляўка на мяжы фралоўскай сядзібы мільганула святло, і Даніла Прусак насцярожыўся, а потым некалькі хвілін запар назіраў за тым месцам, аж да напругі ў вачах, але цемра з таго боку была такая ж шчыльная, як і ў самым далёкім кутку саду, і ён вырашыў, што яму проста прымроілася, але нешта неасэнсаванае, нейкая трывога падсвядома перашкаджала яму ісці ў дом, і мужчына, памацаўшы ў кішэні, ці ёсць запалкі, павoлі пакрочыў у напрамку да пабудовы, стараючыся ступаць бязгучна, не шумець, быццам ішоў не па сваім участку, а па незнаёмай і варожай яму зямлі, думкі пра гэта, узнікнуўшы, не пакідалі яго, бо памяць калі-нікалі падказвала і пракручвала адзін і той жа фрагмент: цела сястры на падлозе з прыціснутымі да грудзей рукамі і выразам жаху на твары, але мужчына адагнаў гэтыя думкі, ціха падышоў да дзвярэй і пацягнуў іх на сябе, і дзверы, рыпнуўшы, адчыніліся,



і ён, пашкадаваўшы, што ў доме няма ліхтарыка, выняў запалкі, чыркнуў адну аб карабок і ступіў цераз парог, пасля чаго стаў, сцішыўшы дыханне і ўзіраючыся ў трапяткія цені ад святла на сценах, але святло мігнула і пагасла — запалка дагарэла, і ён выцягнуў з карабка другую, але яна не запалілася, толькі выбухнула іскрай і зашыпела, і мужчына не стаў запальваць трэцюю, а знерухомеў у цемры, прыслухоўваючыся да самых малых і нязначных гукаў, але іх, лічы, не было, і ён зрабіў крок назад, навобмацак зноў пацягнуў рыпнуўшыя дзверы і пераступіў парог, а потым павярнуўся, каб выйсці тварам наперад і адначасова зачыняючы за сабой дзверы, як раптам цемра перад ім амаль бязгучна скалыхнулася і абрынулася на яго, і мужчына ступіў яшчэ па інерцыі крок-другі, а потым ногі яго падламаліся, і ён цяжка рухнуў на зямлю, губляючы прытомнасць; і стала ўжо світаць, прайшло, можа, гадзіны дзве, калі ён ачуняў, урэшце ён не згадваў пра час, бо галаву працінаў боль, а рука, калі ён намацаў месца ўдару на галаве, стала ліпкай ад крыві, і мужчына адчуў ледзь улоўны, характэрны пах жалеза; са стогнам узняўся на адно калена, а потым на ногі і азірнуўся навокал, але ўсё ў садзе

і ля хляўка было па-ранейшаму: хіба што цішыня стала больш выяўная — не было чуваць ні птушак, ні цвыркуноў, раса ўвільгоціла яго ногі і вопратку, і ён з цяжкасцю рушыў у бок веранды, і кожны крок, як малатком, udaраў яму ў скроні, а калі зайшоў у дом, то адразу зазірнуў у бакоўку — хлопчык спаў, скруціўшыся на сваім цеснаватым ужо ложку, і мужчына прыслухаўся да дыхання дзіцяці, пастаяў так з хвіліну, а потым агледзеў сябе ў люстэрку — на галаве, на месцы ўдару, была бачная аб'ёмная гематома, з якой яшчэ сачылася кроў, і Даніла Прусак змыў яе над рукамыйнікам і змазаў ёдам рану, а потым знайшоў ручнік, намачыў яго ў вадзе і прыклаў да галавы; усё гэта ён рабіў механічна, як не на сабе, пасля чаго адшукаў бутэльку гарэлкі, адкаркаваў і зрабіў некалькі глыткоў прама з рыльца, і боль паступова пачаў заціхаць, стаў прыглушаны, і ён, зачыніўшы дзверы на верандзе, як быў, у вопратцы, скінуўшы толькі чаравікі, лёг на канапу і праспаў так з гадзінупаўтары цяжкім, перарывістым сном, а раніцай, накарміўшы даўнёнка, пайшоў з ім да Антона Кнігі, і стары якраз хварэў, але падняўся з ложка і ўважліва слухаў мужчыну і гаварыў звыклае



...я гэты горад і хто яго насяляе тэлеграфным слупам праз памыйную яму

і раіў

з'язджайце, бо тут трэба толькі страляць, а вы на гэта не пойдзеце, дый не дадуць — аблажаць, як звера, свае ж

і смуткаваў

мне б маладыя гады — я б тут і хвіліны не затрымаўся, далібог, дрыгва

і даў хлопчыку цукерку, а той, асмялеўшы, хадзіў па пакойчыку і казаў

дзедадзедадзеда

а стары папярэджваў

сцеражыцеся і будзьце абачлівы, бо цяпер яны ўжо ўвайшлі ў смак і будуць паляваць на вас, як на жывёлу, пакуль свайго не даб'юцца

і мужчына перапытаў, нібы зацікаўлена

чаго гэта — свайго?

а стары адказаў, як цвікі забіў

калі пацукі заводзяцца ў доме, то гэта дрэнная прыкмета — значыць, туды неўзабаве бяда прыйдзе, а людзей, каб падпрэгчыся ды вам дапамагчы, няма, вы ж пахадзілі па хатах, пабачылі — юдава поле

на што Даніла Прусак сказаў вяла
за вас старасць гаворыць, адзінота
але стары толькі ўсміхнуўся
хіба не ў гэтым краі больш за ўсіх любяць здраду і здраднікаў? а стукачоў колькі тут на квадратны метр? ды я воляй клянуся, нідзе ў свеце іх столькі няма, як тут, па гэтых кватэрках затруханых, з прусакамі, у гэтых хатах, за гэтымі гнілымі парканамі
і дадаў злосна і змрочна
у мяне зямлі кавалачак, дрэўцы pасаджаны: яблынькі, вішні, а каму ўсё дастанецца? тым прыхадням ці гаўнаедам тутэйшым? ёсць нагода, каб думаць, праўда?
а мужчына сказаў
я вось таксама думаю, можа, варта альтэрнатыву пашукаць, калі міліцыянты не даюць рады?
і стары злосна бліснуў жалезам зубоў
да блатных звярнуцца карціць, ці як?
а Даніла Прусак пацвердзіў, крыху і не без іроніі
тут зараз адзін аўтарытэт быццам кіруе, па мянушцы Эмір, у рэстаране ў яго ніколі за вячэру грошай не патрабуюць



але стары ахалодзіў
памятайце — блатныя не людзі
і пачаў з цяжкасцю хадзіць па пакойчыку ўзадуперад
чуў я пра таго Эміра, горад невялікі, днём у більярднай быццам, а вечарам — у рэстаране; мяркую — гэта так званы “смотрящий”, але што цікава — і тут сабе на шыю нашы дурыкі чужынца пасадзілі, нават адпаведнага блатнога свайго не знайшлося
і звыкла бурчэў
...я гэтых аўтарытэтаў тэлеграфным слупам праз памыйную яму
і папрасіў на развітанне, усміхаючыся ўсімі сваімі штучнымі зэкаўскімі зубамі
заходзьце, а то пагаварыць няма з кім, далібог, здзічэў
пасля чаго мужчына ішоў па вуліцы, дзе разпораз яго ахутвалі аблокі пылу — ад грузавікоў, што праязджалі, грукочучы і бразгаючы жалеззем у напаўпустых кузавах
гахтрахбахцвынь
і адначасова
ррррррррррррр
і зноў
ррррррррррррр

а даўнёнак цягнуўся следам і канькаў

піцьпіцьпіць

і мужчына зайшоў у краму і купіў пластыкавую бутэльку газіраванай вады, і хлопчык адразу ажывіўся і, заціснуўшы яе ў руках, пайшоў шпарчэй, але Даніла Прусак не павёў яго дадому, а скіраваў у гарадскі парк, і па дарозе туды, на вуліцах, ля крамаў — паўсюдна ён бачыў па два-тры такіх жа самых, як з панадворку фралоўскага дома, "бежанцаў" — жанчын і мужчын: яны вылучаліся сярод мясцовых жыхароў і знешнасцю, і паводзінамі, але, як адзначыў Даніла Прусак, мала хто звяртаў на іх увагу, быццам не адчуваў нахабнай пагардлівасці чужынцаў, а калі і адчуваў, то спяшаўся хутчэй прайсці далей і не чуць іх гучна-крыклівых галасоў

будулагашаматага!

нахалабараманаза!

ралатабазаладулаба!

у парку, на лаўках, ля часовых драўляных павільёнаў, якія нагадвалі сабачыя будкі, іх было яшчэ больш, але ў асноўным маладых, узросту яго сына Ігната, сярод іх былі і дзве-тры іх дзяўчыны, адна з якіх праз кароткія паўзы віскліва выкрыквала расейскі мат

бляхубаматага!



але мясцовых дзяўчат усё гэта быццам толькі прыцягвала, бо яны віравалі сярод чужынцаў, рэзка і ненатуральна выгінаючы постаці і хіхікаючы

хігіхігіхагахехі

а тыя хапалі іх за голыя рукі і спіны сальнымі ад тлушчу пальцамі, бо тут жа куплялі і елі смажаныя шашлыкі і мяса, і выкрыквалі

будугалашаратама!

і гергеталі па-свойму, і Даніла Прусак адчуў, як устрывожыўся хлопчык, і ўзяў яго руку ў сваю і пачаў шукаць тое, што яму было патрэбна, і сапраўды, сярод дрэваў, у зацені, па памяці знайшоў більярдную — прасторную драўляную пабудову, пафарбаваную ў сіні колер, там-сям фарба аблупілася, але шкло на вокнах было цэлае і вымытае, дзверы расчынены, і з памяшкання даносіліся галасы і мяккі грукат шароў

тахтахтрахтах

і нехта казаў

стоп, двойку ў лузу, так, гатова

і, адкаркаваўшы даўнёнку бутэльку, Даніла Прусак пасадзіў таго на прыступкі, а сам зайшоў у дзверы і акінуў позіркам залу, дзе за сталом ляніва ганялі шары двое коратка стрыжаных маладых людзей у спартыўных шараварах,

тэнісках і пляжных тапачках на нагах, побач, на століку, стаялі дзве пачатыя бутэлькі шампанскага і ляжалі некалькі бананаў, а збоку, у канцы залы, ля бачка з вадой, сядзела сталага веку жанчына-білецёрка і чытала кнігу, і на яго таксама зыркнулі — хутка і ацэньваюча: адзін з гульцоў быў гадоў пад трыццаць, смуглява-чорны з драпежна выцягнутымі наперад, як у пацука, сківіцамі і цяжкім позіркам цёмных вачэй, а другі гадоў на пяць-шэсць маладзейшы, з кірпатым азіяцкім носам і накачанымі біцэпсамі, ніжэй ад якіх сінела цалкам традыцыйная старамодная татуіроўка з кінжаламі і змеямі — усё гэта Даніла адзначыў, пакуль стаяў, і хацеў загаварыць, але кірпаносы апусціў кій і апярэдзіў

што, мужычок, згуляем на інтарэс?

але Даніла Прусак адмоўна пахітаў галавой, і той працягваў скрозь зубы, бо паспеў уставіць у рот запаленую цыгарэту

дык не хадзі тут, бачыш — цёплай
печкі няма, буфета — таксама, а ў нас
свой базар

але мужчына сказаў, падладжваючыся пад іх слэнг

я б хацеў з Эмірам пагаварыць, ёсць
інтарэс, можа, зацікавіцеся



і смуглява-чорны сказаў, заганяючы шар у лузу

Эмір — гэта мы
у множным ліку
так

і дадаў

толькі карацей, мужычок, а то я, бач,
пенсію зарабляю

і скрывіў усмешліва шырокі вузкагубы рот

хэхэхэ

а мужчына сказаў

ды я на пару слоў

і калі яны выйшлі на прыступкі, адразу абмаляваў таму, незадаволенаму, сітуацыю з “бежанцамі” і спытаў, ці здолеюць яны, прыкладам, крыху дапамагчы яму, каб тыя чужынцы з’ехалі ў іншае месца, і, павагаўшыся, дадаў

ну, і што з мяне за такую паслугу
належыць — назавіце кошт

а яго субяседнік, гледзячы ўбок і пакручваючы кій, спытаў

дзе прыжыліся тыя “бежанцы”? у якім
месцы?

і, пачуўшы адказ, раптам страціў цікавасць, быццам унутрана ўсё разлічыў і вырашыў для сябе, хаця мужчына яшчэ па інерцыі паспеў сказаць

я вашу работу кампенсую

але тут міжволі позірк яго машынальна затрымаўся на руках більярдыста, бо зблізу ён ясна разгледзеў на лакцявых згібах так званую "дарогу" — сляды ад шматразовага карыстання шпрыцам, і адразу з яго вачэй нібы ўпала заслона: гэты Эмір таксама мог быць кліентам у тым фралоўскім доме — здагадка выклікала пачуццё няёмкасці ад зробленага ім учынку, але більярдыст, сказаўшы толькі нядбайна

справы знянацку не вырашаюцца,
зразумей, а пакуль расход, я падумаю,
прыходзь дні праз тры

знік у памяшканні, а Даніла Прусак адабраў у даўнёнка напалову пустую бутэльку і павёў таго дамоў, абдумваючы, дзе тут была няўвязка, і згаджаўся сам з сабой: сапраўды, так не робіцца, ну, няхай нават тыя блатныя і не ездзяць па вечарах па "шмаль" да чужынцаў — усё роўна ён на іх як з каня зваліўся, адкуль таму Эміру ведаць, хто ён і што, і чаму яны адразу павінны даць яму веры, ну пастаў ён сябе на іх месца, але тут яго думкі трывожна пераскочылі на тое, што час, які яму далі на адпачынак, заканчваецца, а ён, па сутнасці, нічога не вырашыў, бо ў доме недагледжанае дзіцё, сам дом таксама патрабуе прысутнасці гаспадара, а ў сталіцы застаўся сын, якому, пэўна, няма розніцы — ёсць дома бацька ці не, а ўрэшце, хто яго ведае, што хаваецца часам у яго галаве, хаця цяпер галоўнае не гэта, а смерць сястры Любы і напад на яго самога мінулай ноччу, — за ўсім за тым ён падсвядома адчуваў прыхаваную і нябачную звонку, але мэтаскіраваную, напорыстую і акрэсленую волю, якая перакрыжавалася з яго воляй і ўступіла з ёй у адзінаборства, хаця, па сутнасці, і адзінаборства тут не мела месца, бо з чым ён пакуль змагаўся і чаму супрацьстаяў — хіба туману, цемры: урэшце, гэта хісткасць і няйнакш падземная нябачнасць больш за ўсё непакоілі яго, і Даніла Прусак зноў думаў пра гэта, пакуль ішоў па цэнтральнай вуліцы, аглядаючы правалы каналізацыйных люкаў, абшарпаныя, з аблупленай тынкоўкай сцены дамоў, спілаваныя ствалы дрэваў, якія ў беспарадку валяліся ля абочын, і ўвесь бруд і хлам, што выкідвалі па начах у закуткі, а потым пацягнулася другарадная вуліца, што вяла ў бок яго дома, — з пахіленымі гнілымі парканамі і развешанымі там-сям на іх старадаўнімі лозунгамі і рэкламнымі малюнкамі свіней і кароў, а даўнёнак плёўся побач, боўтаў рэресткамі вады ў бутэльцы і хныкаў

мамамамамама

а калі апынуліся ў сваім завулку, падабраў з зямлі выкарыстаны аднаразовы шпрыц, што, пэўна, выкінулі з акна аўтамабіля, і мужчына ледзь не ўпершыню накрычаў на яго і забараніў падбіраць з зямлі ўсе вострыя і колючыя рэчы, і казаў

ніколі не чапай гэтага, малы,
зразумеў?

і хлопчык ківаў круглай галавой са светлым пухам валасоў, што накшталт німба абрамлялі верхнюю частку яго твару

зразумеў, Даня

гаварыў ён і раптам успамінаў тужліва

ПіляПіляПіляПіля

і туліўся бліжэй да мужчыны, бо яны ўжо падыходзілі да свайго дома, дзе была прастора дзяцей ілжэбежанцаў, — тыя звычайна паўсюдна шнырылі тут, закідваючы дробным каменнем усіх іншых малалетак, якія рызыкавалі праходзіць паўз іх, а вуліцу і некалькі суседніх яны лічылі ўжо цалкам сваёй тэрыторыяй, але на гэты раз ля фралоўскага дома было нязвыкла ціха і нават іншамарак не было бачна, стаяў толькі шэры "ўазік" з брызентавым верхам, а калі Даніла Прусак наблізіўся, то пазнаў па серыі МБК нумар



міліцэйскай машыны, а непадалёку ад яе, бліжэй да яго, скупіліся некалькі жанчын, сярод якіх былі і мясцовыя, і тыя, што жылі ў фралоўскім доме, — апошнія выдзяляліся рэзкімі акцэнтаванымі галасамі, і, праходзячы паўз усіх, Даніла пачуў

Манюкаву Рэгіну згвалцілі ў вашым,
Даніла, хлеўчыку

а гаварыла гэта адна з мясцовых жанчын, што жыла крыху вышэй, яе дом месціўся якраз за Манюкавай сядзібай, Даніла Прусак не мог успомніць яе прозвішча, а яна працягвала

так, згвалцілі, а хто — назваць не можа,
пэўна, напаілі чымсьці, не памятае
нічога, от бацькам гора

і Даніла з хлопчыкам спыніліся і выслухалі навіну, а жанчына гаварыла ўжо ім у спіны

збілі так, што, кажуць, галавой кранулася

чуў наўздагон Даніла Прусак, а калі зайшоў у свой двор, убачыў, што на фралоўскім пляцы стаяць міліцыянты, і двое з іх адразу пайшлі да яго цераз мяжу — плот быў зноў павалены, а калі наблізіліся, моўчкі накінуліся на яго і зашчоўкнулі на руках наручнікі.

Частка пятая

# УЦЁКІ

З хвіліну мужчына па прозвішчы Даніла Прусак супраціўляўся, і ўтрох міліцыянты не маглі даць рады, каб упіхнуць яго ў машыну, але адзін з іх ухапіў з пярэдняга сядзення дубінку і з размаху абрынуў яе яму на патыліцу, пасля чаго яго ўцягнулі ўнутр, і машына, рыкнуўшы маторам, ірванула з месца, і тут Даніла Прусак выслізнуў з кароткага бяспамяцтва, зірнуў у задняе шкло і якраз убачыў хлопчыка, які бег следам, і як паступова, па меры таго як машына аддалялася, меншылася яго постаць, і зноў пачаў вырывацца, але адна рука яго ўжо была прыкавана наручнікамі да спінкі сядзення, і ён зразумеў, што ўсё марна і што невядома адкуль і ў якіх памерах, але прыйшла бяда, і сказаў, беручы сябе ў рукі і змушана расслабляючыся

куды вы мяне, па якому праву і ці надоўга?

патлумачыўшы нервова

там жа дзіцё засталося, вы ж бачылі на дарозе

але адказам яму была доўгая паўза, якая некалькі разоў парушылася шыпеннем рацыі ля пояса ў сяржанта, што сядзеў спераду, і некалькімі фразамі, якімі той абмяняўся па радыё, і толькі потым нядбайна кінуў

даведаецеся на месцы, вам патлумачаць

пасля чаго засталося трываць боль і чакаць, пакуль урэшце машына заехала ў двор мясцовага аддзела міліцыі, і яго адчапілі ад сядзення і пацягнулі ў следчы ізалятар — цагляную прыбудову ў самым кутку двара, там якраз ішоў рамонт, і ён адразу адчуў той характэрны пах зняволення, які, пэўна, захоўваецца ва ўсіх падобных месцах, — пах нямытых чалавечых цел, нечыстот і яшчэ чагосьці, што не перадаць словамі: магчыма, пах паразы, змешанай са страхам, і мужчына рвануўся назад і закрычаў

адвядзіце да начальніка!

але яго ўжо цягнулі па доўгім вузкім калідоры і ўрэшце затаўклі ў адну з камер, дзверы бразнулі і зачыніліся, і адразу ён удыхнуў задушлівае і смуроднае паветра — быццам да твару яму прыклалі брудную анучу, а ля сцен сядзелі і напаўляжалі некалькі постацяў: пэўна, гэта былі звычайныя апушчэнцы ці бамжы, ён не здолеў вызначыць адразу; адзін з іх, маладзейшы, паліў, яшчэ адзін вычэсваў выпадаючыя сальныя валасы на паўголым чэрапе і раз-

глядваў іх пасмы на расчосцы, яшчэ адзін спаў, але Даніла Прусак не стаў вывучаць сядзельцаў камеры, а павярнуўся да іх спінай і загрукаў у дзверы

выпусціце мяне!

крычаў ён і грукаў мацней

я патрабую!

і яшчэ пра тое, што яму не прад'явілі абвінавачання і што дома застаўся хлопчык-інвалід, адале ўрэшце дзверы адчыніліся, і двое мажных міліцыянтаў вышмаргнулі яго ў калідор і моўчкі пачалі збіваць, пакуль ён не асунуўся на падлогу, а потым зноў зацягнулі яго ў камеру і кінулі, так нічога і не сказаўшы, і толькі гадзіны праз дзве яго вывелі вонкі, правялі праз двор, і ён раптам апынуўся ў знаёмым кабінеце, дзе за сталом сядзеў побач з шэрым абшарпаным сейфам за спінай следчы Кузін і нешта пісаў, быццам не заўважаючы яго, і ўсё гэта адбывалася неяк не сапраўды, у зацягнутай штучнай паўзе; той усё пісаў, няспешна крэмзаючы белы аркуш паперы, і мужчына таксама маўчаў, стрымліваючыся, пакуль урэшце следчы Кузін узняў на яго цёмныя каламутныя вочы і спытаў

дык вас усё яшчэ цікавіць, чаму засіліўся Клім Фралоў?



на што Даніла Прусак сказаў

такой падлянкі ад вас не чакаў, дык, можа, вы мне пра Фралова пасля раскажаце, а пакуль патрабую выпусціць мяне, там хлопчык адзін застаўся, вы ж ведаеце сітуацыю

ён спяшаўся, бо следчы Кузін выказваў раздражненне і прыкметы нецярплівасці

да таго ж я затрыманы беспадстаўна, мне нават абвінавачанне не прад'явілі, збілі...

але следчы Кузін перабіў з прыхаваным задавальненнем

абвінавачанне прад'явім, а трымаць вас да таго часу маем права месяц — такі цяпер парадак

і тут мужчына не вытрымаў, голас яго сарваўся на крык

дайце хоць патэлефанаваць!

закрычаў ён і рвануўся да тэлефона, але следчы Кузін падхапіў апарат і перакінуў за спіну, паставіўшы на сейф, абпоўз Данілу Прусака позіркам і сказаў, нядобра скрывіўшы рот

пагасцюеце ў нас, з ачосамі грамадства, так бы мовіць, пазнаёміцеся, а званіць не дазволена

але мужчына перапыніў, скіроўваючы гутарку ў патрэбнае яму рэчышча

чаму мяне арыштавалі, на якой падставе?

і раптам здагадаўся: урэшце, гэтая здагадка спакваля ўжо існавала ў яго галаве, нібы плавала там неаформлена і размыта, як амёба

вы што, падазраяце гвалт з майго боку, вы гэта сур'ёзна?

спытаў ён і асунуўся ў крэсла — стаяць было цяжка, а следчы Кузін зноў мазнуў позіркам па яго твары і сказаў убок

у нашай Дар'і не адны авар'і — а як вы думалі?

і дадаў

раю прызнацца і даю слова: званіце куды захочаце, хоць у Гандурас

але Даніла Прусак патрабаваў

паклічце пракурора, адваката ці яшчэ каго, хаця б вашага начальніка — вы парушаеце закон

на што следчы Кузін нядбайна заўважыў

тут свае законы — вядома, не турма і пакуль не зона, але за месяц з чалавекам усё можа здарыцца, Клім Фралоў таму прыклад, а вы ж нават не урка, вы тут безабаронны



і Даніла Прусак разгубіўся ад непрыхаванай пагрозы яго слоў і сказаў

я ў вас некалькі гадзін, а мне кожная хвіліна вялікую цану мае, бо хлопчык — інвалід, вы ж яго бачылі, ён адзін проста не выжыве

і зноў сарваўся на крык, але следчы Кузін быццам чакаў гэтага, бо спытаў

мо вернемся ў камеру? у калектыў жадаеце? ці, можа, у адзіночку?

і тады мужчына прапанаваў

там па суседстве адзін стары жыве, я ведаю адрас, загадайце, каб хлопчыка да яго завезлі, ці дайце да майго сына ў сталіцу патэлефанаваць, ён прыедзе, забярэ, прашу

і хаця ён выціснуў з сябе гэтае "прашу", у ім ужо набірала моц нянавісць да гэтага вострань-кага, скуластага, з цупкім позіркам чалавека, які сядзеў насупраць яго, назапасіўшы, пэўна, нейкі нечаканы і каварны ход, і невядома, пра што думаў, але Даніла стрымаўся і сказаў

гвалтаўнікоў сярод прышэльцаў шукаць трэба, і забойцу там жа, у хляўку, і мяне ледзь не забілі, магчыма, яны там наркату хаваюць, што ім тады той ваш вобыск

і закончыў сваім

дайце ж пазваніць, не таміце

і крыху пасунуўся да дзвярэй, а потым яшчэ, але следчы Кузін апярэдзіў яго намер

там за дзвярыма міліцыянт стаіць,
і ўвогуле не раю самадзейнасці; дык
будзеце падпісваць?

і Даніла Прусак спытаў

а што вы, дарэчы, мне інкрымінуеце?
вы хоць думаеце, што робіце, валодаеце
сітуацыяй?

на што следчы Кузін аніяк вонкава не адрэагаваў, але патлумачыў

я пратакол накідаю і разам пакубатурым,
як і што

а мужчына падумаў і прапанаваў

згода, але спачатку я тэлефаную?

і следчы Кузін павагаўся і ўрэшце зняў апарат з сейфа і паставіў на стол, і Даніла Прусак набраў нумар сваей кватэры і ў думках узмаліўся, каб сын быў дома, а следчы Кузін гаварыў, пагрозліва трымаючы руку на рычажку тэлефона

размаўляйце толькі наконт хлопчыка
і больш нічога — ні дзе вы, ні чаму
тут



гудкі ішлі адзін за адным

ту-у-у-у-у
ту-у-у-у-у
ту-у-у-у-у

пакуль урэшце ў слухаўцы шчоўкнула, і сын Ігнат спытаў

ало, хто гэта?

і Даніла Прусак адразу ўсхвалявана пачаў крычаць яму, што трэба неадкладна, зараз жа ехаць у Янаўск і забіраць малога Юльяна, які адзін дома, абавязкова забіраць да наступлення ночы і быць з ім, а следчы Кузін насцярожана сачыў, і ён зноў паўтараў — ехаць прама цяпер да ночы, а сын Ігнат незадаволена гугнеў

ну што за пажар? а навошта цяпер,
што я там не бачыў, у мяне тут справы

і мужчына, стрымліваючы сябе, ужо больш спакойна сказаў

я цябе вельмі прашу, едзь не марудзячы, прама да дому ідзі — ты ж
памятаеш, дзе — быў жа некалькі
разоў, — жыццё малога ад цябе залежыць, ты разумееш?

а сын Ігнат перабіў

якраз нічога не разумею, што ў вас
там, ва ўсіх дах паехаў?

і Даніла Прусак сказаў таропка, бо следчы Кузін ужо выказваў прыкметы нецярплівасці

гэта ж твой брат, кроў у вас адна,
паўтары: “гэта мой брат...”

а сын Ігнат зноў пачаў незадаволена гугніць — то была яго звычка, набытая, магчыма, з генамі цесця-палітрука

брат, брат, ды што ты там усё цямніш,
што здарылася ўрэшце, растлумачыць
не можаш?

і тут далонь следчага з вузлаватымі пальцамі, якія заканчваліся шырокімі, плоскімі пазногцямі, націснула на рычажкі, і ў слухаўцы шчоўкнула і стала ціха, а следчы Кузін сказаў незадаволена, нават раздражнёна

ну, цяпер бярыце крэсла, сядайце бліжэй да стала, і будзем, так бы мовіць,
працаваць на вашу і маю карысць

і мужчына пасунуўся з крэслам, выцер мокры ад поту лоб бруднай насоўкай, якую выцягнуў з кішэні, і нечакана спытаў у следчага Кузіна, быццам дапытвалі таго

а як, дарэчы, ваша імя і па бацьку?

а той паморшчыўся, але адказаў

Іван Адамавіч



і хацеў яшчэ нешта дадаць, але Даніла Прусак працягваў — ён нібы скінуў нябачны ўнутраны цяжар, дазваніўшыся да сына

найперш чым разам працаваць, як вы
зараз выказаліся, мне б хацелася высветліць некаторыя моманты, у прыватнасці, як вы, вы асабіста адносіцеся
да тых прышэльцаў, што запаланілі
ледзь не ўвесь горад, вы ж таксама
грамадзянін, супляменнік, як і я, прамы
ці ўскосны, а кожнае племя павінна
абараняць сябе і кожную сваю асобу ад
уварвання чужынцаў, хаця б па прынцыпе тэрыторыі, хіба не так?

гаварыў ён механічна, як самнамбула, інстынктыўна адчуваючы, што намацаў нейкі патаемны канал, нейкую нябачную кропку, але следчы Кузін перапыніў яго, сказаўшы з крывой сваёй усмешкай

у нас усе людзі роўныя, гэта па-першае,
а па-другое, пытацца тут буду я, мы
адхіляемся ад вашай справы

але Даніла Прусак не пагадзіўся

людзі, можа, і роўныя, ды паводзяць
сябе яны па-рознаму, але калі на ваш

стол я вось зараз ногі пакладу, то што
вы на гэта скажаце, — што людзі роўныя?

гаварыў ён таропка, бо следчы Кузін са сваей неакрэсленай усмешкай ужо рыхтаваўся перабіць яго, і таму мужчына спяшаўся і працягваў

вы ж, пэўна, ведаеце, хаця б ад вашых
інфарматараў, што гэтыя з намі роўныя,
як вы кажаце, людзі крадуць і забіваюць,
гандлююць наркатой, разбэшчваюць
малалетніх дзяўчат, выкідваюць з магілак косці нашых продкаў, дзе хаваюць пасля сваіх нябожчыкаў, дураць
і падманваюць вяскоўцаў, распаўсюджваюць хамства і распусту, дабіваюцца
прывілеяў праз хабар

але следчы Кузін раптам грукнуў далонню па стале і спыніў

чытайце, што я тут прапаную, і падпісвайце, як абяцалі

але мужчына адкінуўся ў крэсле далей і сказаў

дык вы што, хочаце, каб я свой прысуд
пад вашымі фантазіямі сам сабе падпісваў?

і тут нібы нябачная заслона абрынулася перад ім, бо ён раптам асэнсаваў тое, што ўвесь час стрэмкай хавалася ў падсвядомасці, і ён закрычаў, не стрымаўшыся, — напруга апошніх гадзін выплюхнулася з яго насуперак волі і жадання

хіба я не здагадваюся, хто вам хабар
дае за тое, што я тут?! за тое, што Клім
Фралоў засіліўся? за тое, што забойца
сястры маёй, Любы, не знойдзены?
за тое, што "дурру" ды "шмалю" як
гандлявалі, так і далей гандлююць
і будуць гандляваць?

і, пэўна, трапіў у нешта такое, пра што павінен быў маўчаць, бо следчы Кузін аж перамяніўся ў твары, ускочыў са свайго месца, адчыніў дзверы і сказаў міліцыянту, што там пільнаваў

зашлюндраўку тую сюды

і праз некалькі секунд з калідора пачуўся жаночы голас, жанчына нешта выкрыквала, а Даніла Прусак чакаў, што будзе далей, калі ўвядуць няйнакш прыхаваную зброю следчага, яго казырную карту — згвалтаваную дачку Манюкі, каго яшчэ, — але яна павінна адразу сказаць ім, што ў яго, Данілы Прусака, і тых, хто яе гвалціў, няма нічога агульнага, тут суцэльнае трызненне, не інакш, і дзверы адчыніліся, і ў пакой упіхнулі гарадскую клікушу Алесю, і следчы Кузін з робленай шчырасцю падсунуў ёй свабоднае крэсла, а тая ўбачыла Данілу Прусака

і сказала, закрываючы рукамі азызлы твар з сі-
няком пад вокам

я ж цябе папярэджвала, Данііл, хутчэй
з'язджай адсюль, а ты не паслухаўся

але следчы Кузін не даў ей дакончыць

а скажыце зараз, грамадзянка Наравішына

пачаў ён, а Даніла ўспомніў, што прозвішча Алесі-Вольгі — Наравішына

што адбылося два дні таму на гарадскім
пляжы; як вы сустрэліся там з вашым
былым аднакласнікам, грамадзянінам
Прусаком, і што там далей здарылася

і Вольга-Алеся ўзняла апухлыя, у чырвоных прожылках ад таннага алкаголю і недасыпання вочы і сказала

навошта ты такое зрабіў, Данііл? хіба
я цябе не перасцерагала, што тут усё
мёртвае?

не зважаючы на тое, што следчы незадаволена замахаў рукамі і выціснуў, пагрозліва і ўжо зняважальна звяртаючыся на "ты"

гавары тое, пра што пытаюць, прашмандоўка, маць тваю

і жанчына загаварыла, палахліва пазіраючы на следчага Кузіна, як яна прыйшла на гарадскі



пляж, як сядзела ля ракі, куды потым прыйшоў яе знаёмы Даніла Прусак з малым хлопчыкам, пляменнікам, а потым прыехала машына з тымі людзьмі, яна іх не ведала, і як яны там выпівалі

і твой знаёмы піў?

спытаў следчы Кузін, кіўнуўшы на Данілу, і твар у яго зрабіўся нібы ў дробнай драпежнай жывёлы, якая рыхтуецца скокнуць на сваю ахвяру, але жанчына не падтрымала яго

не

сказала яна

п'яным я яго ніколі не бачыла, а ведаю
даўно, у школе, памятаю, вучыліся

але следчы Кузін абарваў яе

гавары па сутнасці, а не пра школу,
раскажы — біў ён на пляжы чалавека
ці не, і як?

і Вольга Наравішына таропка пацвердзіла, залашчваючыся перад следчым; пульхныя і нямытыя і таксама ў сіняках і драпінах рукі яе нервова мацалі пашарпаны край стала, а былая прыгажосць — валасы — пасівелымі пасмамі звісалі з вострага цемені, а яна гаварыла

так, біў, палку з сабой узяў, здаецца, я ж
прасіла — не хадзі

і тут Даніла Прусак заўважыў, звяртаючыся да следчага Кузіна

мне было б дзіўна, каб вы разбіраліся
сапраўды па сутнасці, а так...

пачаў ён і ўсміхнуўся іранічна, — ён увогуле паспакайнеў, бо дазваніўся да сына і цяпер імкнуўся не даваць волю эмоцыям, а следчы Кузін адразу скарыстаў яго словы і спытаў

дык вы прызнаяце, урэшце, што мелі
сутычку з чалавекам на пляжы?

і Даніла Прусак адказаў, знешне спакойна, але ўклаўшы ў свой адказ усю пагарду, якая скапілася ў ім за апошні час

вядома, не

пасля чаго следчы Кузін сціснуў вузкі рот і некалькі секунд абдумваў вынік, а потым, пэўна, прыняў рашэнне, бо адчыніў дзверы і загадаў вывесці прэч грамадзянку Наравішыну, а калі ў калідоры заціхлі яе крыкі і енк, сеў за стол і палічыў абавязкам растлумачыць

той удалец, з якім вы на пляжы пазнаёміліся, цяпер у рэанімацыйным аддзяленні гарадской бальніцы, і хаця горшага
вы, магчыма, і пазбегнеце, усё роўна
наматваецца вам не слаба, так што не
буду хаваць — шмат чаго і ад нашых



з вамі адносін залежыць, а я абяцаю так
усё павярнуць, што вы намнога меншым
тэрмінам абмяжуецеся

гаварыў следчы Кузін, гледзячы ўбок, на закратаванае акно, дзе пад слабым ветрам гайдалася пыльная галінка клёна, але Даніла Прусак меркаваў, што ўжо разгадаў гэтага чалавека і не даваў веры ягоным словам, ніводнаму

вы мяне на спалох не бярыце

адказаў ён спакойна

у вас і доказаў няма, не, жанчына гэта —
убогая, а дачка таго Манюкі, калі
ачуняе пасля сваіх сэкспрыгод, — дык
хіба яна не назаве гвалтаўнікоў? хіба
не там трэба шукаць?

але следчы абарваў яго і загаварыў гугнява

ну, няхай, але хіба ў гвалце справа —
маем жа мы паказанні вашай аднакласніцы Наравішынай, а яны аформлены
як належыць — вось вам і гамон, трэба ж
нам рэагаваць на тое, што пакалечаны
вамі чалавек знаходзіцца ў рэанімацыі

а Даніла Прусак сумна ўсміхнуўся і адказаў спакойна: чым больш ён угрунтоўваўся ў сваіх здагадках, тым больш спакайнеў і ўнутрана канцэнтраваўся

паказанні непаўнавартай суд можа
і не прыняць пад увагу, нават наш суд —
вам як юрысту хіба гэта невядома?

трапіў ён у неабароненае месца, бо следчы Кузін засяроджана падціснуў вусны, і ў вачах яго мільганулі іскры непрыхаванай нянавісці, пасля чаго ўсталявалася паўза, і ў гэтай паўзе Даніла Прусак жахнуўся ў думках — па краі якой бездані ён ідзе і як мала добрага чакае яго наперадзе, а калі, крый божа, той мацак-эксгібіцыяніст, які напаў на яго на пляжы, памрэ — тады след прывядзе толькі да яго, Данілы Прусака, тут ужо яны поўнасцю раскруцяць Вольгу-Алесю, трэба ж было ёй менавіта ў той дзень прывалачыся на пляж, і ў іх цяпер цэлы месяц, каб зламаць яго, а ён у СІЗО навічок, Кузін мае рацыю, хаця Кліма Фралова і сацыяльная прыналежнасць да блатароў не выратавала, — значыць, меркаваў ён, у яго вельмі абмежаваны час на тое, каб выслізнуць адсюль, інакш сапраўды яму гамон, калі ўжо справа пайшла на інтарэс, а інтарэс, пэўна, не малы, бо вакол усяго гэтага вузла круцяцца вялікія грошы, а там, дзе грошы, — там заўсёды здрада і кроў, і дадаў

ці вызваляйце мяне, ну, хаця б пад
падпіску аб нявыездзе, ці дайце магчымасць пабачыць пракурора — то ж маё
права

але следчы Кузін падумаў, акуратна загарнуў папку на стале і выціснуў

пакуль пабудзеце ў нашым гатэлі, а там
пабачым

адчыніў дзверы і сказаў у калідор, звяртаючыся да міліцыянта

вазьмі каго яшчэ, і адвядзіце яго ў адзіночку, там ужо закончылі з рамонтам?

і вязень пачуў, як міліцыянт адказаў

замкі паставілі

і яго павялі праз двор, а потым па доўгім і вузкім калідоры, дзе сядзелі два міліцыянты за шахматнай дошкай, але гулялі, як са здзіўленнем заўважыў Даніла Прусак, не ў шахматы, а ў паддаўкі, а потым адзін з іх выплюнуў на падлогу недакурак, выцягнуў ключы і адчыніў дзверы апошняй у калідоры камеры, дзе яшчэ валялася тынкоўка, рэшткі цэглы і смецце — не паспелі прыбраць, і ён ступіў туды, і дзверы зачыніліся з трэскам, пасля чаго галасы ў калідоры аддаліліся і мужчына пачаў аглядаць свой новы прытулак: маленькае акенца было закратаванае, у куце месціўся ўнітаз, насупраць — нары, а вось за імі мужчына раптам выявіў звы-

чайнае вядро з ацынкованай бляхі, дзе ляжалі кельня і малаток, і ў ім адразу прачнуўся інжынер-практык — за гады вучобы Даніла Прусак нямала папрацаваў у летнія месяцы на будоўлях, і ён адразу выцягнуў і прыхаваў за ўнітаз у спешцы і па недаглядзе пакінутыя рэчы, а вядро паставіў на сваім месцы, пасля чаго стаў думаць, чаму следчы перавёў яго ў адзіночку, і прыйшоў да высновы, што той не жадаў, каб хоць якая вестка прасачылася на волю праз каго-небудзь з вязняў ці як-небудзь інакш — агульная ідэя па яго, Данілы Прусака, ухіленню прагледжвалася ўсё так жа яўна і непахісна, і зноў, як і раней, пачуццё бяды холадам прайшло ў яго па спіне і знікла, растварыўшыся ў сценах, і мужчына прымусіў сябе адкінуць трывогу і заняцца тым, што пакуль толькі выспявала ў яго галаве кволай, неаформленай думкай, і думка тая мацнела з кожнай хвілінай, і была яна пра ўцёкі; і ўжо практычны і вынаходлівы розум абудзіўся ў ім у пошуках выйсця, ён пачаў абследаваць сцены — так і ёсць, думаў вязень, раствор, якім вялася кладка, быў у асноўным са жвіру, цэмент, вядома, кралі і тут, магчыма, каб будаваць свае лецішчы ці гаражы, ці проста па звыклай лянноце не дасыпалі яго, ці блыталі прапорцыі,



мужчына часта спыняўся і прыслухоўваўся да гукаў у калідоры і на двары, а потым зноў працягваў даследаваць камеру і ўрэшце знайшоў над вакенцам, якраз над верхнім перакрыццем, месца, дзе кладка была адносна свежая, і вылічыў, што, каб пралезці на міліцэйскі падворак, яму трэба выняць прыкладна шаснаццаць цаглін, і асцярожна пачаў калупаць і разгойдваць кельняй першую — яна паддалася нечакана лёгка, мужчына выняў яе са сцяны, выграб рэшткі раствору ў вядро і ўставіў цагліну на старое месца: было амаль незаўважна, ва ўсякім разе, калі б у гэты момант увайшоў дзяжурны і пачаў шмон, то і ён нічога б не прыкмеціў, думаў вязень, прыслухоўваючыся да гукаў з калідора і падворка, але да яго даносіліся толькі рэдкія і прыглушаныя крыкі пакамернікаў ды гудзенне рухавікоў міліцэйскіх машын, час ішоў, а пра яго быццам увогуле запамятавалі, нават не неслі якога кавалка хлеба з вадой, не было ў камеры і святла, цемра паступова напаўняла яе з надыходам ночы, але, меркаваў Даніла Прусак, гэта ў яго становішчы нават і лепш, — ён выцягнуў яшчэ адну цагліну і ўзяўся за трэцюю, дапамагаючы кельняй і малатком, часам не даючы сабе веры, што яго намер можа мець

поспех, але ж у гэтым свеце, у гэтым краі ўсё можа быць, думаў ён, як можа адбыцца здзек, гвалт, здрада, нечаканае ўзвышэнне адных і падзенне іншых, беззаконне і напад тых, каго залічваюць у служкі д'ябла, а іх трэба засцерагацца найбольш і не пасаваць перад сцяной, якая б яна ні была, так, сцяной, — ён выняў ужо чацвёртую цагліну, якая раскрышылася ў яго руках і асцярожна перанёс яе ў вядро; а сцяну трэба ці ўзмацняць, ці разгойдваць, бо сказана: пастукай — і табе не адкажуць, зноў пастукай — і табе не адчыняць, тады ўзламай перашкоду, і ты пабачыш, што за ёй пустата, а шлях свабодны, — думаў вязень, — а потым думкі яго пераскочылі на даўнёнка і на тое, ці прыехаў сын Ігнат, каб накарміць і падтрымаць убогага, і ён спадзяваўся, што прыехаў; за акенцам, за кратамі стаяла ўжо ноч, якая раз-пораз парушалася крыкамі з калідора і клаксанамі рэдкіх аб гэтым часе машын, і мужчына спяшаўся, бо, па яго падліках, а пятай гадзіне ўжо світала, а часу ў яго заставалася няшмат, рукі пакрыліся нябачнымі драпінамі і ранамі, ён нават улавіў пах уласнай крыві, якая сцякала па пальцах, але працягваў раскрышваць сцяну і лічыць вынятыя цагліны — восем, потым дзевяць, дзясятая



не паддавалася, і яе давялося выломліваць з дапамогай малатка — без гэтых неахайна пакінутых цеслярамі інструментаў у яго, вядома, нічога б не атрымалася, і тут рыкнула маторам машына, а потым раздаліся крыкі

аааа! мянтыыы! ну, біце, біце!

крычаў у двары запознены арыштант, якога вылавілі, пэўна, зусім нядаўна, схапілі, можа, на вуліцы, а можа, і ўзнялі з пасцелі, верагодна, чарговы блатар, які трапіў у рукі міліцыянтаў, бо мова выдавала яго прыналежнасць, і ён крычаў

сукі! внатурэ ж заб'еце, жывёлы!

і брыдкасловіў

бляматахушаварот!

але гэты вэрхал, які абяцаў працягвацца ўсю астатнюю частку ночы, быў, як меркаваў вязень, толькі на карысць, і Даніла Прусак у думках жадаў, каб гвалт доўжыўся і далей, бо тады ўвага ахоўнікаў і дзяжурных цалкам пераключыцца на арыштаванага, а сам ён, магчыма, здзейсніць свой план і паспее зрабіць гэта да раніцы, але тут у калідоры пачуліся крокі, яны набліжаліся, і мужчына пачаў ліхаманкава ўстаўляць назад цагліны, ён спяшаўся, але зразумеў, што не паспявае, скінуў з сябе куртку і накрыў ёю рэшткі кавалкаў цэглы, якія раней выцягнуў са сцяны, —

у камеры ўжо даўно было цёмна, але святло не ўключылі, вочы яго адаптаваліся, і ён збольшага бачыў абрыс прадметаў і рэчаў, і цяпер баяўся толькі аднаго — каб не ўключылася лямпачка са столі, бо тыя, хто ўвойдуць, адразу ўбачаць і зразумеюць усё, але якраз у гэты момант крокі наблізіліся і гукі ад іх заціхлі перад самымі дзвярыма, а потым заслонка, праз якую падаюць ежу, так званая кармушка, адсунулася, і ў твар вязню ўпёрся прамень ліхтара, але дзверы камеры не адчынялі, і мужчына пачуў

скажу табе няшмат

вымавіў голас

але, спадзяюся, ты хутка кеміш, дык ведай: калі ты прызнаешся і падпісваеш паперу, то праз гадзіну пастукай у дзверы і паведамі, а калі будзеш пры сваім — то роўна праз гадзіну і дзесяць хвілін да цябе прыйдуць госці, а калі яны прыйдуць, то пасля іх табе спатрэбіцца толькі вось гэта

і праз адтуліну ў камеру ўпаў маток вяроўкі, а голас сказаў

тая самая, якой Клім Фралоў пакарыстаўся, бо пасля таго, што з ім зрабілі, гэтая шворка — адзінае выйсце, а пакуль думай і час зазнач: зараз гадзіна і сорак хвілін, гадзіннік на руцэ табе пакінулі

а Даніла Прусак пасунуўся да дзвярэй і спытаў

хто вы і растлумачце хаця б, чаму вы мне пагражаеце?

але адказу не было, і ён таропка дадаў

калі мяне выпусцяць — тады ўсё і абмяркуем

а голас з-за дзвярэй сказаў

у цябе ёсць час, каб падумаць, а потым прыйдуць госці, а ўжо калі яны застануцца з табой да раніцы, табе толькі шворка і спатрэбіцца

пасля чаго ліхтар пагас, заслонка апусцілася і крокі аддаліліся ад дзвярэй, а мужчына памкнуўся да сцяны і, ужо амаль не прыслухоўваючыся да гукаў у калідоры і не засцерагаючыся, працягваў крышыць і выломліваць кавалкі цэглы і ссохлага раствору, амаль фізічна адчуваючы, як імкліва набухае і потым паступова растае ноч, і тут якраз бліснула маланка і загрукатаў гром, і вязень абрадаваўся навальніцы, бо яна спрыяла яго планам, і ўрэшце першая цагліна вывалілася вонкі і з шоргатам упала на зямлю за сцяной, у твар яму дыхнула свежым паветрам, і мужчына сцяўся на кароткае імгненне: ці не

ўбачыў альбо не пачуў хто на двары гэтыя цэглу, што выпала, і дзірку ў сцяне, але на падворку было спакойна, шумеў дождж, хіба толькі з вальера падаў голас службовы сабака, дый той хутка супакоіўся, вязень прыняўся за справу, ён спяшаўся, бо ўжо нагадвалася раніца, але прымушаў сябе не ўпадаць у паніку, і рэшткі яшчэ адной цагліны асыпаліся вонкі; яго рукі ўжо свабодна пралазілі ў дзірку, і справа пайшла хутчэй, ён спяшаўся, бо па яго падліках час, адведзены яму, вось-вось павінен быў скончыцца, а што пагроза не пустая — ён ведаў дакладна, варта было толькі ўспомніць пра Кліма Фралова, і мужчына выбіў апошнюю, на яго думку, цагліну і, падставіўшы пад ногі вядро, стаў праціскацца ў дзірку, куртка перашкаджала яму, ён зняў яе і зноў зрабіў спробу, рука і галава яго пралезлі ў шчыліну, ён вылазіў са сцяны, як насякомае з кокана, раздзіраючы ў кроў рукі, і ўпаў уніз, на мокры асфальтавы падворак — ноч яшчэ хавала яго, сабака з вальера зноў забрахаў, але мужчына аддыхаўся і, прыціскаючыся да сцяны, дабраўся да брамы, яна нават не была зачынена, і выйшаў на вуліцу, пасля чаго адразу звярнуў у першы ж завулак, які перасякаў яе, і пайшоў далей



у цемры, імкнучыся не пераходзіць на бег, бо тады б ён адразу прыцягнуў да сябе чыюсьці ўвагу, і шлях яго вёў не дамоў, а да Антона Пракопавіча Кнігі, бо ён ведаў, што дома яго лёгка возьмуць зноў, а другога такога шанцу на ўцёкі яму не выпадзе ніколі, і толькі думка пра хлопчыка і сына Ігната непакоіла яго, таму ён і вырашыў прасіць дапамогі ў старога.

Частка шостая

## ПАГЛУМ

Хлопчык доўга бег за машынай, у якую, ён бачыў, гвалтам упіхнулі мужчыну — яго дзядзьку Данілу, але машына знікла за паваротам, і ён спыніўся, часта дыхаючы, бо не прывык бегаць, і сказаў у пустэчу

Даня

і азірнуўся навокал у пошуках дапамогі ці ўвогуле якога апірышча, але ніхто да яго не падыходзіў і не загаворваў з ім, і ён павярнуў назад, інстынктыўна выбраўшы адзіны вядомы яму напрамак, які, як ён разлічваў, быў яму спрыяльны, — напрамак да дому і гаварыў

ДаняДаняДаня

і праціраў вочы ад пяску і пылу, што ўзняў вецер, і так рухаўся па вуліцы, і тут яго ўбачылі дзеці чужынцаў, і замахалі рукамі, і закрычалі брыдкае і незразумелае

бляматахушарава!

а потым адзін з іх схапіў камень і шпурнуў, і астатнія пачалі кідаць па чарзе і трапілі некалькі разоў, а даўнёнак прытуліўся да плота і глядзеў бездапаможна, а тыя скакалі навокал і гікалі і крычалі

бляматахушарава!

пасля з боку былой фралоўскай сядзібы да іх выйшла жанчына і нешта сказала незадаволена, і тыя неахвотна адступілі, але гірчэлі, нібы сабакі, на якіх прыкрыкнуў гаспадар, і ўрэшце разбегліся, а даўнёнак пайшоў далей, пакуль ля самай брамкі яго зноў не перанялі, на гэты раз падлеткі і дзяўчаты, старэйшыя за тых, першых дзяцей, па ўзросце і гаварылі

гэй, ты, псіх

і смяяліся

хехехехехе

і пускалі даўнёнку ў вочы дым, ад якога ён адхіляўся і моршчыўся, і гаварылі

ты грэбаны псіх

і махалі рукамі і падскоквалі, быццам не ведаючы, чым яшчэ сябе заняць, і падбягалі да лаўкі, на якой ужо сядзелі некалькі дзяўчат з навакольных вуліц, і хапалі іх за рукі і за плечы, а тыя ўсміхаліся нервова і ўзбуджана

хехехехехехехе

а потым усе зноў звярнулі ўвагу на даўнёнка, бо той паспрабаваў праціснуцца праз іх да сваёй брамы, але мажны Карым пераступіў яму дарогу і спытаў кпліва і гучна

ты куды, псіх?

і даўнёнак сказаў ціха

хачу дамоў, хачу дамоў, хачу дамоў

а Карым аж затросся

дамоў?

і зарагатаў, звяртаючыся да дзяўчат, якія сядзелі на лаўцы

хехехехехехехехе, чулі? ён хоча дамоў!

і тыцнуў хлопчыку запаленай цыгарэтай у твар

цяпер гэта мой дом!

закрычаў ён

а ты будзеш жыць у сабачай будцы,<br>псіх грэбаны, так, у хляўку, а ў дом<br>больш не заходзь, я там буду жыць!

і даўнёнак нічога не разумеў, толькі адчуваў боль ад таго, што цыгарэта абпаліла яму шчаку і што ў дом яго не пускаюць, а побач няма нікога з блізкіх яму людзей, і шаптаў

мамамамамамама

і на лаўцы адразу захіхікалі дзяўчаты, і пачалі пускаць дымкі ад прыпаленых цыгарэт, манерна адстаўляючы пальцы, і гаварылі

ай, не трэба, Карым, ён хоча да мамы,
пусці яго, праўда, праўда, пусці

але з фралоўскага дома выйшлі дзве дзяўчыны іх узросту, з прыезджых, і адразу закрычалі рэзка і віскліва

гаратамадабара!

і пачалі брыдкасловіць

блямахатахушарот!

і ўбачылі даўнёнка, і адна з іх плюнула на яго

цьфу!

і закрычала

псіхпсіхпсіхпсіх!

а даўнёнак сціснуўся ў камяк і закрыў твар далонямі, але другая дзяўчына выхапіла ў мажнага Карыма запаленую цыгарэту і пачала тыкаць хлопчыку ў твар, а той засланяўся і адхіляў галаву, а дзяўчына не сунімалася, гаварыла

падмаладжу цябе, размалюю псіха грэбанага, а потым пойдзеш на вуліцу —
будзеш грошы зарабляць

і ўсе смяяліся

хехехехехе

а потым і праўда пацягнулі хлопчыка па завулку ўверх, пакуль не дасягнулі большай, галоўнай вуліцы, і пасадзілі таго на асфальт, дзе хадзілі прахожыя, і паставілі побач кардонавую скрыню, на якой было напісана

“подайте бежинцу Христа ради”

і як толькі хлопчык спрабаваў уставаць, білі таго неўпрыкмет па руках і галаве, і тушылі на твары цыгарэту, і прымушалі сядзець, і гаварылі

грошай назбіраеш — дадзім паесці, а так
цябе ніхто карміць не будзе, больш
няма каму, псіх, так цябе і разгэтак

і хлопчык сядзеў на тратуары, і прахожыя часта спыняліся і клалі ў скрыню дробныя грошы, а калі грошай збіралася шмат, то дзяўчаты кідалі свае справы і падыходзілі да яго і забіралі са скрыні паперкі і казалі, закочваючы карцінна вочы і мацюкаючыся

а, бля, зноў мала, Карым — на, бяры

і гаварылі напорыста і нецярпліва

навучым, будзеш зарабляць, псіх

але тут з фралоўскага дома прыйшлі старэйшыя жанчыны і закрычалі на дзяўчат, замахалі рукамі, і ўсе разбегліся незадаволеныя, а даўнёнка павялі назад, але ў дом не пусцілі — там і праўда ўжо сноўдалі постаці чужынцаў, а далі кавалак хлеба і сказалі

ідзі гуляй і паказалі на хлявок — спаць
там будзеш

і падштурхнулі ў спіну, і хлопчык пайшоў у сад, ён моцна стаміўся і пакутаваў ад болю, у руцэ ён усё яшчэ трымаў хлеб і рушыў з ім да клеткі — яму раптам прымроілася, што там сядзіць трус Піля, і ён ішоў і шаптаў

ПіляПіляПіля

але клетка была пустая, з засохлымі рэшткамі дзьмухаўцоў і канюшыны на дне ды чорнымі катышкамі трусінага гною, а дзверцы былі выламаныя, і даўнёнак паклаў туды хлеб — раптам трус вернецца, а потым залез пад дно клеткі, там утварылася нешта накшталт нішы з засохлай травой на зямлі, скруціўся ў позе эмбрыёна, і сон змарыў яго, так ён спаў нейкі час, а потым на клетку села варона і асцярожна зазірнула ўніз, выцягнуўшы шыю, але небяспекі для сябе не адчула, пачысціла аб дошкі дзюбу і доўга назірала за тым, што робіцца ў доме і садзе, а потым узмахнула крыламі, узляцела ў паветра і крыкнула рэзка і гучна

краааааа!

ад чаго даўнёнак ачуўся і расплюшчыў вочы, але схованкі сваёй не пакінуў, а працягваў ляжаць і глядзець, што робіцца ў садзе, ля дома і ў доме, адчуваючы боль ад апёкаў на твары і страх, а ў садзе, між тым, час ад часу сноўдалі чужынцы і забягалі на веранду і ў дом, а потым



выбягалі адтуль і гаварылі коратка паміж сабой, а то проста выкрыквалі незразумелае

шараматагагала!

ці

даларагашабала!

і зноў забягалі ў дом і выходзілі адтуль, а затым на веранду прывялі і завялі ўнутр дома тых мясцовых дзяўчат, якія самі прыходзілі да чужынцаў і сядзелі дагэтуль на лаўцы, і тыя дзяўчаты роблена ўсміхаліся, прымалі ненатуральныя, карцінныя позы, выгінаючы целы і ўскрыквалі гулліва і нервова

хахахахахахаха!

хехехехехехехе!

адале вакно на верандзе з трэскам расчынілася і адтуль рытмічна загрукатала музыка з магнітафона

дуруламтамдамшарабам!

шарадамтамдамдурулам!

і хлопчык бачыў, як у праёме вакна з'яўляліся постаці з цыгарэтамі, заціснутымі ў пальцах, і дзяўчаты прагна палілі, уцягваючы ў сябе дым, а потым рэзкімі рухамі выкідвалі недакуркі ў сад і смяяліся віскліва

хехехехехехе!

і нешта гаварылі, але гучная музыка заглушала іх словы, а потым адна з іх, худая, кір-

паносая і бледная з твару, у кваціcтай блузцы з даўгімі рукавамі і абцягваючых сцёгны выцертых джынсах, выйшла з веранды і спусцілася ў сад і азірнулася, а потым падышла да таго месца, дзе стаяла клетка, выцягнула з сумачкі цэлафанавы пакецік, разарвала яго, і хлопчык убачыў, як яна набрала ў шпрыц вадкасці з бутэлечкі, калола сабе ў руку і моршчылася і стагнала, а потым адкінула шпрыц убок і пайшла назад, а пластыкавы цыліндрык з выступаючай вострай іголкай застаўся ляжаць на зямлі, бліжэй за метр ад хлопчыка — ён мог бы дацягнуцца рукой, але ўспомніў забарону дзядзькі Данілы і прашаптаў

Даня

і бачыў, як дзяўчына павольна пайшла праз сад у напрамку дома, але пахіснулася раз, другі, і тут, быццам яны даўно гэтага чакалі, некалькі падлеткаў атачылі яе і рэзка і віскліва загаманілі па-свойму і пачалі хапаць яе за рукі і за грудзі — то адзін, то другі, то трэці — гэта былі дзеці чужынцаў: зусім малалеткі, гадоў па дзесяць, дванаццаць, і ўсе смяяліся і зладзеявата азіраліся па баках, і дзяўчына таксама смяялася

хехехехехе

і вяла адмахвалася ад іх рукой, а яе ўсё больш адводзілі ўбок, туды, дзе густа раслі кусты парэчак і маліны, і там разам павалілі на траву



і сцягнулі з яе джынсы, а потым і майткі, і дзяўчына не супраціўлялася, а наадварот, была быццам задаволена такім паваротам падзей, бо разпораз юрліва ўскрыквала і смяялася, і адзін з падлеткаў рассунуў ей ногі, і яны пачалі злучацца — таропка, нібы жывёлы, а астатнія сталі за кустамі і глядзелі, чакаючы сваёй чаргі, і чарга хутка рухалася, але тут іх, пэўна, убачылі з былой фралоўскай сядзібы, бо праз павалены плот прыбегла жанчына, з чужынцаў, і закрычала нешта зласлівае і незразумелае

шабарамазагара!

і замахала рукамі, а падлеткі пачалі разбягацца, хіхікаючы і брыдкасловячы, а дзяўчына таропка апранала джынсы і ўсё не магла трапіць нагой у калашыну, і жанчына крычала на яе

у-у, блядзь!

і ўдарыла яе ў бок і плюнула і зноў закрычала, мацюкаючыся

бляматахушаварот!

а падлеткі пазнікалі ў розных напрамках, і з былой фралоўскай сядзібы прыбегла яшчэ адна жанчына — гэта была пакаёўка чужынцаў Васіліна — і таксама закрычала — пагрозліва і жорстка

а-а, сцерва, мацць тваю, наркотка,
заб’ю!

і шпульнула ў дзяўчыну кавалкам цэглы, а потым схапіла высахлы дубец, замахнулася і ўдарыла некалькі разоў, і ўсё крычала

заразіш дзяцей — заб'ю, маць тваю,
так і гэдак!

і дзяўчына ўрэшце нацягнула на ногі джынсы, падхапілася з зямлі і, вяла мацюкаючыся і адмахваючыся рукамі, рушыла на вуліцу, там прысела на лаўку, але потым зноў вярнулася назад, быццам ёй не было куды ісці, а на сад, на падворак і на дом між тым павольна наступала ноч, у доме ўжо засвяціліся вокны, шум адтуль зноў узмацніўся

ай, не трэба, Карым!

чуліся дзявочыя галасы, якія раз-пораз пераходзілі ў віск і смех

гігігігі!
хехехехехе!

і зноў

ай, бля, не трэба!

і адразу

хахахахаха!

і нехта ўзмацняў гук на магнітафоне

буруламтамдамшарадам!

грукацелі ўдарныя, — так, што вібрацыя перадавалася па зямлі, і даўнёнак яшчэ далей заціснуўся ў сваёй схованцы, і так працягвалася



доўгі час, пакуль урэшце з былога фралоўскага дома зноў прыйшла незадаволеная паслугачка Васіліна і, адкрыўшы дзверы на веранду, гучна закрычала

бацька кліча і казаў, каб усё выключылі,
бо хутка спаць будзе!

і музыка сціхла, але з расчыненых дзвярэй паранейшаму даносіліся вісклівыя галасы дзяўчат і рэзкія, уладарныя воклічы хлопцаў-чужынцаў, ды танчыла перад дзвярыма, нібы самнамбула, кірпаносая дзяўчына ў джынсах, рэзка ўзмахвала рукамі і круціла вузкімі сцёгнамі і падпявала сама сабе і загаляла невялікія вострыя грудзі з-пад расшпіленай блузкі, а астатнія ўсміхаліся нервова

хіхіхіхіхіхі

толькі Карым адправіўся ў фралоўскую сядзібу да бацькі, злосна ляпнуўшы брамкай, і выкрыкнуў на развітанне на ўвесь сад расейскую мацяршчыну

бляматахушаварот!

і ноч згусцілася яшчэ болей, а даўнёнка працяў холад, які, як ён адчуваў, ішоў ад зямлі, хаця і не ведаў, што зямля заўсёды цягне ў сябе, і хлопчык выпаўз з-пад клеткі, абмацаў у цемры свой распухлы, у балячках твар і застагнаў ад болю, але адразу сцішыўся, бо спужаўся, што яго могуць зноў убачыць, высачыць нават тут,

у цёмным куце саду, і не ведаў, што яму рабіць далей, бо ісці ў дом было нельга, а побач не было ні маці, ні дзядзькі Данілы — быццам разам абарваліся ўсе сувязі са звыклым, цёплым, бязбедным і сытым светам, які акаляў яго раней, і ўсё навокал накрыла ноч, і тут раптам пайшоў дождж і бліснула маланка, і даўнёнак марудна пабрыў да хляўка, адчыніў дзверы, ступіў унутр і вобмацкам знайшоў старую канапу, на якой яго адразу змарыў сон, і так ён то спаў, то прачынаўся, шум дажджу то сціхаў, то ўзмацняўся, а потым заціх: хлопчык абудзіўся ў чарговы раз ад моцнага, мабыць, апошняга ўдару грому і нечакана адчуў небяспеку — яна ішла з густой і вязкай цемры вакол яго, споўз з канапкі і заціснуўся ў кут за ёй і так знерухомеў, а цемра мякка ўскалыхнулася, і ён пачуў спачатку быццам шыпенне

ш ш ш ш ш ш ш ш ш ш ш ш ш ш

а потым ціхія галасы, настолькі ціхія, нібы шамацела паветра

не бачу яго, дзе ён?

гаварыў нехта, а другі, быццам жаночы, голас адказваў

тут ён, дзе ж яму быць

і першы голас сказаў

вось і разбярыся сама



а жаночы адказаў

ш ш ш ш ш ш ш ш

і спытаў

чуеш?

і тут жа сцвердзіў

крокі, я чую крокі

а першы голас казаў

тады ідзём, заўтра ноч будзе

і жаночы зноў папярэдзіў

ш ш ш ш ш ш ш

і небяспека быццам адступіла, прамень святла прабіўся праз шчыліну ў дзвярах, і раптам дзверы рыпнулі і паехалі ўбок, а ў праёме ўзнікла постаць у плашчы і капелюшы, бліснула святло ліхтарыка, і малы пачуў голас старога Антона Кнігі, які гаварыў яму ціха

ну, вось я цябе і знайшоў, ад мяне,
братка, не схаваешся, я тое і дзядзьку
твайму даводзіў

і бедаваў

хто ж гэта цябе так, нябогу?

і прыспешваў

цяпер пойдзем хутчэй, а то дзядзька
зачакаўся, а яму сюды нельга

і пытаў

а Ігнат, брат твой, дзе? хіба ён не
прыехаў?

а даўнёнак не разумеў пра брата, але радаваўся і паўтараў

дзедадзедадзеда

і стары павёў яго праз сад і браму на вуліцу, у ранішняй цішы толькі пачыналі гаманіць птушкі; стары насцярожана азіраўся і трымаў правую руку за крысом плашча і гаварыў

ну а я спачатку ў хаце цябе шукаў, а як пабачыў там тых прыхадняў, то зразумеў — там цябе няма, а тыя спяць моцна, так, пеўня ім туды б чырвонага, а Ігнат, значыць, не прыехаў, ну-ну

а малы ледзь плёўся, і Антон Кніга шкадаваў

няма сілы, а то ўзяў бы цябе на рукі

і азіраўся і гаварыў

каб толькі не высачылі, куды мы ідзём, дзе наша лежка

і голас яго гучэў усё больш бадзёра, па меры таго як яны набліжаліся да дома, і ўрэшце стары і малы апынуліся перад брамкай, за якой ужо чакаў Даніла Прусак, і даўнёнак зрабіў спробу пабегчы да яго, але не здолеў, а мужчына, як толькі пабачыў яго твар, пабялеў і спытаў

хто гэта цябе, малы?

але хлопчык толькі шаптаў

ДаняДаняДаня



а Даніла Прусак паблядне ў яшчэ больш і сказаў, звяртаючыся да старога

ну а зараз давайце мне тую штуку, што хаваеце пад плашчом, і хутчэй, бо цяпер мая чарга ісці ў адведкі

і Антон Кніга ўжо ў сенцах выцягнуў з-пад плашча на святло лёгкі кароткаствольны малакаліберны карабін, але ахалодзіў мужчыну

найперш малога пакарміць трэба, абдумаць усё, пра сына вашага даведацца, схадзіць на пошту і патэлефанаваць яму, а потым ужо і дзейнічаць

пяшчотна паляпаў па прыкладу, засунуў за шафу ў шчыліну і дадаў

гэта трафейная штука мне даражэйшая за ўсё зараз, бо яна кошт жыцця мае, я яе ды вядро патронаў у знаёмага старога на вёсцы выменяў, па адным артыкуле з ім калісьці праходзілі, ён захварэў, ведаў, што памрэ, — таму і аддаў

і падсумаваў

ну а цяпер усё ад нашай волі і розуму залежыць, тут спяшацца не варта, вам пакуль увогуле лепш не высоўвацца, бо вас ужо шукаюць, ну а я на пошту схаджу, потым усё і вырашым

і бурчэў звыклае

...я гэтых жывёл тэлеграфным слупам
праз памыйную яму

а гадзіны праз дзве, калі даўнёнак спаў, абодва сядзелі за сталом і стары казаў

сын ваш, Ігнат, дома, пэўна, сюды і не
думае збірацца, ды я і не высвятляў,
нельга, а ён да таго ж мяне і ведаць
не ведае

а Даніла перабіў жорстка

ён мяне не цікавіць болей

і працягваў

згода, спяшацца не буду, але ноччу я
выберуся да тых пацукоў, і зброю вы
мне дасцё

і стары не аспрэчваў

бярыце, інакш вы ўсё роўна ў іншым
месцы возьмеце, ды толькі пачакайма,
пакуль я вам, калі атрымаецца, сюды
аднаго чалавека прывяду, вось тады
ўсё і вырашым

і Даніла Прусак спытаў

якога яшчэ чалавека?

але стары перавёў гутарку на іншае

вы не апошні, хто хоча перамяніць
наш свет



гаварыў ён

але перамяніць яго магчыма толькі
яшчэ большым страхам, ад адваротнага

і пытаў

хіба не так? вось я лагеры прайшоў —
і што змянілася? колькі інфармацыі
выплюхнулася наверх — і што? уся
ў пясок пайшла

а Даніла Прусак пацікавіўся машынальна — ён у падсвядомасці, у думках быў ужо там — у маючай наступіць ночы

ну і вы, вядома, у будучыя перамены
не верыце?

і стары адказаў

не, не і яшчэ раз не, бо ваду, якая
пераплюхнула цераз дамбу, назад не
вернеш — хіба не так? успомніце, вы
мне раней Гумілёва ў прыклад пры-
водзілі, памятаеце, пра ўзрост народа
гаварылі, магчыма, усё і так, магчыма,
мы зараз зрасходаваны матэрыял, але ж,
прабачце, — каб так свае задніцы пад-
стаўляць, — гэта ўжо ўсе межы пристой-
насці пераўзыходзіць, не, гэты народ
дабром не скончыць

і гнуў свае

...я гэтых самаедаў тэлеграфным слупам
і ставіў кропку
праз памыйную яму
і ў вачах яго раз-пораз успыхвалі агеньчыкі нянавісці, нязломнасці і супраціву.

Частка сёмая

## ЗЫХОД

Набліжаўся поўдзень, калі стары Антон Кніга зноў апынуўся ў завулку ля былой фралоўскай сядзібы і з цяжкасцю прайшоўся побач — раз, другі, назіраючы, як бегаюць туды-сюды шматлікія дзеці чужынцаў, завіхаюцца крыклівыя гаспадыні, загадваючы нешта дзвюм жанчынам-паслугачкам з мясцовых, што няньчылі, не выпускаючы з рук, іх зусім яшчэ малых дзяцей, а трэцяя мыла на двары бялізну; некалькі іншамарак туліліся ля плота, а на лаўцы ўжо сядзелі тутэйшыя дзяўчаты з навакольных дамоў і палілі цыгарэты, манерна адстаўляючы пальцы рук і папраўляючы прычоскі, а перад імі праходжваліся некалькі ўзмужнелых падлеткаў з чужынцаў і гергеталі па-свойму, а то мацюкаліся па-расейску

бляматахушаварот!



і бесцырымонна хапалі дзяўчат за рукі і валасы, прыгінаючы галовамі ўніз, а тыя вяла і крыўдліва выкрыквалі кшталтам

ай, ну канчай, бля, адпусці!

і праз хвіліну ўжо хіхікалі юрліва

хехехехехе

і закідвалі нага на нагу, і некаторыя з іх былі ўжо відавочна цяжарныя, і падлеткі тыцкалі ў іх прыпухла-пукатыя жываты пальцамі і гаварылі

гэта ад мяне, ад мяне

ці дражніліся

праглынула мячык, бікса, так?

і мацюкаліся і падскоквалі, махаючы рукамі: энергія перла з іх, чорныя вочы бліскалі, а цёмна-жоўтая скура на тварах ільснілася ад поту, і стары глядзеў на ўсё гэта, яго ж, наадварот, не заўважалі — нібы ён для іх не існаваў ці быў з іншага вымярэння; чужынцы забягалі і выбягалі ўжо з прусакоўскага дома, быццам гэта здаўна быў іхні будынак, сноўдалі па садзе, а потым на падворак выйшла пакаёўка Васіліна і накрычала на паслугачак, і стары адразу скарыстаў момант: падышоў да яе і спытаў, ці не пакліча яна да яго на хвіліну іх старэйшага мужчыну, і Васіліна падазрона звузіла вочы на

манґалоідным, скуластым твары, агледзела яго з ног да галавы і сказала грэбліва

ён ад'ехаў па справах, у яго шмат спраў,

у адрозненне ад некаторых іншых

і ўрэшце пацікавілася

ну і навошта ён вам?

а стары адказаў коратка

золата прадам

і вочы ў Васіліны адразу насторчыліся, як у вартавога сабакі, і яна, скрыжаваўшы на грудзях моцныя, мускулістыя рукі, прапанавала

пакажы, я куплю

але Антон Кніга зневажальна фыркнуў — ён ведаў гэтую пароду людзей і лёгка чытаў іх, бо ў свой час пабачыў такіх багата

у цябе купіла не хопіць

сказаў ён зневажальна, а твар пакаёўкі адразу згубіў свой грэблівы выраз, яна пашукала вачыма і закрычала

гэй, Карым, бацька хутка будзе?

на што адзін з падлеткаў, як адзначыў стары, — дужы і ўкормлены, узмужнелы на выгляд, — кінуў дзяўчыну, руку якой з недакуркам згінаў так, каб тыцнуць ёй жа ў твар, незадаволена азірнуўся і сказаў

вечарам



а стары спытаў у пакаёўкі

гэта яго сын?

а тая адказала, што так, адзіны сын, і Антон Кніга спытаў, быццам раўнадушна, але ўнутрана сцяўшыся

няўжо адзін? у такога чалавека і ўсяго адно дзіця?

але пакаёўка пацвердзіла

адно

сказала яна і хацела дадаць яшчэ нешта, магчыма, патлумачыць, чаму ўсё-ткі адно, але стары павярнуўся і закульгаў прэч, і Васіліна пастаяла і знікла ў доме, а стары Кніга, праходзячы паўз лаўкі, раптам спыніўся і прапанаваў Карыму

падыдзі, парнёк

выцягнуў з кішэні залатоўку і паказаў таму

бачыш, парнёк?

і той адразу наблізіўся да старога, і рука яго прагна пацягнулася да манеты, але стары схаваў яе ў кішэню і сказаў

у мяне яна не апошняя, хочаш купіць?

аддам танна

і ў вачах юнака, як покліч яго шматлікіх продкаў, з'явілася непрыхаваная хцівасць, ён вагаўся — ісці за старым аднаму ці не, — адзін ён амаль ніколі не хадзіў, але тут быў нямоглы стары, і ён

пайшоў, і Антон Кніга павёў яго завулкамі, часта азіраўся і гаварыў дарогай пра золата, толькі пра яго, а ведаў стары лагернік нямала, і яны ўрэшце прыйшлі, і тут чужынец убачыў Данілу Прусака, нешта адразу зразумеў і кінуўся да дзвярэй, але той заступіў яму шлях, у руках яго быў карабін, і ён сказаў

ну вось і пабачыліся, пацучоныш,
памятаеш пляж

а Антон Кніга давёў

гэта іх старшога сынок — вось нам
і закладнік у рукі, сам прыйшоў,
агалец, золата розум засціла, цяпер
кумекаеш, што рабіць будзем?

але тут прачнуўся і выйшаў даўнёнак і, убачыўшы Карыма, задрыжэў і засланіў твар рукамі, і Даніла Прусак спытаў, стрымліваючыся

гэта ён цябе, малы?

а хлопчык дрыжэў усё больш, ён задыхаўся, і мужчына тыцнуў карабінам на чужынца і загадаў

ну, пайшлі з хаты, пацучоныш

і той адразу стаў шэры, страх імкліва перафарбоўваў яго, ён мяняўся на вачах і гаварыў, гаварыў бязглуздзіцу



гэта не я, праўда, не я, вы мяне адпус-
ціце? адпусціце, я грошай дам, бацька
дасць яшчэ больш, праўда, дасць

але стары выцягнуў з шафы вяроўку і пацягнуўся звязаць таму рукі за спінай, патлумачыўшы Данілу Прусаку

яшчэ бегчы кінецца, я ж яго не даганю,
а ты застрэліш, што, можа, і варта, але
пакуль рана, а месца ў мяне харошае для
яго падрыхтавана — склеп на гародзе,
ну, зараз пойдзем, агалец, сукін ты сын

і мужчына не адказаў на гэта, ён пачаў супакойваць даўнёнка і гаварыў таму

не бойся, малы, ідзі яшчэ паспі, а то
пагуляй тут, цацак, праўда, няма

падумаў і папрасіў у старога паперу, ручку, і яны адвялі чужынца ў склеп, і Даніла Прусак спытаў у таго, паставіўшы да сцяны

сястру маю, Любу, гаспадыню дома,
хто забіў?

на што Карым адказаў спалохана

гэта не я

і Даніла Прусак прыставіў таму рулю да галавы

ты павінен ведаць, ты ўсё бачыў, чуў,
гавары

і Карым раптам здаўся, выгляд у яго быў такі, быццам з яго выпусцілі паветра, і сказаў

не забівай мяне — гэта Васіліна зрабіла

а мужчына вельмі здзівіўся, але не падаў выгляду і спытаў адразу

ёй загадалі? ці яна сама? гавары — ну

і Карым адказаў

не ведаю, чуў толькі, што яна, бо нам
забіваць нельга

а Даніла Прусак працягваў

ну, твае словы мы яшчэ праверым,
а пакуль скажы, навошта было яе
забіваць — каб дом захапіць, так?

і Карым кіўнуў у адказ

так

а Даніла Прусак дапытваўся

ну а Кліма Фралова хто "ажыццявіў"?

і Карым сказаў

чуў, што ў СІЗО заўсёды ёсць пара
чалавек, якія за "шмаль" на ўсё згодныя

а мужчына спытаў

"шмаль", дарэчы, вы ў хляве хаваеце,
каб шмону пазбегнуць?

і Карым адказаў

там



а мужчына даў яму лісты паперы, ручку і сказаў

цяпер тваё жыццё вось на гэтай паперы
будзе табой жа занатавана: на адным
лісце напішаш пра Васіліну — хто яна,
адкуль вы яе прывезлі і як і чаму яна
забівала, адна ці з кім яшчэ, і той ліст
нам застанецца, а на другім лісце напішаш бацьку, каб праз паўсутак, гэта
значыць у ноч, усе вы адсюль з'ехалі
прэч, акрамя забойцы сястры маёй,
тады праз дзве гадзіны, калі ўпэўнімся,
што ўсё па правілах, цябе адпусцім,
а калі не з'едзеце, што ж, прабач; вось
кошт твайго жыцця, і дадай яшчэ бацьку
свайму, каб не рабіў глупства, не распачынаў пошукі і ўсё астатняе, інакш
табе гамон, і сыходзіць няхай пачынаюць, калі сцямнее, не раней, а Васіліну
няхай звяжуць і ў хляўку тым, дзе
забівала, пакінуць

гаварыў Даніла Прусак, а стары ўхвальна ківаў галавой, а потым чужынец пісаў лісты, потым яго, адкрыўшы люк, зачынілі ў склепе, люк замкнулі, і ключ Даніла Прусак паклаў у кішэню, а старому сказаў

цяпер, Антон Пракопавіч, трэба ліст
да бацькі яго даставіць, і будзем чакаць

і Антон Кніга толькі задаволена хмыкнуў і згадзіўся

усё правільна, сынок

а Даніла Прусак адзначыў гэта яго — “сынок” і чакаў, а стары працягваў

як ліст ім перадаць — тое ўжо мой
клопат, не хвалюйся

і пачаў збірацца ў дарогу і гаварыў

цяпер час прыспешвае, кожная секунда
дарагая, трэба, каб яны прынялі рашэнне
да ночы, а то нас пачнуць вылічваць, —
за грошы на іх уся “кантора” пачне
працаваць, так іх і гэтак, а калі з’едуць,
то і нас у спакоі пакінуць

і дадаў свае, улюбёнае

а вось цяпер... мы іх тэлеграфным слупам праз памыйную яму

пасля чаго пайшоў, а мужчына пакарміў даўнёнка і паклаў яго спаць і сам прылёг на канапу, паклаўшы далонь на прыклад карабіна, і драмаў чуйным сном, і прыслухоўваўся час ад часу, ці не чуваць са склепа крыкаў вязня, але ўсё было ціха, і мужчына ляжаў і думаў пра сына Ігната, а потым пра даўнёнка, пра тое, як



будзе з ім далей, але так нічога не надумаў, таму што рыпнулі веснічкі і стары Кніга з’явіўся ў дзвярах і сказаў

ліст дасланы, пэўна, ужо яго чытаюць,
цяпер будзем чакаць ночы — яна вырашыць

і стары дадаў, што знарок перадаў ліст праз выпадковага падлетка, бо дарослы запомніў бы яго ў твар, знайшліся яшчэ б якія прыкметы, а калі іх высачаць ці што яшчэ сарвецца, то — гамон, і літасці ад сваіх жа не будзе, а Даніла Прусак на тыя словы паляпаў па карабіне і заўважыў, што зброя пры іх, а большага аргумента ў такіх выпадках проста не існуе, на што Антон Кніга сказаў іранічна

вось вы і прыйшлі да нейкай высновы

схадзіў праверыць закладніка, і той прасіў выпусціць яго і енчыў і скавытаў у склепе, а стары зноў давёў яму, што ўсё залежыць ад ягонага бацькі і супляменнікаў, а сам, каб меў магчымасць, то проста кінуў бы яму ў склеп гранату, і прыгразіў, што выканае гэта, калі той не змоўкне, вярнуўся ў дом і гаварыў

кажаце — мы старая, выпрацаваная
нацыя, ангельцаў у прыклад прыводзіце,
якія, маўляў, на мяжы выроду, а вазьміце

кітайцаў? яны ж таксама
старая нацыя
і злаваў
яшчэ ні адзін народ не выжываў,
падстаўляючы задніцу, а сярод рабоў
ніколі не будзе адзінства, гэта яшчэ
Арыстоцель заўважыў
і буркацеў сваё і казаў
гэтыя нашэсці страшнейшыя за Чарнобыль, страшнейшыя за войны, землятрусы і паводкі, бо тыя пацукі не ведаюць ні шкадобы, ні спачування
і абураўся
а вам не дзіўна, што толькі ў нас тых
прыхадняў любяць, і вар'яцеюць ад іх,
і служаць ім, і трымцяць перад імі?
і заканчваў звыклым
...я гэтых пакладанцаў тэлеграфным
слупам праз памыйную яму
а час ішоў, і закладнік зрэдку пачынаў крычаць у склепе, ды з вуліцы яго пачуць не маглі, а чуў даўнёнак сваім вострым слыхам і нерваваўся і прасіў
хачудамоўхачудамоў
а потым пачало сутоньвацца, і стары сказаў
ну, цяпер зноў мой выхад



і патлумачыў
трэба схадзіць і на свае вочы паглядзець,
што там робіцца
і запэўніў мужчыну
я там не засвечаны, ніхто на мяне ўвагі
не зверне
і, раптам спыніўшыся, сказаў
я ўсё думаю над вашымі словамі,
і ў мяне ўражанне, што мы сапраўды
мусім дарэмна затыкаць тут плаціну,
якую ўжо прарвала, і ваду назад не
вернеш, праўда, а варта, можа, толькі
сябе ратаваць, бо аднойчы прачнёмся
і пабачым, што гэтая набрыдзь паўсюдна,
а з другога боку, насуперак ёй хіба што
вартая жалю кучка дэбілаў, апушчэнцаў,
наркаманаў ды самаедаў, якія сваіх жа
дачок ім прададуць і апраўданне таму
знойдуць
а Даніла Прусак паціснуў плячыма і змрочна заўважыў
потым будзем разважаць, а сёння ноччу
мы павінны іх адолець
на што стары сказаў
а я вось што яшчэ мяркую: каб не той
Чарнобыль, то нам ужо даўно б гамон

быў; панаехалі б з усіх бакоў прыхадні, чужынцы ўсякія, і лепшыя землі адабралі б ды захапілі б — дзе хітрасцю, дзе падманам, а дзе і сілай, а так — каму з іх асабліва ахвота ў радыяцыю лезці, а хто лезе — тыя зусім ужо набрыдзь, смецце

махнуў рукой і пайшоў, а Даніла Прусак сказаў наўздагон

будзьце пільны, вас могуць вылічыць

але стары ўжо сыходзіў, брамка рыпнула за ім, і прыцемкі засмакталі яго непрыкметную постаць; ён яшчэ бурчэў нешта незадаволена і злосна, а потым глыбей насунуў на лоб кепку і саступіў у цень, што стварылі ад святла ліхтароў дрэвы, і пайшоў далей амаль не хаваючыся, без асаблівай засцярогі, адзначаючы цупкімі вачыма былога лагерніка іншамаркі з чужынцамі, што раз-пораз праносіліся па вуліцах, асвятляючы прахожых, і міліцэйскую машыну, якая, пэўна, таксама падключылася да пошукаў, дайшоў да месца, да былой фралоўскай сядзібы, і адразу вызначыў, што манеўр з закладнікам яны разлічылі правільна, укол быў нанесены ў самае безабароннае месца, бо ў самой сядзібе і вакол ішоў "з'ём", — стары не мог памыліцца: вокны



і дзверы дома і прыбудовак былі расчынены, адтуль выносілі і выкідвалі рэчы, у паветры стаялі гоман, лаянка, віск дзяцей і жанчын, а на падворку і вуліцы сноўдалі постаці чужынцаў, якія аддавалі загады некалькім нанятым мужчынам і жанчынам з мясцовых, што пераносілі рэчы ў машыны; там-сям на вуліцы стаялі ў цемры купкі людзей і назіралі за ўсім гэтым, а на лаўцы і вакол яе то ўскоквалі і некуды бегалі, то садзіліся зноў і палілі цыгарэты дзяўчаты, і стары пасунуўся бліжэй да іх, правільна разлічыўшы, што ля моладзі пачуеш больш — і больш шчыра, і стаў глядзець і слухаць, і чуў, як дзяўчаты перакідваліся ўражаннямі, і нерваваліся, і выкрыквалі

ай, бля, зірні, яны і праўда едуць!

а потым паказвалі пальцамі і гаварылі

ім загадалі, так

і казалі зноў

а Карым прапаў, не знойдуць

і ківалі ўбок, дзе пад дрэвам стаяла дзяўчына гадоў шаснаццаці ў кароткай белай сукенцы, што не хавала яе цяжарнасці, і, прыціскаючы далоні да твару, плакала то ціха, то больш гучна, і дадавалі

яна ж на пятым месяцы

і адпівалі проста з рыльца бутэлькі і давалі глынуць цяжарнай сяброўцы, суцяшаючы

ну і народзіш, многія раджаюць

а тая адразу істэрычна крычала

не, я не магу без яго!

і ёй соўгалі ў руку бутэльку

выпі, лягчэй стане

а цяжарная выгіналася ўсім целам і са стогнам смактала з рыльца і зноў енчыла

я яго кахаю, так, кахаю

і ёй гаварылі

бедненькая, ну давай цябе ўколем, і ты адразу ўсё забудзеш

і пыталіся

у каго "машына", дзевачкі?

і ўжо даставалі шпрыц, а на старога побач не звярталі ўвагі, быццам ён не існаваў для іх успрымання, і гэта, апошняе, больш за ўсё ўразіла Антона Кнігу, ён быў нават здзіўлены і спытаў

што тут за разборка, дзяўчаты,

можа, патлумачыце?

і яму адказалі нядбайна і на "ты"

усё па жыцці, дзед, хіба не бачыш

і зноў быццам выключылі яго з успрыняцця, нібы жывёлу, і выгіналі целы і тэатральна, а можа, хто і шчыра, ускрыквалі і заломвалі рукі і бедавалі

ай, я таксама не перажыву, дайце глынуць



і пыталіся

у каго бутэлька, дзевачкі?

а стары стаяў і назіраў і ў думках папрасіў, каб усё адбылося так, як яны запланавалі, і каб разысціся з гэтымі людзьмі ціха і без крыві, бо ў яго ў склепе ўсё яшчэ сядзеў закладнік, а ў хаце, як сцятая спружына, ледзь стрымліваў сябе мужчына са зброяй у руках, і стары слухаў увесь гэты дзіўны і несумненны вэрхал адыходу: крыкі, плач, мацюкі, і нібы чакаў яшчэ нейкага знаку, які б засведчыў абсалютную рэальнасць таго, што адбывалася перад яго вачыма, і раптам сапраўды гэты знак быў ім пачуты: прыглушанае чалавечае выццё данеслася да яго-нага слыху

гу-а-а-а-а-а-а-а!

потым праз кароткую паўзу зноў

гу-а-а-а-а-а-а-а!

і стары падышоў да брамы і зазірнуў на падворак, каб вызначыць крыніцу гэтага несумненна чалавечага скавытання, і раптам вызначыў — голас ішоў з прусакоўскага хлеўчыка: у слабым святле ліхтара з вулічнага слупа можна было ўбачыць, як туды ўжо бег нехта з чужынцаў, бразнулі дзверы, данёсся яшчэ крык, нібы ад раптоўнага болю, а потым усё сціхла, а стары

зрабіў сабе засечку ў памяці, ён адчуў сябе зусім вольна ў гэтым гармідары і назіраў, як у былой фралоўскай сядзібе і з прусакоўскага дома паступова выцякала іншародная плынь, зноў вызваляючы затопленую ёю тэрыторыю; пад'ехала патрульная машына, з якой вылез і пагаварыў аб нечым з чужынцамі афіцэр-міліцыянт, а потым зноў знікла ў ночы, на хуткасці пад'язджалі і зноў ад'язджалі іншамаркі чужынцаў, — пошукі закладніка, пэўна, мусяць працягвацца да апошняй хвіліны, прызначанай у лісце, да дзвюх гадзін ночы, — меркаваў стары, — але ж вызначыць месцазнаходжанне закладніка не так ужо і проста, і стары аднавіў у галаве засечку пра тое, што чуў з хлеўчыка голас, і намагаўся прыгадаць, хто б гэта мог крычаць, але гармідар і мітусня навокал увесь час распылялі яго ўвагу на дробныя фрагменты, і стары пакрысе пачаў адступаць назад, а потым увогуле зліўся з цемрай і скіраваў да дома, каб давесці пра ўсё мужчыну, што чакаў яго, а Даніла Прусак толькі сціснуў сківіцы, калі пачуў ад старога пра тое, што адбывалася, і сказаў

цяпер, Антон Пракопавіч, усё вырашаць
мне, заставайцеся і сцеражыце таго
ўблюдка ды малога прыглядзіце



і дадаў

калі не вярнуся да раніцы, самі вырашайце, што рабіць

а стары толькі параіў

сцеражыцеся, бо вы там адзін будзеце

і пашкадаваў

гэх, зброі малавата, бярыце карабін

падумаў і вырашыў

я з вамі

але мужчына ахаладзіў яго

ні ў якім разе, і зброі не трэба

і саступіў у цемру, і ноч прыняла яго ў сябе, — ён ішоў амаль не таячыся, толькі сустрэча з патрульнай міліцэйскай машынай, як ён меркаваў, магла адразу перашкодзіць яму, але тут ужо было перадвызначана — альбо так, альбо гэтак, і дайшоў такім чынам да брамы свайго дома і ўбачыў, як ля былой фралоўскай сядзібы мітусіліся постаці чужынцаў, але ніхто з іх не пазнаў яго; зайшоў у свой дом — ён быў пусты, толькі тамсям бачыліся сляды пакражы і прысутнасці няпрошаных гасцей, агледзеў усе пакоі і напраcткі, не хаваючыся, пакрочыў цераз павалены плот, і толькі тут яго заўважылі і закрычалі ўстрывожана, але ён ужо адкрываў дзверы адны за другімі, — вішчэлі жанчыны, разбягаліся па баках

падлеткі, і ўрэшце ўбачыў знаёмы твар іх старэйшага — той сядзеў у самым далёкім пакоі на крэсле, быццам нікуды не збіраўся, твар яго на гэты раз быў чыста паголены, і трохвугольны чэрап блішчэў пад святлом плафона, і, убачыўшы Данілу Прусака, ён нават не паварушыўся і відавочна не здзівіўся, а сказаў па-расейску, але з незнаёмым акцэнтам, як гаварылі ўсе яны

> я знал, что ты прыдёшь, давай чэнч: я —
> то, что тэбе надо, а ты мне — сына

але мужчына падсумаваў

> праз дзве гадзіны пасля таго, як з'едзеце
> адсюль, а забойцу сястры пакінеце

і саступіў убок, стаўшы спінай да сцяны, а чорныя каламутныя вочы чужынца сустрэліся з яго позіркам, і той сказаў

> без обмана, наша машына подождёт

а мужчына папярэдзіў

> да вас не падобна, але калі падман будзе,
> то я пачну страляць, ты ж ведаеш,
> і першай ахвярай будзе твой сын

а чужынец толькі пацмокаў губамі

> в том и причина, что ты смерти не боишься

сказаў ён, крыкнуў нешта па-свойму ў прыадчыненыя дзверы і працягваў



> ты сумасшедшый — так, у тэбя с головой проблема

і, не тоячы намераў, працягваў сваю думку — гаварыў пра тое, што так, ім спачатку трэба была прастора, зямля ў першую чаргу, але з'явіўся ён і стаў перашкодай, яны проста не прынялі ў разлік, што можа быць супраціў, пра тое, што яны потым і так з'ехалі б адсюль, ну, пакінулі б дзве сям'і, не больш; ім ужо тут цесна, ды хіба адзін дом заняты намі — ужо хутка чвэрць гэтага горада наша, і зямля стала нашай, і яны экспансуюць сталіцу, туды ўжо і грошы адпраўлены — на подкуп, на хабар, і зямля там для іх гатовая, а вашых людзей, — даводзіў ён, — купіць вельмі лёгка, ды ты і сам бачыш, хоць ты і вар'ят, хто праз дзесяць гадоў будзе тут пры ўладзе, хто будзе сапраўдны гаспадар, вы ж бездапаможныя, хціўыя і раз'яднаныя, і калі нават ты пра мае гэтыя словы будзеш з раніцы да вечара штодня на плошчы крычаць — усё роўна табе ніхто не паверыць і нікога ты не пераканаеш, — гаварыў ён, — а мужчына спытаў

> дарэчы, маё зняволенне, і пагроза забойства, і тэатральшчына з вяроўкай,
> якую ў камеру падкінулі, — таксама
> вашы задумкі?

і чужынец толькі надзьмуў пульхныя шчокі і паведаміў, што тое далёка не тэатральшчына, бо жыццё яго, Данілы Прусака, было ў той час не вартае пляўка, няхай успомніць Кліма Фралова, тутэйшага гаспадара, Даніла ж Прусак спытаў

вы прызнаяце і гэтае забойства?

а той толькі ўсміхнуўся шматлікімі залатымі каронкамі зубоў і сказаў, што забіваюць не яны, а тутэйшыя ж тутэйшых, і будуць гэта рабіць і далей, і яго, Данілу, таксама калі-небудзь заб'юць, бо такія, як ён, не выжываюць, і нават калі ён выйграе сёння — то заўтра будзе ўсё роўна ў пройгрышы

а тэпэр иды и адпусти сына

сказаў ён і крыкнуў у дзверы

покажите ему Василину!

і мужчыну павялі да хляўка, адчынілі дзверы, запалілі святло, і ён убачыў у лужыне крыві пакаёўку чужынцаў — вены на яе звязаных руках былі перарэзаны, не інакш, твар і выскаленыя зубы запэцкаліся ў крыві, яна была яшчэ жывая і, убачыўшы Данілу Прусака, прахрыпела

я забіла

і ўсё цягнулася да чужынцаў, прагнула быць з імі і прасіла

забярыце мяне, забярыце альбо дабіце



і мужчына здзівіўся ў душы гэтай халопскай адданасці і халопскай жорсткасці і пайшоў прэч, а праз некалькі хвілін пачаўся ад'езд: раўлі перагружаныя машыны чужынцаў, крычалі дзеці і падлеткі, а мужчына пайшоў у свой дом, знайшоў бутэльку з бензінам і абліў пакоі былой фралоўскай сядзібы і падпаліў, а праз некалькі хвілін дом ужо гарэў, і ён сказаў у ноч

больш сюды не вернецеся

і толькі скрыгатнуў зубамі, уявіўшы сабе, як праз якую гадзіну-паўтары, якраз на зыходзе ночы, гэтыя ж чужынцы ўедуць на ўскраіну вялікага горада, сталіцы, і зоймуць спачатку дом, які ўжо раней быў імі прыгледжаны, а потым і куплены, і, як пацукі, да раніцы ўладкуюцца ў ім, і ўсё пойдзе ў іх там, як і тут да сённяшняй ночы, — толькі з большым імпэтам: пацягнуцца да іх у цемру таксі за "дурру" і "шмалю", пойдуць на вуліцы іх дзеці, але ўжо не для таго, каб прыкідвацца жабракамі, а з пакецікамі парашку, які будуць у іх купляць на тых жа вуліцах напаўапантаныя недавяркі, зрушаныя на дурной модзе, шматлікія расчараваныя ў жыцці, розныя няўдачнікі і проста апушчэнцы ды хворыя на замаскіраваны суіцыд, а да лаўкі перад брамай іх кубла пацягнуцца мясцовыя дзяўча-

ты і стануць манерна адстаўляць пальцы і хіхікаць юрліва

хехехехе

а потым зацяжараць і народзяць мяшанцаў, і гэта будзе працягвацца ва ўсё большых і большых памерах, і Даніла Прусак успомніў словы іх галоўнага, іх правадыра, і на імгненне яму стала вусцішна, але ён адразу адкінуў гэтае пачуццё і зноў, амаль не тоячыся, пайшоў да старога, і ніхто не сустрэўся яму ў цемры, хіба што праімчалася насустрач пажарная машына з уключанай сірэнай, ды толькі ці знойдуць там, што тушыць, — думаў ён, — і азірнуўся на паланіцу, а потым яны выпусцілі са склепа заложніка, і стары трос у таго перад носам карабінам і пужаў

зараз шваркну наглуха

і заложнік мяняўся з твару, станавіўся шэрым, як ляжалае сала, і прасіў умольна

отпусты, отец заплатит деньги

а стары не сунімаўся

на зону б цябе, вылупня, адразу б акруглілі

і пытаўся ў мужчыны

можа, адрэжам яму тое-сёе?

і ўрэшце, узнагародзіўшы выспяткам, выгнаў таго прэч, і Даніла Прусак упершыню ўсміхнуўся, а раніцай стары схадзіў на рынак і прынёс адтуль труса, белага колеру і з чырвонымі вачыма, і даўнёнак карміў яго дзьмухаўцамі і казаў

Піля

і паўтараў

ПіляПіляПіля

і глядзеў бяздумна, як чырвоны дыск сонца ўздымаецца над даляглядам, высвечваючы драхлыя будынкі і кволыя, самотныя дрэвы і траву пад імі, і гаварыў

мы грэбаныя псіхі

*Студзень — жнівень 1998 г.*

# ДЫЯЛОГ УСЛЕД

**Франц Сіўко**. Юры, змешчаныя ў гэтым выданні творы “Любіць ноч — права пацукоў” і “Удог” былі напісаныя амаль адначасова, прыкладна дваццаць год таму. Што табе сёння найперш узгадваецца з гісторыі напісання рамана? Чым быў абумоўлены выбар тэмы?

**Юры Станкевіч**. На працягу больш як двух стагоддзяў наш народ спрабуе самавызначыцца і церпіць на гэтым цяжкім шляху паразы. Бясконцыя войны ВКЛ з паўсталай на ўсходзе ардынскай імперыяй, выкарыстанне тутэйшых земляў у якасці арэны вайсковых баталій, працяглыя плыні эміграцыі, масавыя зачысткі, асабліва сярод эліты, у ходзе камуна-бальшавіцкай мутацыі і, урэшце, эпоха мультыкультуралізму з наплывам прыхадняў, што заўсёды падсцерагае аслаблены арганізм, — такія нашыя рэаліі.



І калі ВКЛ было абаронена законамі Статута 1588 года і ўпарта стаяла на варце інтарэсаў менавіта сваіх грамадзян, то наступныя часы адкінулі грамадства ў безвыходнасць. Войны, асабліва Другая сусветная, “падчысцілі” Беларусь этнічна. А бязладдзе ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, сацыяльная безабароннасць насельніцтва прывялі да таго, што краіну сталі называць “прахадным дваром”.

З’явіліся мігранты. Вядома, мы павінны з павагай і разуменнем ставіцца да людзей іншых нацыянальнасцяў. Але пускаць у краіну ўсіх без разбору — адна з найвялікшых небяспек. Калі колькасць мігрантаў дасягае 15-ці адсоткаў ад агульнай колькасці насельніцтва, краіна згубіць мову, нацыянальную адметнасць і, урэшце, можа згубіць незалежнасць. Так лічаць і навукоўцы.

Сервілізм і прыніжэнне — цяжкі псіхалагічны цяжар. Такі цяжар патрабуе выйсця — у першую чаргу менавіта ў мастацтве. Магчыма, таму і з’явіўся кароткі, напісаны цягам двух тыдняў, раман “Любіць ноч — права пацукоў”, які нечакана набыў шырокі розгалас. Апошняе значыць, што аўтар закрануў набалелае. Увогуле, націскаць на болевыя кропкі грамадства — хіба гэта не адна з асноўных задач пісьменніка?

**Франц Сіўко**. Для мяне псіхалагічным цяжарам, што патрабуе выйсця, то бок каталізатарам узяцца за пяро, стала згадка з часоў дзяцінства пра гульні з запалкамі ў пуні. Гэта была такая рызыкоўная, страхавітая гульня на мяжы трагедыі: чыркаеш запалкаю аб карабок, шпурляеш яе запаленую на сена ці салому. А затым, як толькі кавалак кладні займецца полымем, кідаешся на яго ніцма, стараешся ўласным целам загасіць. На шчасце, не даць агню пашырыцца да маштабу бяды неяк заўсёды нам, адчайным варванцам, шанцавала. Але згадка пра імаверныя наступствы ў выпадку, калі б раптам сталася іначай і здарыўся пажар, засела стрэмкаю ў памяці на ўсё жыццё. Пакуль у рэшце рэшт не вылілася ў дэталь сюжэта.

"Удог", у адрозненне ад "Любіць ноч — права пацукоў, пісаўся даволі доўга — дзесьці каля года. Прычым — рэдкі выпадак — без аніякіх творчых пакутаў і самапрымусу. Часам — можа, таму, што і матэрыял быў добра, да драбніц, вядомы, і сутнасна тоеснае ўнутранаму "я" выкладалася на паперу, — узнікала такое ўражанне, быццам само аднекуль з нетраў падсвядомасці ліецца. Я тады толькі што канчаткова адышоў ад няпростага душэўнага ўзрушэння, у галаве было вольна і лагодна, як бывае пасля доўгай, што, нарэшце, усё ж



такі скончылася, хваробы, таму працавалася лёгка. Дапамагала і вынаходлівасць, без якой, лічу, у нашай пісьменніцкай справе — ні туды, ні сюды.

Рукапісы свае заўсёды доўга парадкую, даводжу да ладу. (Талстой у сталыя гады такую карпатлівую манеру працаваць лічыў праявай "тщеславия", з чым не магу пагадзіцца.) Вось і "Удог", твор не такі ўжо кампазіцыйна просты, гэткага доўгага, з клеем і нажніцамі ды бясконцымі даробкамі-пераробкамі, парадкавання не пазбегнуў. Гэта было, без перабольшання, свяшчэннадзейства. Штодзённае, немітуслівае, няспешнае, якое дагэтуль узгадваю з прыемнасцю.

Потым рукапіс прыблізна год "цукраваўся", ляжаў на працы ў скрыні стала. Не даючы рады ацаніць плод уласнага творчага шчыравання, усё ніяк не асмельваўся яго нікуды адсылаць. Да тае хвіліны, як адзін з журналістаў, што сядзеў у пакоі побач, не папрасіў пачытаць і па прачытанні не параіў тэрмінова аддаваць куды-небудзь у часопіс для друку. Так у 2001 годзе з'явілася публікацыя ў "Полымі".

**Юры Станкевіч**. Ці можна сказаць, што, апроч гісторыі з запалкамі, у аснову сюжэта твайго твора леглі і нейкія іншыя, можа, хоць і канкрэтныя, але больш значныя з'явы і падзеі?

**Франц Сіўко**. Дакладна так было. Успамін пра эпізод з запалкамі быў штуршком да асэнсавання і адлюстравання дзеі больш шырокага плана — канкрэтнага досведу калектыўнага руйнавання помніка матэрыяльнай культуры і яго ваколіц, у якім мне і самому “пашчасціла” паўдзельнічаць. Маю на ўвазе разбурэнне так званых пакояў — сядзібнага дома XVII стагоддзя ў былым панскім двары Міжрэчча, што ў Мёрскім раёне. Здымкі якога, дарэчы, зрабіў у 1910 годзе знакаміты фотамайстар Ян Булгак. Дрэва ўдог, выведзенае ў творы, мае прататып — рабінку, што вырасла на рэштках цаглянай сцяны пакояў пасля таго, як яны былі на мяжы 50−60-х гадоў мінулага стагоддзя разбураныя. Што да персанажаў твора, то ў гэтым сэнсе цалкам спісаная з натуры Стася, нават імя жанчыны не зменена.

Дарэчы, у сувязі з сюжэтам твайго, Юры, рамана ўзгадваю эпізод з часу сваіх выездаў са студэнтамі на дыялекталагічную практыку. Як на Талачыншчыне трапілі ў такую маляўнічую, неверагодна прыгожую, утульную старасвецкую вёску, дзе, з аднаго боку — спраўныя, гаспадарлівыя, акуратныя мясцовыя жанчыны паважнага веку, з другога — плойма 30−40-гадовых нецвярозых прыбышоў, мужчын і жанчын, што з раніцы да вечара таўкуцца ля дзвярэй крамы. Быццам два светы апынуліся поруч, на адным лапіку жыццёвае прасторы. Памяркоўныя, далікатныя гаспадары ўчарашнія і воляю лёсу новыя — неахайныя, нахабныя, бессаромныя. На той момант гэтая праблема такога маштабу, як цяпер, яшчэ не дасягнула, але з’яўленне ў 1998 годзе твора “Любіць ноч — права пацукоў” у плане яе адлюстравання бачыцца сёння, праз гады, надзвычай своечасовым.

**Юры Станкевіч**. Вядома, тое, што я бачыў у канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя, і тыя звесткі, якія да мяне даходзілі, выклікалі трывогу. Сама ўнікальнасць нашага народа апынулася пад пагрозай: там арганізаваныя прыхадні лупцавалі мясцовых рабацяг палкамі, там аказалася суцэльнае “кідалава”, там сексуальнае рабства з выманьваннем да выезду наіўных дзяўчат і г. д. Улада вагалася і не бараніла нікога, апроч сябе. Ажывіўся крымінал. Гэта пра той час з іроніяй напісаў паэт:

*Розная набрыдзь трэ смэркі аб нашы абрусы.*
*Мы — беларусы.*

Эміль Мішэль Чаран, французскі філосаф-эсэіст, папярэджваў пра тое ж: “Нацыя, што згубіла гонар і перастала бачыць у сабе сэнс ці галоўны кошт Сусвету, сама сабе адразае далейшае развіццё”. Фрыдрых Ніцшэ сімвалічна і ненавязліва адзначыў, што ёсць народы “жаночыя”, а ёсць тыя, што апладняюць, — “мужчынскія”. Да якога кшталту народаў адносіцца наш? Няхай на гэтае пытанне кожны адкажа сабе сам.

**Франц Сіўко**. І “Любіць ноч — права пацукоў”, і “Удог” выклікалі ў свой час бурную рэакцыю ў асяроддзі чытачоў, якіх тады яшчэ было ў нас, беларускамоўных літаратараў, калі і не вельмі многа, але ж і не вобмаль, як у параўнанні з днём сённяшнім. Напрыклад, мне было шмат тэлефанаванняў, і не толькі з горада, дзе жыву, але і з іншых рэгіёнаў Беларусі. Памятаю зычлівыя, зацікаўленыя тэлефанаванні ад настаўнікаў з Наваполацка, ад чытачоў з Крупак, Браслава, Гомеля, ад іншых, часам зусім незнаёмых, людзей. Мне, папраўдзе, была гэткая ўвага нязвыклая. Жывучы на перыферыі, часта міжволі апынаешся і на перыферыі творчага жыцця, што накладвае адбітак і на бачанне свайго месца



ў творчым асяродку, і, адпаведна, на манеру паводзінаў у ім. І, канечне ж, на самаацэнку. Зразумела, што ў такой сітуацыі меркаванне пра зробленае табою чалавека, які сам не з’яўляецца суб’ектам гульні на творчым полі, асабліва калі яно яшчэ і станоўчае, вельмі важнае.

**Юры Станкевіч**. Дзесьці з той жа сярэдзіны 90-х мінулага стагодзя я працаваў у рэдакцыі часопіса “Крыніца,” які лічыўся на той час самым элітарным часопісам у краіне, што, верагодна, і садзейнічала неўзабаве ягонаму закрыццю. Прыкладна тады і напісаў невялікі па аб’ёме раман. Спачатку яго надрукавала “Крыніца,” а потым, у перакладзе на расейскую мову, часопіс “Нёман”. Па форме і змесце ён выклікаў шырокі розгалас і спрэчкі. Магчыма, у той час я і займеў свайго чытача. Гэта была ў асноўным моладзь правага накірунку, студэнты, якія спавядалі нацыянальную ідэю, усе прыхільнікі нашага адраджэння, шматлікія сябры партыі БНФ.

Па выхадзе кнігі ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, нягледзячы на прыхаваны супраціў тагачаснага дырэктара Г. Марчука, я быў нават уключаны ў спіс намінантаў на дзяржаўную прэмію, але прагназавана пазбегнуў гэткага “шчасця”.

**Франц Сіўко**. Памятаеш, як успрынялі “Любіць ноч...” тагачасныя крытыкі і калегі-літаратары? Больш было станоўчых водгукаў ці адмоўных? І як ты да іх паставіўся?

**Юры Станкевіч**. Так, на раман тады, у канцы 90-х — пачатку 2000-х гадоў, калі выйшла кніга, было шмат усялякіх водгукаў і рэцэнзій, але самае нечаканае адбылося параўнальна нядаўна: кніга “Любіць ноч — права пацукоў”, паводле адзнак вядомых крытыкаў, трапіла ў “топ-50” лепшых кніг, выдадзеных у краіне за 500 год з пачатку паршадруку. І гэта нягледзячы на мяккую вокладку, неахайнасць афармлення і г. д. Выратаваў і пераважыў, мусіць, сам тэкст.

**Франц Сіўко**. У мяне таксама водгукі ўсялякія былі. І іх танальнасць залежала, як бы нехта з тых жа крытыкаў і калег ні хаваў гэта пад маскаю аб’ектыўнасці, найперш ад погляду на наша грамадска-палітычнае ўладкаванне, ад заангажаванасці на беларушчыну або, наадварот, непрымання яе. Былі ўхвальныя, былі, наадварот, аглабельныя, надуманыя, замяшаныя на пысе і прадузятасці. Але я надта, папраўдзе, апошнімі



не пераймаўся. Бо, па-першае, не крытыкам адзіным, калі перафразаваць вядомае выслоўе, жыве і жывіцца літаратура. А па-другое, ці кожны, хто крытыкам назваўся і са скуры ды штаноў гатовы вылузнуцца, каб у гэткай ролі сцвердзіцца, ім з’яўляецца? Калі гэта чалавек з прыроджанай схільнасцю да сапраўднай крытыкі, з належным кругаглядам, адчуваннем слова, досведам і густам (такіх, безумоўна, хапае ў нашай літаратуры) — гэта адно, да меркавання такога і прыслухацца не грэх. Калі ж за справу бярэцца асоба, якая, бачыце, шмат усялякага-рознага прачытала і з гэтае прычыны шмат узяла ў галаву наконт сваіх літаратуразнаўчых здольнасцяў ды яшчэ вырашыла стаць па сумяшчальніцтве і суддзёй, — зусім іншае.

Я сам з часоў маладосці люблю чытаць крытычныя артыкулы. Менавіта крытычныя артыкулы, а не трызненні на тэму, пра тое ці не пра тое, што жадаў бы той ці іншы крытык, напісаны твор. Для мяне наогул сама пастаноўка пытання аб правамоцнасці выбару тэмы — непрымальная. Перакананы, што падставаю і матэрыялам для творчае інтэрпрэтацыі можа быць усё. Апроч хіба што прасоўвання ідэй чалавеканенавісніцтва, ды і то залежыць — як падаць.

**Юры Станкевіч**. Нам абодвум некаторыя крытыкі “закідвалі” ачарніцельства. Як ты ставішся да такога абвінавачання?

**Франц Сіўко**. Даволі абыякава. Каго ці што я ачарніў? Я выказаў уласны погляд на з’яву і меў на гэта права. У творчасці азірацца на некага — шлях у нікуды. Таму і разгортваць гэтую тэму ніколі не бачыў патрэбы. Некаму нешта здалося — ну і на здароўе.

**Юры Станкевіч**. Як на мой погляд, прыпісванне “ачарніцельства” — распаўсюджаны спосаб укусіць аўтара. Яно і зразумела: узнімаючы балючыя жыццёвыя пытанні, заўсёды рызыкуеш спраавакаваць варожасць. Да гэтага, сапраўды, варта ставіцца спакойна, абвяргаць некаторыя абвінавачанні не мае сэнсу. Мяне, прыкладам, упікаюць у ксенафобіі, нацыяналізме, расізме і г. д. Але што дрэннага ў той жа ксенафобіі? Не будзь яе, не было б жыватворчай рознасці культур.

У рамане я не вінавацію ніводную нацыянальнасць, ніводны народ, няма на гэта нават намёку. Прыхадні ў тэксце — гэта абстрактная з’ява. У асноўным жа я з горыччу абвінавачваю сваё ж насельніцтва за сервілізм і згубную схільнасць да самазнішчэння. Бо, як заўважыў калісьці філосаф: ”Шкода добрых — самая шкодная шкода”. Да ўсяго, я варагую з ужываннем вульгарызмаў і ўсюдыіснага расейскага мата.

**Франц Сіўко**. А як на тваё меркаванне, погляд крытыкаў на абраную пісьменнікам тэму са згаданай намі пазіцыі “пра тое — не пра тое” — праява сапраўднага клопату пра лёс роднае літаратуры, як гэта часта некаторымі крытыкамі дэкларуецца, ці ўсё-такі звычайныя выдаткі паліткарэктнасці? Асабіста я чамусьці перакананы, што апошняе. І тут не мае значэння, ці сама па сабе яна, гэтая паліткарэктнасць, у чалавеку прарасла, то бок з’яўляецца натуральнаю праяваю яго светаадчування, працягам унутранага “я”, ці то гэта — вынік нейкіх штучных, прыстасавальніцкіх матываў. Зрэшты, можна было б яе і не згадваць, калі б яна такім буйным цветам не расцвіла апошнім часам у айчыннай літаратуры. Асобнаму аўтару ў плане будовы кар’еры яна можа быць і на карысць, а для літаратуры наогул, нават калі часам і служыць ёй у плане прасоўвання на новыя абшары-абсягі, — згубная. Асабліва тады, калі стараннямі адэптаў пачынае жывасілам уводзіцца ў канон.

**Юры Станкевіч**. Тут важна не забываць, што лёс нашай літаратуры, мовы — ля апошняй мяжы. Сапраўднае і вартае часта апынаецца ў зацені, а наперад раз-пораз высоўваюцца артадаксальная графаманія альбо эстэцкае пустазвонства і літаратурны гламур. Усё падаецца нярэдка з істэрычным, навязлівым нарцысізмам. З маніякальнасцю насякомых прасоўваюць асобныя "літбегуны" свае недатворы — тое, што ўжо даўно адрынута за мяжой. Прасоўваюць, дыскрэдытуючы тым самым беларускую літаратуру, не саромеючыся, што друкуюць іх там з жалю, як убогіх і пацярпелых. Адзін пры гэтым крычыць, што ён — гей, другі: "Я — марксіст", трэці: "Я — феміністˮ, чацвёрты, баязліва страхуючыся ад абвінавачванняў нашых прыхаваных ворагаў: "Я не нацыяналіст" і г. д.

**Франц Сіўко**. А як наконт сённяшняга дня ды праекцыі сюжэтаў нашых твораў на дзень заўтрашні? Тэмы рамана "Любіць ноч — права пацукоў" і аповесці "Удог" застануцца надалей актуальнымі? Што нам падказвае на гэты конт наш жыццёвы досвед? Асабіста ў мяне быў такі час, калі пад уплывам нейкіх акалічнасцяў засумняваўся. Але вось здарыліся трагічныя ўкраінскія падзеі, і ўсё высвецілася па-іншаму.

**Юры Станкевіч**. Мы жывём у трывожны час. Глабальныя метафізічныя мутацыі: хрысціянства, а пасля левага перавароту 1917 года камуна-бальшавізм — адсунулі чалавецтва назад, у бездань. "Французская рэвалюцыя, — як прадбачліва адзначыў Ф. Ніцшэ, — будзе здавацца лёгкім нетраўленнем страўніка ў параўнанні з будучымі катаклізмамі". Што і адбылося.

Між тым, абяцаная навукоўцамі Тэорыя Усяго так і не вызначана, а агульнапрынятыя догмы і веды зайшлі ў тупік. Мы ўсе можам апынуцца ў бліжэйшы час сам-насам з ашаламляльнай і неверагоднай праўдай. Асобныя думкі і рэплікі навукоўцаў пра гэта часам прасочваюцца вонкі. Так, нядаўна вядучы спецыяліст па касмічнай навігацыі Ілан Маск аўтарытэтна заявіў, што "адзін шанец з мільярда за тое, што мы існуем у базавай цывілізацыі". Раней думку, што наш Сусвет — субматэрыя і сімуляцыя, выказаў і вядомы трансгуманіст, філосаф і навуковец Нік Бострам. А яшчэ раней — яго папярэднікі.

Увогуле, чалавецтва на пераходзе: магчыма, у будучым — гэта мультырасавы глабальны кацёл,

а магчыма, які-небудзь адзін шматлікі народ узначаліць планетарнае мысленне — хто ведае? Існуе небяспека ядзернай вайны, экалагічная небяспека. Лёс малых народаў, да якіх адносіцца і наш, беларускі, — залежыць цяпер толькі ад нас саміх. Як на маю сціплую думку, жыццё — гэта ўвогуле ціхі трыумф паразітаў, а не за гарамі і магчымая варварызацыя, якую варта прадбачыць і быць да яе падрыхтаванымі. Мяркую, такія невялікія па аб'ёме творы-папярэджанні, як “Удог” і мой “Любіць ноч — права пацукоў”, напісаныя 20 год таму, застануцца актуальнымі і далей, бо праблемы, закранутыя ў іх, толькі ўсё больш абвастраюцца.

Як раіў Васіль Быкаў, нам трэба ўжо цяпер “кансерваваць” сваё нацыянальнае і берагчы яго да спрыяльных часоў. У тым ліку — і ад прыхадняў. Бо нават калі і дзяржава можа знікнуць, то наша ідэя не памрэ ніколі.

**Франц Сіўко**. Трэба быць зусім сляпым, каб не бачыць: праблема страты памяці ў нас з кожным днём усё больш разрастаецца, усё глыбей пускае карэнне. У немалой ступені дзякуючы патуральніцтву прадстаўнікоў творчых прафесій. У тым жа літасяродку (пра абсалютную большасць музыкаў і мастакоў дык і казаць не выпадае) нямала людзей, для якіх усё, апроч іх саміх і іх патрэбаў, — рэчы неістотныя, другасныя. У іх можа быць неблагая адукацыя, яны амбітныя, на роднай мове няблага, а то і вунь як хораша часам размаўляюць. Але дбанне пра інтарэс калектыўны, дзяржаўны ў незашмуляным сэнсе гэтага слова, скіраваны на дзейснае сцвярджэнне, умацаванне свайго, ім неўласцівае. Яны могуць выступіць у ролі прыхільнікаў свайго, але да пары да часу. Бо стрыжань светапоглядны ў іх адсутнічае, яны з ліку тых персанажаў, якіх узгадваў (у іншым, зразумела, кантэксце) класік: хутка на іх нахлынвае, але гэтак жа хутка і схлынвае. Яны кажуць: усё лухта. Ды пры гэтым ані не сумняваюцца, што ёсць на свеце нешта і з катэгорыі не-лухты — гэта яны самі і іх тварэнні. Калі, сапраўды, мець на ўвазе, што ўсё ў краіне залежыць ад нас саміх, што менавіта з сябе ў любой справе трэба кожнаму найперш пачынаць, то варта прызнаць: такія асобы часам для беларушчыны — зло не меншае за ўсіх так званых прыхадняў, разам узятых.

Гэта — калі казаць на тэму страты памяці, размывання самасвядомасці ды староннніх уплываў, адлюстраваную ва “Удогу”. Праблематыка ж

рамана “Любіць ноч — права пацукоў” у святле міграцыйных працэсаў наогул на сённяшні дзень уяўляецца жыццёва надзённай і, мабыць, назаўсёды такой застанецца. Так што шукаць сябе ў сутарэннях няпэўнасці, нявызначанасці нам яшчэ доўга. Адпаведна, і карпатлівай штодзённай працы на даляглядзе — на стагоддзі. Ну і няхай — чым мы або нашыя нашчадкі лепшыя за папярэднікаў?

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# Дыялог

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Дызайн вокладкі *Лізавета Валанцэвіч*
Вёрстка *Дар’я Пушкар*
Карэктура *Аліна Дубровіч*

У аўтарскай рэдакцыі

Падпісана да друку 25.02.2020. Фармат 84×108/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 14,7. Ул.-выд. арк. 6,8. 18+
Наклад 000 асоб. Замова .

ПВУП “Галіяфы”.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/48 ад 03.10.2013.
Пр. Партызанскі, 77А, 220107, Мінск, Беларусь.
E-mail: vish@bk.ru
www.halijafy.by

Надрукавана ў Літве.
AB “Spauda”
Laisvės ave. 60,
LT-05120, Vilnius